УДК 821.161.3.09(092)+929 Іверс
ББК 83.3(4Беи)
Ж11

Укладанне і каментар
Сяргея Чыгрына

Кніга выдадзена рупнасцю ўнука Анатоля Іверса
спадара **Аляксандра Міско**

**Жыццё** і творчасць Анатоля Іверса : успаміны, згадкі,
Ж11 рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі / уклад. і камент. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 208 с.
ISBN 978-985-7007-47-9.

Выданне прысвечана памяці Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско) (1912–1999), беларускага паэта, журналіста і публіцыста, удзельніка Другой сусветнай вайны. У кнізе праз успаміны сяброў, літаратараў, землякоў раскрываецца непаўторная і таленавітая асоба, цікавая творчая біяграфія аднаго з выдатных людзей Слонімшчыны.

**УДК 821.161.3.09(092)+929 Іверс**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-47-9**

*Анатоль Іверс*

# Мой жыццяпіс

Пачатак майго жыццяпісу вельмі падобны да пачатку біяграфій сельскіх хлапчукоў-аднагодкаў. Толькі шляхі-дарогі разводзілі ў розныя бакі, а потым, вядома, тыя ж дарогі не ўсіх вярталі ў роднае бацькоўскае гняздо. І той далёкі кавалак жыцця нельга ніколі забыць. Пісьменнікі вобразна гавораць, што там нашы карані. Але вось бяда, існуюць на свеце цёмныя сілы, якія імкнуцца (што часта ім удаецца) падсекчы ў маладыя гады карані, каб спыніць нацыянальнае сілкаванне.

Нарадзіўся я 15 мая 1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна. Тры гады дзяцінства, якое пратупацела па родных сцяжынках у шуме жыта і водары веснавых траў, пакінулі адбітак на ўсё жыццё. Менавіта з трохгадовай вышыні я помню малюнкі наваколля, што акружала мяне, што знітоўвала з ласкавай беларускай прыродай. І гэтае адзінства пры ўсялякіх абставінах ніколі не парушалася. Відаць, варожыя сілы, якія не спыняюць сваёй дзейнасці, не змаглі перарэзаць жыватворчыя капіляры.

Адным з найбольшых для чалавека дароў прыроды з'яўляецца памяць. Памяць свайго, роднага, без чаго цяжка, а ў некаторых выпадках немагчыма жыць. Вядома, зразумеў я гэта не тады, як у жніўні 1915 года сям'я адпраўлялася ў бежанства, а значна пазней, як вырас і ўсё пачаў асэнсоўваць. Не скажу, што тады мне было кепска з бацькамі. Не, было добра, і ўсё ж нешта незразумелае азмрочвала дзіцячы

настрой, заносіла на плач. Увесь час перад вачыма стаяла тая сцяжынка ад хаты да гумна. Калі ўспамінаю мінулае, то здаецца, быццам гляджу на тую дарожку праз адвернуты бінокль.

У бежанстве прыйшлося жыць у двух гарадах. Мабыць, па нейкаму размеркаванню наша сям'я прыбыла ў невялікі гарадок Казанскай губерні. Дзед быў добрым бондарам і адразу ўзяўся за прывычную работу. І я цешыўся з яго работы. Не так з работы, як з клёпачных абрэзкаў, з якіх будаваў домікі, выкладваў на падлозе чыгуначныя саставы. Бацька нудзіўся, не знаходзячы сабе занятку, хоць з'яўляўся някепскім дзясятнікам-практыкам дарожнага будаўніцтва. У хуткім часе, даведаўшыся, што патрэбныя кадры спецыялістаў на пракладцы чыгункі ў ваколіцах Кіева, махнуў туды і замацаваўся. А вясною прыехалі да бацькі маці і я.

Жыццё на Украіне, наддняпроўскія прасторы, куды часта браў мяне бацька, фармавалі маё далейшае дзяцінства. Здаваўся цудам прымітыўны від транспарту — дрызіна. Захаплялі сваім хараством бясконцыя квітнеючыя лугі, фантастычныя слупы белага дыму ад кастроў, калі ў абедзенны перапынак рабочыя смажылі на ражэнчыках сала. І палітычна я быў «падкаваны»: ведаў, што бальшавікі добрыя людзі.

Пад вечар ізноў на дрызіне вярталіся ў горад. Маці ўсе вочы праглядзела, чакаючы нас. Яна моцна сумавала: «Калі паедзем дадому?». — «Хутка паедзем», — адказваў бацька і сам упадаў у нейкае задуменне. Смутак бацькоў перадаваўся мне, перад вачамі паўставала сцяжынка, што пралягла ад хаты да гумна.

А справа з выездам на радзіму была вельмі зразумелая — не хапала цягнікоў, таму і не прадавалі білетаў.

І вось аднойчы на панадворку загрукаталі колы. Гэта бацька прыехаў, купіўшы каня і воз… Паклаўшы на воз небагаты скарб, нарэшце рушылі ў дарогу і ўзялі курс на Слонім.

Дарога не радавала. Трапляліся спаленыя вёскі, разбураныя хаты. «А што чакае нас дома?» — задавалі пытанні то бацька, то маці. Яшчэ здалёк бацька ўбачыў хату і лёгка ўздыхнуў: стаіць! Так, хата стаяла, нават тырчаў серп пад страхой, заткнуты пад крокву. А гумно згарэла. І дарожка да яго зарасла палыном, крапівой і лебядою. Словам, летам 1918 года мы былі дома.

Назаўтра паехалі аглядаць поле. Палоска зарасла густым бярэзнікам. Бацька распаліў агеньчык, пачаў высякаць лясное наступленне, а я цягнуў гэта на касцёр.

Вельмі цяжка было аднаўляць гаспадарку. Дакучаў і знясільваў голад. Неяк перазімавалі. Варылі крапіву і тую ж лебяду, што буяла навокал. У самую галадуху вярнулася з-пад Казані другая палавіна сям'і. Старыя не вытрымалі, апухлі і хутка памерлі. Страцілі мы яшчэ дзве душы — заўчасна памерлі маленькія брат Саша і сястрычка Галя.

Пасля, як вядома, Слонімшчына пераходзіла з рук у рукі: то паны, то бальшавікі, аж пакуль Заходняя Беларусь па несправядліваму Рыжскаму дагавору вясной 1921 года была канчаткова перададзена Польшчы. Гэта паклала адбітак на далейшы мой лёс. Менавіта пад белапольскай акупацыяй пачалося спасціжэнне нацыянальнай свядомасці. Адкрыў мне

вочы і прыемна здзівіў у 1922 годзе зборнік вершаў Янкі Купалы «Гусляр», што мы — беларусы.

Я, як і ўсе дзеці школьнага ўзросту, хадзіў у польскую пачатковую школу. Але вельмі хацелася вучыцца па-беларуску. І гэтае хаценне ажыццявілася ў 1925 годзе на пару месяцаў. Менавіта толькі на пару месяцаў. Сяляне адкрылі ў Чамярах прыватную беларускую школу, якую праз два месяцы польскія ўлады закрылі.

З 1926 па 1928 год мая далейшая вучоба праходзіла ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе быў моцны беларускі актыў. Там мяне прынялі ў падпольны камсамол. Даводзілася вучобу спалучаць з нелегальнай работай: хадзіць на мітынгі, прымаць удзел у дэманстрацыях, распаўсюджваць лістоўкі і вывешваць чырвоныя сцягі.

Пры нагодзе не магу не сказаць некалькі слоў аб сімволіцы. У гімназіі вучні праводзілі літаратурныя вечары, іншыя культурныя мерапрыемствы, сцэну ўпрыгожвалі Пагоняй і бела-чырвона-белымі сцягамі. За гэта паны называлі нас бальшавікамі, патрабавалі, каб урачыстасці адбываліся пад белым арлом і польскім нацыянальным сцягам. А гэтыя «бальшавікі», у тым ліку і я, замяніўшы форменныя шапкі, спяшалі на начныя вуліцы, каб вывесіць яшчэ больш бальшавіцкія — чырвоныя сцягі. І звольнілі мяне з гімназіі, як і сотню іншых, за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху. Цяпер жа «ўра-патрыёты» ганьбяць беларускую нацыянальную сімволіку, называючы яе фашысцкай.

Сваёй пазіцыі да акупантаў, да ворагаў беларушчыны з маладых гадоў я ніколі не мяняў, прыходзілася толькі больш асцерагацца. Але і асцярожнасць

не дапамагла. У 1929 годзе мяне звольнілі з Клецкай беларускай гімназіі, а ў 1931 годзе — з Навагрудскай беларускай гімназіі. Былі выпадкі, што некаторыя выгнанцы зноў вярталіся на ранейшае месца вучобы. Я гэтага не рабіў, не хацеў каяцца ў сваіх «грахах».

Моцна шкадаваў пакінутую вучобу, дружную сям'ю сяброў з усёй Заходняй Беларусі. Яшчэ мацней шкадаваў бацькоў, якія здабывалі грошы, пакладалі надзею на лепшае будучае.

А лепшая будучыня не мела ніякай перспектывы. Паны ціснулі падаткамі, забаранялі ўсялякую культурную дзейнасць, арыштоўвалі актывістаў. Калі гаварыць пра сябе, то зазначу, што прымаў удзел у наладжванні спектакляў, чытаў сялянам газеты, дапамагаў пісаць заявы з патрабаваннем адкрыцця беларускай школы. Літаральна за пару дзён з Іванам Герасімавічам Міско сабраў у вёсцы і на хутарах патрэбную колькасць подпісаў пад спісам кандыдатаў у гмінны самаўрад. І хоць наш спіс падалі першым, улады адмовіліся яго рэгістраваць: маўляў, подпісы маглі быць падробленымі, бо не завераныя натарыусам.

У турме сядзець не прыйшлося, хоць паліцыя амаль перад кожным рэвалюцыйным святам арыштоўвала. Каталі на пастарунку і ў дэфензіве. Нават тройчы судзілі то за «чынны опур владзы», то за нелегальную дэманстрацыю. Не маглі даказаць прыналежнасці да камсамолу або да КПЗБ. Трэба зазначыць, што большасць арыштаў суправаджалася рэвізіямі. А «рэвізія» — гэта раскручванне сувояў даматканага палатна, у гумне — скідванне на ток у адну кучу снапоў жыта, аўса, ячменю і г. д.

Не было спакою і ў войску польскім (служыў у кавалерыі), перакідвалі з эскадрона ў эскадрон, малодшыя чыны здзекаваліся, называлі «хамам», «камуністам». А ўсё таму, што камендант Касцянёўскага пастарунка даслаў у полк данос: «подэйжаны в комунізме, вымага твардэй рэнкі»...

І ўсё ж працоўнае жыццё на вёсцы ўспамінаецца як лепшая пара маладосці. Вясёлыя вечарынкі, спартыўныя гульні на выгане і на вуліцы. Чыстае прыроднае наваколле. Цудоўныя краявіды.

З Віленскай беларускай гімназіі прывёз я многа ўражанняў, цёплыя ўспаміны пра настаўніка беларускай мовы і літаратуры Ігната Сымонавіча Дварчаніна, які сваёй літаратурнай, патрыятычнай дзейнасцю натхніў мяне на пісанне вершаў. З Клецка прывёз незабыўны вобраз настаўніка хіміі Вячаслава Міхайлавіча Арэня, які на беларускай мове пісаў, на шапірографе размнажаў і прыносіў нам на ўрокі лісткі будучага падручніка. Не ведаю, ці ўдалося яму выдаць сваю кнігу.

Нягледзячы на паліцэйскі разгул, нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі не спыняўся, а праяўляўся ў розных сферах жыцця. Таварышы па пяру і барацьбе паклікалі мяне на з’езд рэвалюцыйных паэтаў у снежні 1933 года. У Вільню я не трапіў, бо паліцыя затрымала ў Слоніме на вакзале. Гэта мяне ніколькі не здзівіла, паліцыя заўсёды сачыла за кожным рухам падазронага ім чалавека. Прыемна здзівіла іншае: у адзін з вечароў да мяне зайшоў незнаёмы хлопец, перадаў прывітанне ад Валянціна Таўлая і папрасіў згоды на подпіс пад Дэкларацыяй сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Дэкларацыя і мой першы верш «Вёска» былі на-

друкаваныя ў першым студзеньскім (1934) нумары часопіса «Літаратурная старонка», дарэчы, адразу спыненага.

Праз некаторы час мае вершы пачалі з'яўляцца ў часопісах «Беларускі летапіс» і «Калоссе». А ў верасні 1939 года ў Вільні выйшаў мой першы паэтычны зборнік «Песні на загонах».

Важнай падзеяй у маім жыцці з'явілася сустрэча вясной 1936 года са старэйшым пісьменнікам Заходняй Беларусі Гальяшом Леўчыкам, якога я сяды-тады наведваў да канца яго жыцця ў Слоніме. Дзядзька Гальяш чытаў мае вершы, даваў парады.

Наогул верасень 1939 года адыграў у маім жыцці важную ролю. Збылася мара вызваліцца ад белапольскага прыгнёту і далучыцца да асноўнай масы свабодных беларусаў. У гэтым месяцы мяне паклікалі на першую ў маім жыцці дзяржаўную працу — у рэдакцыю першай беларускай газеты ў Слоніме «Вольная праца». Дарэчы, удзельнічаў у выпуску першага нумара.

Новая радасная падзея — у 1940 годзе на выязным пасяджэнні ў Беластоку кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі БССР прыняло мяне ў члены Саюза пісьменнікаў.

Наш народ, у тым ліку і я, усёй душой верыў у самую найвышэйшую справядлівасць і непагрошымасць Савецкай улады. І вось у тым жа 1940 годзе прыйшлі першыя засмучэнні. Арыштавалі маіх блізкіх суседзяў Васіля, Якуба і Івана Міско. Выклікалі мяне ў Слонімскае аддзяленне НКУС і загадалі, каб дома напісаў усё, што ведаю пра Івана. Напісаў і ў панядзелак занёс. Следчы ўважліва прачытаў, глянуў спадылба і злосна сказаў: «Што ты пішаш пахвальбу?

Аб гэтым ён і сам скажа. Напішы аб яго здрадніцкай дзейнасці». Скамечыў лісток і кінуў да смецця.

Пайшоў я з гэтага будынка як пабіты і апляваны: не ўкладвалася ў галаве, як ён мог патрабаваць фальшывых паказанняў?

А час бег. Работа ў рэдакцыі няспынна патрабавала ўсё новых і новых радкоў аб стваральнай, самаадданай працы на прадпрыемствах і на палях, аб рабоце школ і ўстаноў культуры. І не аглядзеўся, як наскочыла вайна. Начальства сказала, каб спакойна, без панікі ўсе заставаліся на сваіх рабочых месцах, Чырвоная Армія пайшла ўперад.

Пасля нядзельнага начнога дзяжурства ў рэдакцыі (у панядзелак дзяжурыў сакратар) раненька ў аўторак я пабег на працу і… нікога не знайшоў. Апусцелі райкам партыі, райвыканкам і гарвыканкам. Нікога не было і ў рэдакцыі. Вось табе і «заставацца на сваіх рабочых месцах».

Пішучы гэтыя радкі, нанава перажываю трагедыю тых дзён. Як цяпер бачу: высока ўгары нямецкія самалёты трымаюць курс на Баранавічы, Мінск. То там, то сям пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі з чорнымі крыжамі, здавалася, дзяўблі зямлю. Ішоў я, а што адбывалася ўсярэдзіне, можаце здагадацца самі. У сярэдзіне бушавалі крыўда, злосць і штосьці такое, што не выкажаш словамі. Крыўда — што абманулі, супакоілі, злосць — што пакінулі «адзінакроўных братоў» на знішчэнне самаму крываваму ворагу.

24 чэрвеня прыблізна ў 14 гадзін на вуліцы Косаўскі тракт горада Слоніма паказаліся нямецкія танкі…

Што і казаць, вялікае выпрабаванне выпала на долю нашага народа, ну і на маю таксама. Смяротныя расправы акупантаў над мірнымі грамадзянамі

адбываліся паўсюдна, беспрычынна, напрыклад, застрэлілі маленькага хлопчыка, які глядзеў у акно. Таму, счакаўшы на кватэры некалькі дзён, пакуль фронт адсунуўся на ўсход, я з жонкай перабраўся да бацькі на хутар. Там было спакайней. Аднойчы на адным з хутароў сустрэўся са сваім аднавяскоўцам, колішнім старэйшым вучнем Віленскай беларускай гімназіі Феакцістам Захаравічам Міско. Паны засудзілі яго на 12 гадоў зняволення і адправілі ў турму горада Грудзёндз. Вязень уцёк ужо з нямецкай няволі.

Ішлі мы да майго жылля прылеснай дарогай. А на дарозе траплялiся вінтоўкі, гранаты. І як тут не нагнуцца, не падняць зброю, не кінуць яе ў кусты! Седзячы на прызбе, абмяркоўвалі становішча, у якім апынуліся. Вырашылі, перш за ўсё, арганізаваць збор і захаванне зброі, расказаць людзям, што ворагу тут не быць, калі ўмела і дружна наладзім барацьбу, будзем дапамагаць акружэнцам.

Так з першых дзён акупацыі паўстала ў нас падпольная антыфашысцкая арганізацыя. За перыяд сваёй дзейнасці яна перадала партызанам дзве тысячы вінтовак, столькі ж гранатаў, іншую зброю.

Набіраў сілу партызанскі рух, да зарэзу патрэбна была разведка. Па рашэнню раённага антыфашысцкага камітэта і партызанскага кіраўніцтва Рыгора Андрэевіча Дудко я адправіўся ў Слонім для стварэння гарадской антыфашысцкай арганізацыі. Падпольная дзейнасць вымагала ўладкавання на якую-небудзь работу, што я і зрабіў. 15 красавіка 1942 года я стаў памочнікам бухгалтара фінансавага аддзела гарадской управы. Сябры-падпольшчыкі Л. Сеньчык, М. Мінчук, В. Вільчынскі, якіх я ведаў раней, далучылі мне кіраваць гарадскім антыфашысцкім камітэтам.

У нашу падпольную групу ўваходзілі тры таварышы, якія працавалі ў карных органах, сачылі за мерапрыемствамі ворага, займаліся разведкай. Разведку наладзілі і ў іншых установах немцаў. Навакольныя партызанскія атрады своечасова атрымлівалі звесткі аб тым, калі і якімі сіламі немцы рыхтуюць на іх напад. Ведалі мы, якую групу гараджан фашысты будуць забіраць ноччу для вывазу ў Германію. І, каго трэба было, папярэджвалі.

«Спіце на ложку, — паведаміў наш падпольшчык Г. Пыцель, які працаваў перакладчыкам гебітскамісара, — сёння ноччу будуць браць палякаў». Нягледзячы на такія звесткі нашых разведчыкаў, я і жонка не раз зімой начавалі за хлявом, бо фашысты, каб дапоўніць намечаную колькасць, маглі ўзяць і беларусаў.

Так прыходзілася жыць у горадзе і працаваць на падпольнай рабоце. Ніколі не было спакойных ні дня ні ночы. А найбольш мучыла маральнае адчуванне. Ідзеш па вуліцы, сустрэнеш знаёмага чалавека, а ён глядзіць на цябе па-воўчы, як на здрадніка. Таму некалькі разоў прасіў дазволу ў сакратара падпольнага райкама партыі М. Анішчыка далучыцца да партызанаў, тлумачачы, што мяне як былога работніка рэдакцыі газеты многія ў Слоніме ведаюць. І заўсёды атрымліваў адмоўны адказ: «Пачакай».

А бяда прыйшла нечакана. 25 лістапада 1943 года гітлераўцы наляцелі на кватэры падпольшчыкаў. Добра, што наш работнік СД У. Багданчук змог загадзя (у час абеду) папярэдзіць некаторых таварышаў. Дзякуючы гэтаму папярэджанню змаглі выйсці з горада Г. Касцюкевіч з жонкай і малым дзіцем, Г. Пыцель з жонкай, я з Верай. Арыштавалі М. Мінчука,

Л. Сеньчыка з цяжарнай жонкай, некаторых іншых таварышаў. У той жа дзень, як прыцямнела, забралі на бацькавым хутары маю Веру. Бацькі дома не было. Яго арыштавалі значна пазней. Не вярнуліся з драпежных рук Мінчук, абое Сеньчыкі і мае родныя.

Георгій Касцюкевіч пайшоў у Ленінскую брыгаду, Георгій Пыцель — у атрад «Савецкая Беларусь», дзе назначылі камісарам атрада. Я прыбыў у брыгаду імя Ракасоўскага, дзе знаходзіўся Слонімскі падпольны райкам партыі, якому падначальвалася наша падпольная антыфашысцкая арганізацыя. Я і далей кіраваў гарадскім падполлем, а пасля трагічнай смерці кіраўніка раённага антыфашысцкага камітэта Ф.З. Міско райкам партыі сумесна з членамі антыфашысцкага камітэта даручыў мне кіраўніцтва ўсёй антыфашысцкай арганізацыі Слонімшчыны. Акрамя таго некаторы час быў намеснікам камандзіра атрада імя Дзяржынскага па разведцы. У лесе выдаваў антыфашысцкую газету «Барацьба», лістоўкі, дапамагаў выпускаць падпольную «Вольную працу».

У партызанскім баі дзесь за Івацэвічамі загінуў мой брат Міця.

Вярнуўся я ў Слонім 12 ліпеня 1944 года. Не паспеў апамятацца, як на плечы звалілася безліч абавязкаў. Перш за ўсё «захапіў» будынак рэдакцыі і друкарні (дзякаваць богу — не згарэў, вайна ж знішчыла горад на 85 працэнтаў), абзавёўся для рэдакцыі сякой-такой мэбляю. Здзіўляюся цяпер, як мне ўдалося тады здабыць аконнае шкло. А вось з друкарняю была бяда, немцы вынеслі яе ў прасторнейшае памяшканне, і там яна згарэла. Прывалаклі мы назад пакарэжаную агнём плоскую машыну, не знайшоўшы драбнейшых частак. Усе гарадскія пажарышчы

аблазілі, знайшлі сёе-тое. Здабылі рухавік, хлопцы прынеслі аднекуль стары пас. І загрукатала наша друкарская машына, нібы трактарная малатарня.

Так я стаў адказным сакратаром рэдакцыі газеты і першым пасляваенным дырэктарам друкарні. І толькі праз два тыдні змог заглянуць на хутар. Усё, што засталося на сядзібе пасля арышту, вясковыя зламыснікі расцягнулі дашчэнту, павырывалі вокны.

Запяклося нешта ў грудзях, што не мог прамовіць слова. Лезла ў галаву думка: вось што я заваяваў…

Але не было калі займацца асабістымі перажываннямі. Хутка паклікалі на бюро райкама партыі. Загадчыца агульнага аддзела Яфімава ўнесла прапанову назначыць мяне рэдактарам радыёвяшчання. Адмова, што і так шмат нагрузкі, членаў бюро райкама не пераканала: дапаможам. Яны нават не пацікавіліся, як я жыву, ці атрымліваю хоць рубель за дырэктарства.

А жыў я незайздросна. Абтрапаўся ў партызанах і нічога новага не набыў. Амерыканцы праслалі розную вопратку для пацярпеўшага ад вайны насельніцтва, а нашы начальнікі не далі нават і ніткі. Народныя мсціўцы атрымлівалі грошы за сваю дзейнасць. Мне ж не далі не толькі грошай на падмацаванне свайго матэрыяльнага становішча, не выдалі нават даведкі, што я кіраваў падполлем і дзейнічаў у партызанах, бо камандаванне на чале з Анішчыкам не ўключылі ў спіс партызанаў.

У партызанскім лесе некаторыя хлопцы ўступалі ў партыю. Я таксама звярнуўся з гэтым пытаннем да першага сакратара М. Анішчыка. «Як прыйдзем у Слонім — прымем», — адказаў Міхаіл Трафімавіч. А ў Слоніме я, беспартыйны, часта падпісваў орган

раённага камітэта партыі газету «Вольная праца». І гэта нікога не бянтэжыла. Я таксама не бянтэжыўся, працаваў і днём і ноччу (не хапала кадраў). Прыязджалі з Баранавічаў і Мінска розныя начальнікі і дакаралі мяне, чаму не ўступаю ў партыю. І я, сабраўшы патрэбную колькасць рэкамендацыяў, падаў заяву. І, што вы думаеце, — на бюро райкама не прынялі і не адмовілі.

Тым часам пачалі прыбываць «кадры». Кожны чыноўнік валачыў за сабою барану сваякоў. У верасні 1947 года, калі я знаходзіўся ў водпуску, бюро Баранавіцкага абкама партыі цішком звольніла мяне з працы. Забег я ў рэдакцыю, а рэдактар кажа: «Ведаеш што, пашукаў бы ты сабе іншую, гаспадарчую работу, ты — беспартыйны». Я — у райкам, а там сакратар абкама партыі Ажгірэй кажа: «Работали у немцев, не внушаете политического доверия»...

Вось табе і раз! Ці варта гаварыць пра адчуванне пасля візіту да партыйных кіраўнікоў? Не чакаючы канца водпуску, пачаў хадзіць па прадпрыемствах, каб уладкавацца «на гаспадарчую работу». І ўсе дырэктары, як згаварыўшыся: «Все штаты заполнены». Вось табе і гаспадарчая работа! Як жа далей жыць? Жонка з малым дзіцём сядзіць дома без работы. А тут, як на зло, знаёмы дзядзька з суседняй вёскі пырснуў у вочы: «Вось табе і «Вольная праца» .

Аднак жа бываюць на божым свеце цуды. Можа, праз тыдзень прыходзіць на кватэру пасланец з наказам, каб з’явіўся ў выканкам гарсавета. Акурат у гэты час пасаду старшыні гарвыканкама прыняў наш былы камісар партызанскага атрада імя Дзяржынскага Іван Якаўлевіч Дабрыян. Патрэбны быў сакратар, і таварыш Дабрыян настаяў перад

вышэйстаячым начальствам, каб сакратаром назначылі мяне.

Выбару не было, і я з радасцю пайшоў у сакратары, спадзеючыся, што ўсе пакуты скончыліся, што прайшоў чарговую праверку. Аднак пры такой уладзе, дзе чалавек з'яўляецца бяспраўным і патрэбным толькі пры вострай неабходнасці для апарата, радасць хутка становіцца падманам. Так здарылася і на гэты раз. Не прайшло і двух гадоў, як на маё месца пасягнула жонка даваеннага загадчыка планавага аддзела райвыканкама Вальштэйна.

А перад гэтым быў цікавы выпадак, можа, і ён адыграў сваю ролю. Аднойчы зайшоў да мяне ў гарвыканкам старшыня арцелі «Чырвоны сталяр» Дзерачынскі, які да верасня 1939 года працаваў рабочым у прыватнай сталярнай майстэрні. Зайшоў, разгледзеўся, кінуў вокам на чатыры новыя крэслы з раз'ехаўшымі ва ўсе бакі ножкамі і сеў на старое. Я не вытрымаў, сказаў: «Чаму ты сеў на старое крэсла, што зрабіў пры панскай Польшчы, а не садзішся на новае, што зрабіў цяпер?»

Дзерачынскі тут жа пабег у райкам партыі і заявіў, што Міско хваліў усё польскае і ганьбіў савецкія вырабы, у прыватнасці новыя нашы крэслы. Злоснага даносчыка ў райкаме пацешылі: «Не хвалюйцеся, мы знімем яго з крэсла». І слова стрымалі — знялі, прадэманстравалі прыклад «барацьбы» з бракаробамі.

На гэты раз не знайшлося ў Слоніме другога Івана Якаўлевіча Дабрыяна, які дапамог бы ўладкавацца на працу. Аднак жыццё на гэтым не скончылася. Дырэктарам Баранавіцкага хімлясгаса працаваў стары сябра Уладзімір Арцюх, з якім вучыліся ў Навагру-

дскай беларускай гімназіі, жылі на адной кватэры, спалі на адным ложку. Ён тут жа залічыў мяне ў штат і накіраваў у Мінск на курсы майстроў падсочкі.

І так некаторы час з панядзелка да суботы я жыў у Баранавічах і з суботы да панядзелка — у Слоніме. Не ведаю, якая арганізацыя возьме на свой рахунак стварэнне для мяне такой жыццёвай нязручнасці, маральнага зневажэння. І толькі дзякуючы Уладзіміру Арцюху ў 1951 годзе мяне перавялі на Слонімскі вытворчы ўчастак Баранавіцкага хімлясгаса. А ўсяго каля сямнаццаці гадоў працаваў у лесахімічнай прамысловасці на розных другарадных пасадах, зімой і летам знаходзячыся найбольш у лесе да самага цямна. Ніколі не меў водпуску ў вясеннюю або летнюю пару. За ўсё сваё жыццё ні разу не быў на курорце, не бачыў жывога мора. Тым не менш прафсаюзныя ўзносы плаціў рэгулярна.

Лесахімічную прамысловасць у 1966 годзе пакінуў сам у сувязі са згортваннем работы на смолзаводзе, на якім я тады працаваў. А ў рэдакцыі газеты быў тады патрэбны работнік, і мяне ўзялі, дзе працаваў яшчэ дзесяць гадоў.

Пасля выхаду на пенсію восем гадоў працаваў адказным сакратаром Слонімскага раённага аддзялення таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Ці ўдалося што зрабіць на гэтай пасадзе? Малавата. Галоўны мой клопат заключаўся ў тым, каб аднавіць унікальны помнік архітэктуры XVIII стагоддзя — касцёл святога Андрэя, якога абмінула вайна. Касцёл выкарыстоўваўся як склад солі, разбураўся зламыснікамі і атмасфернымі ападкамі. Рашалі-вырашалі, а справа не скранулася з месца, бо спатрэбіліся значныя грашовыя сродкі, будма-

тэрыялы. На абласной нарадзе таварыства ставіў пытанне аб вывадзе з катастрафічнага становішча найбольшага нацыянальнага помніка — беларускай мовы. Пытанне так і засталося пытаннем. Рады, што мая родная мова, нарэшце, стала дзяржаўнай, не павінна загінуць.

Не люблю пісаць аўтабіяграфій, бо прыходзіцца сябе «хваліць». На жыццё не наракаю, хаця яно мяне і не песціла. Ды і цяпер знаходзяцца зламыснікі, якія кідаюць цень на ясны дзень, вышукваюць людзей, якія ведаюць мяне, каб даслаць ім чарговы паклёп. Скажам прама: незайздросная работа, марныя патугі, асуджаныя на правал. Ці варта казаць, што жыццё пражыў сумленна, усе сілы аддаваў за свабоду роднага краю. Не за такую свабоду, каб толькі выгнаць фашыстаў, а потым даць магчымасць рознай масці сталінцам распаясацца на беларускай зямлі. Калі я ішоў у бой, то бачыў такую свабоду, якая ўвабрала ў сябе бесперашкоднае развіццё роднай мовы, культуры, шырокі доступ да скарбаў нашай гісторыі.

Перабіраючы ў памяці прайшоўшыя гады, не магу не спыніцца на вобразе маці і бацькі. Маці была простай вясковай кабетай, верыла ў Бога, але сваёй набожнасці не выстаўляла напаказ. Яна вельмі любіла нас, мяне і малодшага сына Міцю, вучыла, каб не крыўдзілі малодшых, не бралі чужога. Не ведаю ў вёсцы чалавека, які адважыўся б пакрыўдзіць яе самую. Загінула ў 1935 годзе ад разбэшчанага п’янствам памешчыка Гадлеўскага, які наехаў на яе машынай на броўцы шашы. Пэўна, калі памірала прытомнай, то думала не пра сябе, а пра нас. Помню, неяк маці моцна захварэла, нічога не хацела браць у рот і ўсё дапытвалася, ці хоць накормлены Міця.

Ад сялянскай гаспадаркі бацька часта адрываўся на пабочныя заробкі, дзе сустракаўся з рэвалюцыйна настроенымі рабочымі. Старэйшы аднавяскоўец Сямён Хвясеня расказваў, што бацька належаў да РСДРП, але ніколі аб гэтым не ўспамінаў. Што быў атэістам, то вынікала з яго гутарак і паводзін. Чамяроўскія хлопцы (наш быў малодшы сярод іх) рыхтаваліся ісці ў партызаны. Бацька не пярэчыў, сам падбіраў адзежу, абутак і павучаў быць чэсным і не лезці на ражон. Сын не паслухаў, бо, як расказвалі яго сябры, адзін з першых кінуўся на прарыў акружэння… Мне ж радзіў асцерагацца здрады, пазбягаць ліслівых людзей. І я не паслухаў бацькавай парады, што адбіваецца на маім жыцці і сёння.

Калі скажу, што мае вершы аўтабіяграфічныя, — не адкрыю Амерыку, бо, пэўна, у кожнага аўтара такія. Карані маёй біяграфіі ад палёў і лугоў, ад сялянскіх сяліб, дзе спрадвеку жылі дзяды-прадзеды. Таму і вершы такія. І не выпадкова першы зборнік называецца «Песні на загонах» (Вільня, 1939).

Другі зборнік паэзіі «З пройдзеных дарог» выйшаў аж у 1970 годзе. Там змешчаны верш «Жураўлі»:

На дарогі і рэчкі
Восень кідала цень.
І бярозы, як свечкі,
Дагаралі ўвесь дзень.
У нябёсах — як стрэлы —
Жураўлі, жураўлі.
Што знянацку сустрэлі
І праз сэрца прайшлі.
Паляцелі далёка.
Я іх смутак адчуў.

Ах, той жаласны клёкат, —
Быццам сам я лячу.
І пад крык жураўліны,
Што асеў на лясы,
Сумавалі яліны,
Сумавалі ласі.
І чаго я не маю —
І палі, і бары!
Нават поўнач нямая
Ў яркіх зорах гарыць.
Мне і сонца пасвеціць
Праз асінавы шум.
І хаджу я па свеце,
Сум і радасць нашу.

Прачытаў гэты верш адзін работнік раённага маштабу і скрытыкаваў у пух і прах:

— Што гэта за верш, калі ён цалкам прасякнуты сумам? Паэзія павінна выхоўваць, ствараць бадзёры настрой. Да таго ж верш не пахне марксізмам-ленінізмам.

Задумаўся я пасля такой крытыкі: ці не пачнецца чарговая атака на мяне?

Наступны зборнік ізноў называўся неяк па-мясцоваму — «Жыву ў бацькоўскім краі» (1982).

Чацвёрты зборнік — тэматычны. Ён выйшаў у 1987 годзе, адлюстроўвае барацьбу беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Зноў-такі назву атрымаў нестандартную — «Я пайшоў бы ўслед за летам...»

*1994*

# І радасць, і боль ад сустрэч

*Гутарка Уладзіміра Калесніка з Анатолем Іверсам 23 жніўня 1991 года*

**Уладзімір Калеснік**. Мне неяк гаварыў Валодзя Ягоўдзік, што ты, Іване, расказваў яму цікавыя рэчы пра сваю сустрэчу і гутарку з паэткай Наталляй Арсенневай у часе нямецкай акупацыі.

**Анатоль Іверс**. Яна са мною разгаварылася. Гэта была мая першая сустрэча з Арсенневай. Я ведаў яе па творах. Быў у мяне яе зборнік «Пад сінім небам». Я аддаў Валодзю Ягоўдзіку, няхай будзе яму, а я, можа, як-небудзь ужо абыдуся без гэтае кнігі…

У акупацыі быў я на падпольнай рабоце ў Слоніме. Працаваў у гарадской управе, служыў у агульным аддзеле. Усе дакументы пісаліся там на беларускай мове. Куды б там ні пісалі — у біржу працы, яшчэ куды-небудзь, то для гэтага былі дзве машыністкі-перакладчыцы, якія перакладалі на нямецкую мову з беларускай. Вось як было. Мяне ўзялі туды справаводам, ці рэферэнтам, як яны там называлі. Рэферэнт — гэта нешта гучнае…

**У. К.** Дык ты адказваў там за граматнасць беларускамоўных тэкстаў?

**А. І.** Так. Вось на табе, глянь, пасведчанне засталося…

У 1943 годзе, не памятаю, які гэта быў месяц, прыехала ў Слонім Наталля Арсеннева. Чаго яна прыехала, я так і не ведаю. Ну, зайшла ў гарадскую ўправу, да бургамістра, а тут бургамістр ведаў, што я… як уладкоўваўся на работу, то казаў яму, што я ў гімна-

зіі вучыўся і па-беларуску вершы пішу. Мне ж трэба было неяк уладкавацца. Паклікаў мяне бургамістр. Я зайшоў. Пазнаёміў (я ж яе ведаў, так, з выгляду па фотаздымку), а ён прадставіў, і мы пазнаёміліся. Потым доўга гутарылі пра ўсё.

**У. К.** Ты з ёю першы раз у жыцці размаўляў?

**А. І.** Ага. Першы раз. Але яна потым сказала: «Спадар Міско», ці спадар Іверс, не памятаю дакладна, як яна мяне называла ў той час, але прамовіла: «Можа, мы выйдзем трошкі...» (так хацела сам-насам пагутарыць). Выйшлі мы, селі асобна, яна пачала распытваць:

— Ну як вы тут жывяце, як тут твае?

— Вось, — кажу, — жывём. Быў на вёсцы, але пачалі ў Германію браць, дык перайшоў сюды... Я гэтак і бургамістру казаў: «Чаго я туды паеду, у Германію»... Дык я вось тут дамовіўся і працую.

— А як жывецца?

— Ну, як, кажу, жывецца, як пад акупацыяй, цяжкавата, але бацька яшчэ на вёсцы ёсць, на хутары...

Яна расказала, што ў яе здарылася няшчасце... У тэатры сын загінуў. Быў такі выбух. Што там паказвалі на сцэне, я добра не ведаю. Ох і бедавала яна... І кажа мне:

— От, кажа, бальшавікі ўжо напіраюць, і прыйдзецца ехаць, і вельмі ж не хочацца ехаць з радзімы...

Я кажу:

— То, можа, у партызаны можна было б пайсці. (Добра, што яна не пайшла. Яна й не пайшла.)

— Як гэта?

— Ну, — кажу, — мой бацька жыве на хутары, заходзяць часам партызаны ноччу. Я хаджу да бацькі, праўда, з партызанамі не сустракаўся, але можна

было б як-небудзь, калі вы хочаце, хоць гэта і складаная, прызнаюся, для мяне рэч.

— Складаная, — кажа. — Гэта муж у мяне. Усё, — кажа, — будзе з-за мужа. Прыйдзецца ехаць.

І так яна пагутарыла са мною па-жаночы, пабедавала, пагаварыла ад душы. Я ёй не казаў, канешне, што ў падполлі працую. Але яна сказала: «Ненавіджу я гэтых немцаў». Ну, акупантаў, іначай кажучы. (Немцаў цяжка сказаць: бываюць і немцы добрыя.) Ненавіджу акупантаў, а прыходзіцца і жыць там, і гаварыць, і сустракацца. Мы гэтак паразмаўлялі сам-насам, і ў мяне засталося гэта ў памяці. І нідзе пазней яна не прагаварылася, не выдала, як гэта груба сказаўшы. І засталася ў памяці шчырая размова. На беларускай мове, так хараша. І мацярынская яе бяда па сыну. І пра Бацькаўшчыну гаварыла, што ўся ў крыві. І што з гэтага будзе — яшчэ не вядома, але пакідаць Беларусь не хочацца.

Вось такі ў мяне ўспамін добры застаўся.

**У. К.** А яна ж цябе ведала як паэта?

**А. І.** Ведала. Вось таму яна і захацела са мною паразмаўляць. І таму сказала: «Давай мы выйдзем з табою трошкі на свежае паветра. Не будзем тут перашкаджаць бургамістру (смяецца)». І мы выйшлі…

**У. К.** Дык яна дыпламатка?

**А. І.** Дыпламатка! І вось, як я пісаў успаміны, я ўспомніў яшчэ пра Адама Станкевіча. І напісаў: «Данута Бічэль там рыхтавала чарговы нумар альманаха «Краю мой — Нёман», першы ўжо выйшаў, а другі не ведаю ці выйдзе… Васіль Супрун быў у Гродне, бачыўся з Данутай, дык сказала, што добры ўспамін.

**У. К.** А ты ўсё гэта напісаў там?

**А. І.** Не толькі, але ўвайшлі і гэтыя элементы. А яшчэ і пра Станкевіча. Расказаць табе?

**У. К.** Пра Станіслава?

**А. І.** Не. Пра Адама.

**У. К.** Раскажы.

**А. І.** Гэта было, значыць, пасля таго, як у 1937 годзе выселіла яго ў Слонім санацыя*. Выселілі ад граніцы. Яму тут было яшчэ спакайней, чым там, у Вільні. А мне зрабіў прапанову Янка Шутовіч — кніжачку выдаць. Якая выйшла ў 1939 годзе.

**У. К.** Зборнік «Песні на загонах».

**А. І.** Так. У «Калоссі». «Прысылай вершы, — напісаў, — то, можа, мы і выдамо». Я выбраў некалькі вершаў і паслаў. Прайшоў час. Тады я не разумеў друкарскае справы, а тут карэктуру трэба прачытаць. Ён ведаў, Шутовіч, што за мною па пятах ходзіць паліцыя і ніякая карэктура не дойдзе. Дык ён прыслаў Адаму Станкевічу ў Слонім лісткі маёй кніжачкі, а мне напісаў паштоўку: «Зайдзі да ксяндза Адама Станкевіча». Не напісаў — чаго. Я здагадваўся, што нешта важнае, і зайшоў. Сустрэў мяне Адам Станкевіч. Павітаўся і сказаў:

— Сядайце, калі ласка. Як жывяце?..

Я кажу, як і той Арсенневай. Жыву, кажу, ведама, як на вёсцы жыць…

— А як паліцыя? Не дакучае?

— Чаму ж, кажу, не дакучае. Дакучае. У хату прыходзілі і на пастарунак выклікалі, у пяты давалі, якраз, кажу, цяпер на мальдунак** хаджу кожны тыдзень.

---

* Польскі ўрад пілсудчыкаў высяляў усіх апазіцыйных дзеячаў з прыгранічнай зоны ў глыб дзяржавы.

** Рэгістрацыя ў прысутнасці па месцы жыхарства грамадзяніна, западозранага ў антыдзяржаўнай

— Ага, — кажа ён, — нічога страшнага. Вось, бачыш, і мяне выселілі сюды, што ты зробіш. Але на ражон не трэба лезці.

Я кажу:

— Ды, не, я не лезу. Але вось у вёсцы, скажам, нешта робіцца такое, дык я ж не буду супраць грамады адзін. Гэта ж, — кажу, — грамада! У нас рэвалюцыйная вёска, і я не магу ісці насупраціў.

Ён кажа:

— Я зразумеў. — А потым дадаў: — Вось, вазьмі ды прачытай лісткі кнігі сваёй, карэктуру зрабі.

— А я не ведаю, як гэта рабіць. На вёсцы жывучы, не бачачы ні друкарскіх машын і нічога такога…

— Нічога, — кажа — прачытай.

Я пачытаў, знайшоўшы там дзе якую памылку, але ён сам ужо зрабіў карэктуру тую, дзе там «а» было, а трэба «б», усё зрабіў. Цяпер усё ведаем. А тады? Ён са мною так пагаварыў!.. І не заклікаў там у касцёл маліцца, а сказаў: «Як будзеш у Слоніме, заходзь да мяне».

Я зазначыў, што я праваслаўны — не праваслаўны нават, бо не надта веруючы. Але магу зайсці як да чалавека.

— Як да чалавека, — усміхаецца ён. — Усё мне цікава, што робіцца на вёсцы, як жывуць людзі, усё, — кажа, — цікава.

Ну і падзякаваў за карэктуру, папрасіў яго падзякаваць і Янку Шутовічу.

Ён і да савецкай улады адносіўся цярпіма, гаварыў, калі яна задавальняе патрэбу сацыяльнай

---

дзейнасці і папярэджанага паліцыяй аб забароне змены месца сталага жыхарства.

справядлівасці, то яе трэба прыняць. Я то і раней разумеў ксяндза Адама Станкевіча трохі.

**У. К.** А калі ты яго чуў у Вільні? Можа, на тым вечары беларускай культуры ў зале Снядэцкіх?

**А. І.** Не. Не быў я тады, паліцыя затрымала на станцыі Слонім.

**У. К.** Дык, хіба, чуў, як ён перад студэнтамі выступаў?

**А. І.** Ён і перад студэнтамі, і перад вучнямі, перад грамадскасцю выступаў. Я не адзін раз яго чуў. І ў ТБШ ён быў.

**У. К.** А прамоўца ён быў здольны?

**А. І.** Добры. Як гэта?.. «Грамада — гэта куча камення!»

**У. К.** Казаў?

**А. І.** Ага. «Грамада — гэта куча пяску». Ён ад гэтага адштурхоўваўся. «Але людская грамада… — выводзіў ідэю людской грамады, — яна мацнейшая за камень. Гэты пясок можна рассунуць, а людской грамады не рассунеш». Нешта ў гэтым сэнсе. Але я памятаю: «Грамада — гэта куча камення, грамада — гэта куча пяску». Для мяне гэта было трошкі як бы дзікавата. Разумееш: грамада — куча пяску, мы грамаду разумелі інакш.

**У. К.** Як вышэйшую форму гуманнасці, звышкаштоўнасці?

**А. І.** Але, вышэйшая гуманнасць. А ён, можа, для большай прасцецкасці гэтыя словы сказаў.

**У. К.** Слухай, Іване, мне вось з Канады Сяргей Сіняк прыслаў сваю газету «Беларускі голас».

**А. І.** І мне таксама прыслаў адзін нумар.

**У. К.** І піша, што твая кніжка «Песні на загонах» выходзіла ў клерыкалаў і што гэта быў з твайго боку

кампраміс. І яму прапанавалі клерыкалы, дык ён адмовіўся выдаваць у іх сваю кніжку «Жураўліным шляхам», бо гэта кансерватыўнае выданне.

**А. І.** А ты чытаў, што Сяргей Чыгрын пра Сіняка напісаў у «ЛіМе»?

**У. К.** Ну, чытаў, а як жа.

**А. І.** Дык гэта ўсё з Сіняковых слоў. Я потым Сяргею Чыгрыну казаў. Я звязаўся з Барысам Сачанкам і напісаў контрартыкул, у двух экзэмплярах. І паслаў Сачанку і кажу…

**У. К.** А чаму ты ў «ЛіМ» не паслаў?

**А. І.** Я папрасіў, каб ён адзін экзэмпляр адправіў у «ЛіМ», калі палічыць патрэбным. Ён палічыў патрэбным і занёс Міколу Гілю. І сказаў, што артыкул памяркоўны і трэба друкаваць.

Значыць, хто такі Сіняк? Тут, можа, не ўсё будзе праўда. Але я табе раскажу, і ты зможаш заўважыць, што можна падвяргаць сумненню, а дзе праўда… Значыць, я ўзяў у Танка (з «Лісткоў календара») тое месца, дзе ён апісвае, як прыехаў у Вільню Сіняк, як з Таўлаем гаварыў. Таўлай казаў: «Прыехаў Сіняк са сваімі рапаўскімі замашкамі». І яны ўсе там устрывожыліся. Там быў Таўлай, але ён называе псеўданім, я не памятаю, як ён там называецца. І Танку сказалі: трэба даць Сіняку грошай на дарогу, але ты сам не давай, а дай цераз рэдакцыю газеты, як яна там называецца?

**У. К.** «Беларуская газета».

**А. І.** «Беларуская газета». Кажа: «Няхай хто-небудзь з рэдакцыі дасць яму на дарогу грошай, і няхай едзе»…

Слухай, і вось аднойчы пры Польшчы прыязджае ён у Слонім і мяне на вёсцы знайшоў. І значыць,

насіўся з такою ідэяй, каб стварыць асобную ад створанага Танкам, Таўлаем Літаратурнага фронту сялянскіх і рабочых пісьменнікаў арганізацыю ды назваць яе «Маладая ўскалось». Ён і піша, што была такая арганізацыя. Няпраўда гэта. Такое арганізацыі не было. Ніхто не пайшоў у яе. Я ж не пайду супраць Танка і Таўлая.

**У. К.** Літаратурны фронт стварылі ж у канцы 1933 года на з'ездзе ў Вільні па ініцыятыве Валянціна Таўлая і «Беларускае газеты», органам фронту стаў часопіс «Літаратурная старонка». Праўда, улады не рэгістравалі такой арганізацыі, а часопіс на першым нумары закрылі.

**А. І.** Ну, ён капэзэбовец.

**У. К.** Хто? Сіняк?

**А. І.** Так, Сіняк.

**У. К.** Быў у КПЗБ?

**А. І.** А няўжо ж не…

**У. К.** А не гаворыць, кажа, я грамадавец.

**А. І.** Ну-ну! Грамадавец! Ён сядзеў у Картуз-Бярозе. Прыйшоў з Картуз-Бярозы, кульгае, з кіёчкам. Але ён больш гэта… рысуецца, як на самай справе. Ну, а я ўжо першы нумар раённай газеты «Вольная праца» ў Слоніме з рэдактарам рыхтаваў і выдаў 26 верасня 1939 года. А ён акурат прыйшоў з лагера.

**У. К.** Яго вызваліла савецкае войска?

**А. І.** Так. І ён адразу ў рэдакцыю прыйшоў. Ну, у нас яшчэ, знаеш, як у 1939 годзе цераз пару дзён пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Слонім, не было дзе хоць чаго купіць, усё паразбіралі. Ну, я то не надта бедаваў там, мой бацька жыў у вёсцы, на хутары, то харч быў. Мы ўжо з Сіняком у горадзе сядзім. У рэдакцыі быў свой тэлефон. Там, дзе была раней дэфензіва (цяпер

ёсць там муры, там цяпер інтэрнат медвучылішча). І нам у тых паслядэфензіўскіх мурах два пакоі пад рэдакцыю адвялі. У староstве гэта, бо сама дэфензіва там у падвалах знаходзілася ды катавала людзей. І мяне там катавалі.

І вось сядзім. А тады прысылалі газеты «Правда», «Савецкая Беларусь», «Звязда» і іншыя. Прысылалі пачкамі, бо тады ж уся разбеглася адміністрацыя польская і з пошты, і адсюль, і ў першыя дні раздавалі гэтыя газеты дарма, а ўжо потым, пазней, праз нейкія дзён два, тры, чатыры, пяць — я не памятаю дакладна колькі, ужо Сяргей Сіняк прадаваў іх. Аднойчы вечарам сядзім сабе, а тут тэлефон зазваніў. Вечарам, можа гадзін у адзінаццаць, можа пазней, — ведама, восень, верасень, можа кастрычнік… А Сіняк жа надта ж падкі, ён адразу за трубку і слухае. Званілі з НКВД: «Нам нужен Синяк». Ён кажа: «Гэта я». «Та вот просьба к вам, зайдите на пару минут к нам. Нужно кое-что спросить у вас».

А ён сумеўся. Але кажа: «Зайду». Паклаў трубку. Ён якраз стараўся тады наконт кватэры, дык кажа: «Можа, гэта кватэру дадуць. Пойдзем разам».

От яму і далі. Добрую «кватэру» далі… Я тады кажу яму: «Мяне не клічуць, чаго я туды пайду». І пайшоў ён адзін. А я сяджу, сяджу, сяджу. Позна ўжо. Чакаю яго гадзіну, другую… А быў выпадак, што ў Слоніме гэтыя недабіткі польскія ноччу забілі ні то салдата, ні то каго іншага.

**У. К.** Савецкага?

**А. І.** Савецкага. Ці нейкага тубыльца.Чуткі такія хадзілі. І вось ён не прыйшоў, дык я і думаю: «Мо і яго забілі дзе…».

Назаўтра раненька я званю ў НКВД, кажу:

— Да вас пайшоў учора Сіняк і не вярнуўся. Можа, — кажу, — і яго забілі, як там таго чалавека?..

— Нет. Не приходил. Мы ничего не знаем, — адказалі.

**У. К.** Ну?

**А. І.** Ну, гэта ж НКВД.

**У. К.** От банда.

**А. І.** Банда. І ўсё! Няма, няма Сіняка. Здагадваўся я, што ўжо арыштавалі. У рэдактара я не пытаўся. Але вось гэта было ўжо ў саракавым годзе, вясна…

**У. К.** А хто быў рэдактарам?

**А. І.** Іосіф Чарняўскі.

**У. К.** Гэта ён з Мінска прыехаў, адтуль?

**А. І.** Адтуль. Нічога быў хлопец. Пайшоў я неяк у 1940 годзе з жонкаю ў кіно. Чакаем, пакуль пачнецца сеанс. Прыходзіць Чарняўскі з жонкаю і сеў каля нас. Ну, нешта мы там разгаварыліся, тое-другое, і ён кажа:

— Слухай, ты не ведаеш, магу табе сказаць, дзе Сіняк падзеўся.

— Не ведаю, толькі здагадваюся.

— Ну, то вот, — кажа, — яго арыштавалі. Знайшлі дакументы, што ён быў канфідэнтам. Нават у Картуз-Бярозе!..

**У. К.** Ну?!

**А. І.** Гэта мне рэдактар сказаў. А ён жыве яшчэ. Можа, адрас табе даць?

**У. К.** Дай.

**А. І.** Ён хворы моцна. Чэрап там яму даўбілі, але нічога, пры памяці. Неяк званіў да мяне…

Я думаю, можна паверыць, бо хутка ж арыштавалі. Недзе знайшлі дакументы і арыштавалі. Пеця

Дабрыян быў таксама ў Картуз-Бярозе, але яго не арыштавалі. А то ж адразу… Ён (Сіняк) піша там, што прыязджалі ў Слонім і Лынькоў, і Каган, і Бярозкін. Слонім наведаў тады толькі Міхась Лынькоў. А потым нібыта некаторых яго «ўскалосаўцаў» арыштавалі. Нікога не арыштавалі ў Слоніме, акрамя яго.

**У. К.** І «ўскалосаўцаў» тых не было ў прыродзе, відаць?

**А. І.** І «ўскалосаўцаў» не было, але ён усё піша, за тое трымаецца.

**У. К.** Фантазіруе?

**А. І.** Фантазіруе. Я табе скажу… Прыйшоў гэта я ўладкоўвацца на працу ў гарадскую ўправу, захацеў у бібліятэку. У нас бібліятэка была вельмі добрая, 75 тысяч тамоў польскай, рускай і беларускай літаратуры. А бургамістр кажа мне:

— Я прыняў ужо Сяргея Сіняка ў бібліятэку.

Ну, думаю, расцягне ўсю лепшую літаратуру. Што рабіць? А той бургамістр пасылае мяне памочнікам бухгалтара фінансавага аддзела гарадской управы. Я не згаджаюся:

— Аляксандр Канстанцінавіч, я ж той бухгалтэрыі і не нюхаў…

А ён у адказ:

— Нічога, ёсць там стары польскі фінансіст, бухгалтар Ярашэвіч, ён табе будзе даваць работу, будзеш там сёе-тое перапісваць, наб'еш руку, а там будзем бачыць.

Вось так я і паступіў на тую работу. А потым перавялі мяне ў агульны аддзел, бо там трэба было па-беларуску пісаць розныя адносіны…

**У. К.** А як бургамістра звалі?

**А. І.** Кіслы Аляксандр Канстанцінавіч.

**У. К.** Скуль ён?

**А. І.** Недзе з-пад Мастоў. Ён нейкі быў былы белагвардзеец, але чалавек магчымы.

І вось так я ўладкаваўся. А ў першыя дні акупацыі ўцёк з жонкаю да бацькі на хутар. Туды прыходзілі падпольшчыкі, акружэнцы — афіцэры і камісары розныя.

**У. К.** А чаго ты ўцякаў?

**А. І.** Што ты! У Слоніме тварылася нешта невераголднае, пачаліся арышты. Ужо і даносы розныя рабілі. Праўда, прыпынілі аднаго даносчыка суседзі. А немцам тады не трэба было многа. Скажуць, што ты бальшавік, і выведуць і — трах! Яны доўга не думалі. Вось як яно было ў першыя дні…

Слонім жа я сяды-тады наведваў. Прыносіў на вёску розныя весткі аб становішчы ў горадзе, аб дзеяннях немцаў і іх памагатых. Такой інфармацыяй вельмі цікавіліся нашы падпольшчыкі, акружэнцы. І не давалі мне спакою: «Ідзі ды ідзі ў Слонім на работу».

Але перш чым уладкаваўся на тую работу, прадоўжу аповед пра Сяргея Сіняка. Аднойчы зайшоў я ў музей. Праўда, музея фактычна не было, экспанаты знаходзіліся ў падвале райвыканкама. Выкінулі яго тыя бюракраты савецкія, бо шыкоўныя кватэры ім патрэбны былі, разумееш. Зайшоў я туды і бачу — Пяюн там. А я тады з Сяргеем Новікам-Пеюном быў у добрых адносінах. Пытаюся ў яго, што чуваць, а ён як мяшком стукнуты — баіцца. Якраз у гэты час адчыняюцца дзверы — уваходзіць… Сіняк!

**У. К.** Гэта першы раз ты з ім сустрэўся пасля яго арышту?

**А. І.** Так. Ён сядзеў ні то ў Баранавічах, ні то ў Мінску. І бачу я, што зуба аднаго наперадзе няма. Пытаю:

— Дзе ты зуба згубіў?

— Давалі, брат, па-пралетарску!.. — адказвае.

— Дык ты цяпер супраць Савецкага Саюза? — пытаюся.

— У такім разе, я супраць Савецкага Саюза, — кажа Сіняк.

І я пачаў яго асцерагацца. Потым ён з бібліятэкі перайшоў у БНС, а з Бэнээсу — у палітычны аддзел гебітскамісарыята і вёў радыё па-беларуску.

**У. К.** На Слонімшчыне?

**А. І.** На Слонімшчыне. І загадваў, і гаварыў, і пісаў, усё ён сам.

**У. К.** Дык гэта толькі на гарадскую сетку вяшчанне, на радыёкропкі?

**А. І.** Так, па горадзе і на плошчах рэпрадуктары гучалі, на рынку. Але ён быў і загадчыкам, і рэдактарам, і рэпарцёрам, і дырэктарам — усім. А што ён вяшчаў? «Нямецкая армія прыйшла вызваліць вас! Капут Савецкаму Саюзу! Чырвоная Армія разбітая, хутка ўжо Маскву забяруць».

А калі пра партызанаў мова ішла: «Гэта бандыты, яны толькі рабуюць вас, сяляне, трэба іх выкрываць, гнаць» — вось у такім духу.

І вось я на падпольнай рабоце з 15 красавіка 1942 года. А гэта, аб чым далейшая размова, было пад канец 1942 года ці, мусіць, у 1943 годзе. У РДК у Слоніме праходзіў нейкі сход. Па абавязку службы ў гарадской управе, а галоўнае, як кіраўнік гарадской нелегальнай арганізацыі, я таксама прысутнічаў на гэтай сходцы. Бачу: стаіць незнаёмы, ніжэйшы за

мяне, малады чалавек у чорным скураным паліто. Мне кажуць: «О то новы эсдовец». Можа, яму паказалі і мяне. Ну, запомніў яго. І вось іду я па цяперашняй вуліцы Янкі Купалы (Маставая яна называлася)… Іду я па Маставой якраз каля СД, бачу, акно адчынена, чую: «Спадар Міско! Зайдзіце». Думаю я: «Які чорт мяне пагнаў ісці сюдою?»

Але нічога не зробіш, не ўцячэш: гэта ж днём. Заходжу ў пакой. Сядзіць ён адзін. Хто ж гэта? Прывітаўся за руку і кажа:

— Пазнаёмімся. Алёйза Пецюкевіч.

Паміж намі адбыўся прыблізна такі дыялог. Зазначаю:

— Знаёмае прозвішча.

Ён:

— Гэта ж мой брат быў рэдактарам «Шляху моладзі», — кажа.

— Гэ, — кажу, — то-та!

— Якія ў цябе адносіны з Сіняком?

— Нармальныя.

Што я магу казаць?

— Так-то і нармальныя?

— А то, — кажу, — нармальныя: не біўся, не сварыўся. Што ён мне? Не перакасіў, не перааараў…

— Так-то яно, — кажа, — так, але… Прынёс ён сюды падшыўку газеты «Вольная праца», перадваенную. І пападкрэсліваў там выразы ў тваіх матэрыялах… І вось што ён сказаў тут: «Унь сядзіць у магістраце камуніст, а вы вушамі хлопаеце». — «А хто такі?» — «А во, то ж Міско, Іверс». Я пытаю: «А ён хто, беларус ці жыд?» — «Беларус». — «Дык што ж ты на беларуса брэшаш?! Каб жыда, то я, можа, расстраляў бы, а беларуса — не». — «То ж ён камуніст». — «То й

што ж, што камуніст? Беларускія камуністы ідуць да дабра сваёй Бацькаўшчыны адным шляхам, а мы з табою — другім. Ты даваў каму яшчэ падшыўку?». — «Не».

Тут якраз печка гарэла, дык Алёйза ўзяў падшыўку і — у печку.

А мне ён тады сказаў: «Я яго прыстрашыў: «Знаеш што, калі будзеш яшчэ брахаць, то невядома, што яшчэ з табою будзе. Не трэба адзін аднаго выдаваць».

Я спытаў у Пецюкевіча: чаму ж сваіх артыкулаў у той самай газеце Сіняк не паказваў? Там жа і яго артыкульчыкі былі напісаны да арышту… І там не менш камунізму, чым у мяне. Я сказаў, што ён у Картуз-Бярозе быў, а я не быў…

І адразу кажу не для апраўдання, а шчыра кажу, што я не камуніст, не быў я, кажу, у КПЗБ, то што ж ён брэша. Ну, кажу, дзякуй вам за гэта, што адкрылі для мяне. І мы развіталіся.

Вось бачыш, як яно было. На мяне былі зроблены ў часе акупацыі ажно чатыры даносы. Першы быў ад Сіняка Сяргея.

З Алёйзам Пецюкевічам з часам я сустракаўся ў горадзе, гаварылі, але глыбокіх размоў з ім я не вёў. Разумееш, ён такі элемент — не нашай загартоўкі. Мог часам дзе і «праляпацца», і ўсё. Неяк сустрэў яго п'янага, дык казаў мне: «Дастань ты мне аўтамат». Дзе ж я табе дастану, кажу? «Ты ж там да бацькі ходзіш, у партызан вазьмі такі з калясом*».

— А навошта табе з калясом?

— Пастраляю гэтых эсдэвічаў!

---

* Савецкі кулямёт-пісталет Дзегцярова (ППД) з круглым дыскам, выпускаўся напярэдадні вайны.

Быў часта п'яны.

**У. К.** А што, у іх не было зброі?

**А. І.** Была, пісталеты. «Слухай, кажу яму, я з партызанамі не сустракаюся, але каб сустрэўся ды спытаў, то спыталі б: «А навошта табе аўтамат?» І думаеш, там далі б аўтамат? У іх саміх часам хлопцы ходзяць з ружжамі толькі».

Аднойчы іду я па Студэнцкай вуліцы. Іду, а насустрач падвода. На возе сядзіць падводчык, беларуска-нямецкі паліцай, мужчына і жанчына з дзіцём на руках. Другі паліцай ідзе пры боку. Я мала ўвагі звяртаю. Ён з аднаго боку па абочыне ідзе, а з другога — я іду. Іду ў магістрат. І тут: «Браток, ратуй!» І гляджу я і бачу — Крынчыка Паўла брат Іван. І з жонкаю Клаваю Тарасюк (дэпутат Вярхоўнага Савета БССР яна была), і дзіця ў яе малое на руках… Я адразу заварочваюся і іду да воза. А той, што ідзе збоку: «Ты чаго? Бачыш? Вон, а то!». Я кажу: «Ты не крычы. Калі я да воза падыходжу — вы са зброяй, а ў мяне няма — то, мусіць, вас не баюся…» Пытаюся ў Івана: «Што здарылася?» — «Бачыш, арыштавалі, вязуць».

У той жа дзень я сустрэўся з членамі гарадскога антыфашысцкага камітэта, расказаў пра арышт сям'і Івана Крынчыка, якую трэба было вырваць з фашысцкіх кіпцюроў. Трэба. Але не выратавалі, бо нашым падпольшчыкам, што працавалі ў СД, немцы не даручылі весці гэтую справу. Праз некалькі дзён сям'ю расстралялі на Пятралевіцкай гары, што каля Слоніма.

**У. К.** Неяк Сіняк пісаў, што яны грошы збіралі, каб выдаць кніжкі, а Іверс пайшоў на кампраміс і выдаў свой зборнік на грошы ксяндзоў.

**А. І.** Не ведаю, на якія сродкі, там жа напісана: «Выданне «Калоссе». Хачу зазначыць: ніякага ганарару я не атрымліваў. Наадварот, за свае грошы (бацька прадаў пуд збожжа) сфатаграфаваўся і даслаў Шутовічу здымак.

**У. К.** Гэта быў прагрэсіўны часопіс. Сіняк-Хмара сам быў членам рэдкалегіі «Калоссяў», ён там часта друкаваўся. І ты ж друкаваўся, нават Пестрак, Таўлай і іншыя. Значыцца, былі членамі рэдкалегіі «Калоссяў», хоць яны і сядзелі ў турмах, як камуністы.

**А. І.** І мне тады сказалі: друкуйся сабе, калі ласка, нам не трэба будзе збіраць грошы. Ну вось і ўсё. Дык я сабраў там вершаў, здаецца з дваццаць пяць. А можа, больш паслаў… Канешне, больш. І паслаў я Шутовічу сшытак, а яны ўжо самі там на машынцы перапісвалі. Тады ж ні машынкі не было, нічога, ад рукі напісаў. І Шутовіч убачыў, што вершы варта выдаць, і запрапанаваў. У мяне ёсць (пасля вайны) ад Шутовіча два пісьмы.

**У. К.** Па гэтай справе?

**А. І.** Не, не па гэтай. Так, ён неяк тады ў Мінску быў і даведаўся мой адрас; пачуў, што я жывы і напісаў мне: «Як няма ў цябе твайго зборнічка, то я магу прыслаць». А ў мяне быў зборнічак. Як я прыйшоў з партызан у Слонім, дык валялася многа чаго ў нас на вуліцы. Я крыху падабраў кніжак. І з музея быў са штампам Максім Багдановіч, вершы, выдадзеныя ў такім зялёным пераплёце.

**У. К.** У Вільні выдадзеныя?

**А. І.** Не, савецкае выданне. У 1944 годзе, як мы прыйшлі з партызан, я колькі кніг падабраў на вуліцы Пушкіна ў Слоніме і сваю кніжачку знайшоў.

А тую, што са штампам музейным, я не ў музей аддаў. Вось такія справы, браток ты мой…

Аднойчы начальнік паліцыі Ушпік вёў сшытачак, у які запісваў нядобранадзейных, каторых трэба было арыштаваць. Я быў пятым у гэтым спісе. І мне наш падпольшчык Багданчук, які працаваў у карных органах, гэты лісток вырваў — і дзе ён узяў сакрэтны сшытак, пэўна, выкраў? Я быў пятым на першай старонцы. А колькі ўсіх — не памятаю. Шкада, што лісточак не захаваўся, у вайну згарэў у хляве на вуліцы Падгорнай, 13.

Захаваўся ў мяне данос бургамістра раёна Сагайдакоўскага. Арыгінал мне аддаў наш падпольшчык, сувязны Георгій Пыцель. Усю партызанскую пранасіў за пазухаю гэтую паперку, бачыш тут подпіс: Сагайдакоўскі, бургамістр раёна. Добры дакумент?

**У. К.** Цікавы, экзатычны. Са звярыным выскалам фашызму. Чаму бацька не данёс на сына і яго сяброў-партызан.

**А. І.** Быў на мяне яшчэ адзін данос, які зрабіў Сяргей Новік-Пяюн. Як я казаў, у нас у 1942 годзе было ў Слоніме падполле. А ў сорак трэцім годзе, якраз канюшыну касілі, прыляцеў з-за фронту Анішчык, і ўтварыўся падпольны райкам партыі, які ўсё ўзяў у свае рукі, ужо брыгаду пачалі ствараць Слонімскую імя Ракасоўскага. І ўсё наша падполле трапіла пад кіраўніцтва партыйнае з 1943 года. І было дзве рацыі ў партызанаў, адна ў адным месцы стаяла, другая — у другім. І мы вельмі добрую сувязь з Вялікай зямлёй і паміж сабой мелі. Такая сувязь, што хоць куды… Рэгулярна два разы на тыдзень з партызанскай брыгады, дзе Анішчык сядзеў, сувязныя дзяўчаты мясцовыя прыходзілі ў Слонім да

нас. Яны ў вёсцы жылі і заходзілі да мяне на кватэру, я ім звесткі даваў, у асобны пакой заводзіў іх, а яны там хавалі, мо ў трусы запіхвалі ці куды там… Я стараўся на тоненькай паперы пісаць, каб добра скруціць можна было і схаваць. Звесткі ад мяне былі галоўныя, таму што ў нас у біржы свой чалавек быў у той час, ну, у гэтым, у СД свае былі, у жандармерыі таксама сядзела адна дзяўчына… І вось, адным словам, разведка была ціп-топ, ніколі партызанаў зняэўку не засталі. Гэта тут. А што ўжо туды, на рацыю ў Маскву, у партызанскі штаб беларускі — то само сабою…

А бывала, такія важныя звесткі даваліся. Вось, напрыклад, Грыбава, тут недалёка ад Слоніма. У тое Грыбава майстэрні танкавыя нямецкія прыбылі ў 1943 годзе, ні то корпуса, ні то дывізіі, я цяпер ужо не помню. Але чаго яны сюды прыбылі? Значыць, сюдою будзе маршрут.

**У. К.** У майстэрнях будуць танкі рамантаваць?

**А. І.** Майстэрні — гэта майстэрні, яны ж разам ідуць. Я так і передаў. Дык мне Чарнышоў (Платон)* падзяку прыслаў.

**У. К.** Персанальную?

**А. І.** Не толькі, пісьмо прыслаў, у райкам яго пераслалі, а мне Анішчык сказаў: «Табе падзяка за гэтую інфармацыю, таму што яна вельмі важная».

Вось корпус, дапусцім… Калі тут майстэрні, то і корпус не ў Францыі ж. Альбо тут размясціўся, або рухаецца сюды… Няма, на жаль, у мяне таго пісьма,

* Чарнышоў Васіль Якаўлевіч — сакратар Баранавіцкага падпольнага абкама КП(б)Б, камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння.

усё перавярнулася за гады... І сам ён, Анішчык... памёр ужо, не хочацца пра яго гаварыць.

**У. К.** Стаў віляць хвастом ва ўсе бакі?

**А. І.** Ну так. Ён сукін сын. І другія нашы былі машэннікі... Толькі і думалі, каб захапіць пасады.

Ага, Анішчык што кажа: «Трэба нам радыстку размясціць у Слоніме». А тут быў Міско Феакціст, кіраваў раённым камітэтам антыфашысцкім, жыў каля самага лесу. Туды заходзілі партызаны, туды і Анішчык, бывае, прыйдзе. Неяк Феакціст прыходзіць да мяне і кажа: знаеш што...

А я раней Анішчыку расказваў, як сустракаўся, што музей у Новіка, што падвал у яго, а ў падвале там усялякае барахло, што хочаш музейнае. І што Пяюн развёўся праз нямецкі ЗАГС са сваёю жонкай. Анішчык зразу наматаў на вус. Потым яны параіліся... Ну, я ж расказаў, дзе хто і што робіць, праінфармаваў, як сакратар гарадскога антыфашысцкага камітэта. Я ж ведаю, што ўсё трэба казаць, дзе што, ну, для нашых, для справы трэба. І яму спатрэбілася, відаць, бо прыходзіць Феакціст Міско і кажа: «Пойдзем да Новіка». А чаго? — пытаюся. «Анішчык загадаў, прасіў, ці як там, ну, загадаў, сакратар, вядома... каб мы пайшлі да Новіка і запрапанавалі яму прыняць радыстку і паставіць рацыю на пару разоў у музей, хоць зрабіць некалькі выхадаў у эфір. Бо што? Заблакіравана пушча, і тыдзень няма, больш як тыдзень, звестак у партызанаў ад нас. Дык як што важнае даведаемся, каб яна магла адразу перадаць, хоць раз або два па рацыі. Ну, дваццаць разоў не зможа, бо запеленгуюць. Вось мы прыйшлі, выклікалі яго. А ганак быў ад агарода, не ад вуліцы. Я і кажу: так і так — мы ад партызан. І так далей. «Тут хочуць на

пару дзён, — гэтак і кажу, — радыстку пасяліць. Хочаш — уборшчыцай к табе, а хочаш, зробім дакумент, што жонка. Як хочаш». Я кажу: «Ад партызанскага камандавання даручэнне». Ён збялеў. Не прамовіў ні слова. Мы стаялі, стаялі, нічога не сказалі і пайшлі. Пайшлі. А што ён робіць? А быў тут такі поп Данілюк, а яго сын Барыс Данілюк быў афіцэр беларускага батальёна. А з ім сябраваў Сяргей Новік. Ён прыйшоў і сказаў, што вось прыходзіў Міско яшчэ з адным ад партызан і рацыю хацелі паставіць. А той Барыс Данілюк пайшоў у СД. Быў там такі Жултак нехта, паляк. Я яго знаў асабіста, ён у кнігарні да вайны працаваў, Жултаку расказаў Данілюк, а Жултак пайшоў і шэфу. А шэф кажа Жултаку: «Ты казаў яшчэ каму?» (Усё роўна як той Пецюкевіч). Не, кажа. Ну, усё. Цыц! Усё! На гэтым канец.

І давай сачыць за маёю кватэраю, хто прыходзіць да мяне.

Гэта было вясною або летам, месяца не помню, калі мы гэта дзейнічалі. Анішчык быў ужо тут, прыляцеў, як канюшыну касілі, пад лета.

І немцы 25 лістапада 1943 года зрабілі налёт. Але іх налёт аказаўся амаль халастым, не зусім халастым, але напалавіну, таму што нас знянацку не засталі. Усевалад Багданчук, сувязны наш забег і папярэдзіў. А даведаўся аб планах немцаў выпадкова. Бачыць, эсдоўцы заварушыліся, пытае ў таварыша па працы: «Куды, браце, збіраешся?» Чуе: «Арыштоўваць таго, таго на Падгорнай вуліцы, там ёсць Міско, у горадзе ёсць гняздо падпольшчыкаў». Багданчук прыбег, мяне не было дома, жонцы сказаў аб небяспецы, Пыцелю — нашаму падпольшчыку-эсдоўцу-пера-

кладчыку гебітскамісара Эрэна. І яшчэ каму толькі можна паведаміў. І мы выйшлі з горада.

У той жа дзень арыштавалі маю жонку — яна прыйшла на хутар да бацькі. Зайшлі вечарам, забралі і замучылі ў Калдычэве. Потым бацьку. Бацьку цераз пару месяцаў.

А я ж паехаў на ровары, каб папярэдзіць бацьку. Так жа сярод белага дня ісці ўдваіх з Вераю нельга было. Прыехаў на хутар. Даведаўшыся ад суседзяў, што бацька недзе ў млыне ў Слоніме, пайшоў сустракаць жонку. А яна ішла на хутар другою дарогаю. І мы не сустрэліся, размінуліся навекі. Тым часам яна прыйшла ў хату. Прыцемкам карнікі акружылі хутар, і Вера не змагла ўцячы ад нелюдзяў. Тады ўзялі ў горадзе некалькі чалавек, бо Усевалад не паспеў усіх папярэдзіць.

І так загінула мая жонка Вера. Загінуў і бацька. Ты ж ведаеш фашыстаў — усю сям’ю знішчылі…

Саветы Пеюну далі 10 гадоў. І мяне выклікалі як сведку. Пытаюцца ў яго, ці праўда, што мы прыходзілі з Феакцістам Міско. «Праўда», — адказвае.

— Нашто ж ты выдаў?

— Я прабалтаўся.

Прабалтаўся!..

**У. К.** Прабалтаўся — гэта на яго падобна.

**А. І.** Бог яго ведае… Ага! Пытаюцца ў яго, ці я не махлюю. Кажа: «Не».

Цяпер ён па радыё выступае, дае інтэрв’ю, што я яго выдаў, робіць з сябе нявіннага пакутніка сталінізму. Дзіўна, што некаторыя пісьменнікі і журналісты клююць на прыманку, вераць. Хай бы спыталі ў мяне, заглянулі б у судовую справу — і ўсё стала б ясна.

Як вядома, усе палітычныя справы вялі работнікі дзяржаўнай бяспекі. Будавалі яны справу спачатку Пеюна, а потым Багданчука, выкарыстаўшы першага як сведку абвінавачання супраць другога. Багданчуку, які выкрыў эсдоўскі налёт на падпольшчыкаў, таксама далі 10 гадоў зняволення. Адсядзеў больш за 9, пераглядалі справу. Нейкі адвакат у Маскве знайшоўся, дэлегат XX з’езда КПСС. І той паглядзеў, што справа Усевалада Багданчука белымі ніткамі шыта, а ўсе ж справы ішлі ў Маскву, каб ты ведаў. З Масквы далі загад, каб выпусцілі зняволенага, афармілі новымі пратаколамі допыту сведкаў. То і тады не адразу выпусцілі — яшчэ два тыдні трымалі.

Па Багданчуку следства вялося больш чым два гады. Мяне дапытвалі, можа, разоў 50. Аднойчы нават чатырох работнікаў КДБ прыслалі, дамагаліся, каб я пацвердзіў, што ён нейкага жыда застрэліў. А я кажу, можа, ён дзесяць застрэліў, толькі аб гэтым нічога не ведаю. Наколькі мне вядома, то ён нікога не забіў. Не сакрэт, што немцы забівалі яўрэяў дзе хацелі і як хацелі. Пэўна, і таго чалавека акупанты застрэлілі на вуліцы.

Словам, пры кожным допыце патрабавалі, каб гаварыў праўду. Страшылі, што пасадзяць. Палохалі дома жонку, што пасадзяць за дачу няправільных паказанняў. Я ж следчым гаварыў, што мы Усеваладу дазволілі ісці ў СД, каб ён там… тым…

**У. К.** Інфарматарам.

**А. І.** Інфарматарам. Каб ён, кажу, выконваў нашы заданні. І ён выконваў…

З таго часу, калі мяне выклікалі, груба дапытвалі, страшылі работнікі следчых органаў, прайшло каля 30 гадоў. Цяпер я сам зайшоў у мясцовае КДБ. І там

ім кажу пра Пеюна: «Што ж ён брэша, нібы я яго пасадзіў? Падніміце дакументы, паглядзіце, ці я на яго пісаў? Я то мог яго прапісаць за тое, што выдаў арганізацыю. Але я не пісаў. Мяне проста паклікалі на суд як сведку...» І што з імі гаварыць — разводзяць рукамі, трымаюць нейкі «нейтралітэт», быццам не яны складалі судовыя справы.

Гісторыя пра Слонімскае антыфашысцкае падполле яшчэ чакае свайго летапісца. Было шмат цікавых, адважных і страшных мерапрыемстваў. Узяць хоць бы даносы на мяне. Як я ўжо раней зазначыў, пра тры першыя я своечасова ведаў, ведаў, што пагражае пакутніцкая смерць, але, кажу не для пахвалы, думаючы пра смяротнае становішча нашай Бацькаўшчыны, не мог пакінуць важны, адказны пост барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прыходзілася з жонкай Верай не раз начаваць зімою за хлявом. Бывала, прыйдзе пад вечар Багданчук або Пыцель і скажа: «Будуць палякаў браць». А чорт іх знае, палякаў ці не палякаў. Сядзім за хлявом, прыслухоўваемся, а мароз залазіць пад вопратку. Машыны гудуць па вуліцы. Немцы... Праўда, яны забіралі ноччу людзей па нацыянальных групах: палякаў дык палякаў, яўрэяў дык яўрэяў. Прытрымліваліся своеасаблівых нацысцкіх «парадкаў», не змешвалі нацыянальнасцяў. Вядома, часам бралі і беларусаў.

Вядома, члены гарадскога антыфашысцкага камітэта разумелі, што нашы разведчыкі, якія працавалі ў карных органах, не заўсёды і не ўсе маглі раскрыць планы хітрага і драпежнага ворага. І следчы на адным з допытаў паспрабаваў падкалоць: «Вось бачыш, Багданчук і не ведаў, што будуць арыштоўваць?». Абышлі. І Пыцель не ведаў.

**У. К.** Дык гэта выходзіць, што ў СД і работнікам сваім не давяралі.

**А. І.** Не тое, што не давяралі. Яны не давяралі… Як гэта сказаць? Яны вельмі не распаўсюджваліся. Яны так знянацку: «Давай, паедзеш памагаць». І паехалі, а ты будзеш ехаць і не заўсёды ведаць куды. Яны канспіратыўна працавалі. Гэта ў нас пісалі… Асабліва былі першыя публікацыі, што немцы былі дурныя, а яны вельмі разумныя. Яны таксама былі кемлівыя. У іх служба пастаўлена была добра. Вось такія рэчы.

**У. К.** Дзякуй табе за добрую інфармацыю. Гэта будзе мне карысна. Я недзе змагу яе выкарыстаць для доказу праўды. А Сіняк-Хмара перастаў са мною перапісвацца, але, з другога боку, хоча, відаць, падтрымліваць сувязь і шле мне свае газеты і «Баявую ўскалось». Там артыкул, як ён у Мюнхене апынуўся, расказвае, як ён канфліктаваў з Астроўскім і ўсё такое.

**А. І.** Ён пісаў, быццам яшчэ пры немцах збіраўся арганізаваць партызанку. Так піша ў газеце. У мяне такая газета ёсць. Нічога такога не было. Ён, праўда, называе там прозвішча…

**У. К.** Я бы мог папасціся вось на такой справе. Трэба ж ведаць. А ён мне пісаў, што дапамагаў вызваляць Таўлая з лідскай турмы.

**А. І.** Мусіць, і гэта ўжо брахня.

**У. К.** Ён кажа, што не сам хадзіў прасіць, бо, кажа, «каб я пайшоў сам да Астроўскага, то гэта толькі б зашкодзіла Таўлаю». З Астроўскім у Сіняка быў канфлікт, ён быў быццам супраць супрацоўніцтва з немцамі на акупаванай Беларусі. А Астроўскі ім служыў, так што ён Сіняка б не паслухаў. Чытаеш і думаеш: «А Бог яго ведае…» А пра Танка пісаў, што з Танкам спаў на адным ложку пры Польшчы там, у Вільні.

**А. І.** Ну, а калі спаў, то што?

**У. К.** Я ў Танка спытаў, ці было такое, дык ён адказаў, што нічога падобнага не было і быць не магло. Толькі раз, калі паказаўся Сіняк у Вільні, дык падполле папярэдзіла Танка, каб перадаў яму грошы за праезд, але не асабіста, а праз трэцюю асобу, праз рэдакцыю «Беларускай газеты», бо Сіняк не знойдзены. Вось Танк гэта і піша ў «Лістках календара», толькі не называе прозвішча Сіняка.

**А. І.** Не хачу я яго, Сіняка, губіць. Я кажу: ну добра, служыў ты, не служыў, а нашто ты ўсюды вылазіш, памаўчы. Маўчы.

**У. К.** У адным з нумароў «Беларускага голасу» ўжо і водгук самога Сіняка на лімаўскую публікацыю, маўляў, нарэшце нешта слушнае сказалі і пра Сіняка. Не ўсё, што належала б сказаць пра яго літаратурныя заслугі… пра ўклад. У яго манія вялікасці, хоча, каб яго хвалілі. У адной з газет, што мне прыслаў, самарэклама, як яго выбралі ў нейкім там асяродку мужчынам года.

**А. І.** Ды ён стары… Цяпер яго газета малая, многа меншая, чым тыя нумары, што я бачыў у 1958 годзе. Там яна была як «Праўда» .

У 1977 годзе я быў у Беластоку, прыватна ездзілі. Там жыве мая знаёмая, якая пры немцах працавала ў магістраце і ведае Сіняка. Расказвала, што яе знаёмыя бывалі ў Таронта, наведвалі Сіняка. Дык рэдактар «Беларускага голасу» мае кватэру з васьмі пакояў, не раўнуючы, як даваенны старшыня Слонімскага райвыканкама Швайнштэйн. Вось як!..

*1991*

*Данута БІЧЭЛЬ*

# Іверс і верш

Магчыма, недзе ў Францыі ці ў Эфіопіі зусім не мае значэння, на якой мове размаўляе жонка творцы і як яна любіць сваю містычную Краіну, ці, больш дакладна, тыя нябёсы, якія над Краінай трымаюць сонца і зоркі...

У нашай жа Краіне Доўгай Цёмнай Хмары ад жонкі мастака ці паэта шмат залежыць, як развіваецца, які дае плён яго талент... Перш за ўсё словы, якімі яны размаўляюць пра каханне. Думкі, адносіны да чужынскай улады, бо не чужынскай улады мы пакуль што не мелі. І адсюль вынікае, як растуць і шчабечуць іхнія дзеці, а пасля і ўнукі, калі Бог дае ў сям'і нават такое шчасце...

Івану Дарафеевічу Міско, ці Анатолю Іверсу, пашанцавала як нікому. Яго жонка Ніна Паўлаўна была яго сябрам і аднадумцам, аднамоўцам. Куды ўжо далей, калі ў часы перабудовы яны парсючкоў сваіх называлі лагодна імёнамі вялікіх палітыкаў! А іх меншая ўнучка вольна пераходзіла з адной мовы на другую, ведала ўсе мовы, якімі тут карысталіся. Як да яе звярталіся, так яна і адказвала, так і прадаўжала шчабятаць... Калі ёй не было яшчэ трох гадкоў, яна разам з дзедам вольна складала вершы:

— Чаму ў цябе, Ленка, парвана сукенка?
— Парвана сукенка схавала каленка...
— Чаму ў цябе, Ленка, пабіта каленка?
— Парожак высокі, а Ленка маленька...

Пра першую жонку Веру я ведаю толькі тое, што імя Вера зашыфравана ў псеўданіме Іверс, а яна і бацька Івана загінулі ў лагеры.

Псеўданім Іверс прыдумала Вера…

Моладзь у Чамярах ладзіла вечарынку, яны ставілі п’есу «Модны шляхцюк», спектакль скончыўся позна, пакуль у гумне разабралі сцэну, склалі ў штабель дошкі — скончылася ноч… Іван праводзіў Веру дадому, з імі ішоў ціхі дожджык. Парасона не мелі, трэба было развітвацца. Усхваляваны спектаклем, Іван захацеў пачытаць ёй верш. Міжволі ён пачаў шаптаць не свой верш, а той, які расказваюць усе беларускія хлопцы сваім дзяўчатам на развітанне:

Ужо пара мне дадому збірацца,
Вечар позны, і час не стаіць…
Ах, калі б ты магла здагадацца,
Як не хочацца мне ухадзіць…

Скончыў, Вера на нейкі час страціла мову. Яна ведала, што ёсць на зямлі такі цуд — рыфмаваныя словы, але ж каб такое… Памаўчалі, яна ціха пайшла ў весніцы, не развіталася. Гэта была ноч з суботы на нядзелю. У нядзелю Іван збіраўся ехаць на рынак. Але дождж ык ішоў усю ноч, бацька сказаў, што не трэба ехаць на рынак, шкада коніка… Іван пайшоў на досвітку па грыбы. Ідучы міма Верынай хаты, пастукаў у акенца, разбудзіў яе. Яна выглянула, галавой паказаў, што будзе чакаць у лесе. Пайшоў на тыя горкі, якія дрэмлюць з часоў невядомай далёкай вайны… Хадзіў паміж соснаў і пазіраў, калі па сцяжыне будзе ісці Вера. Яна прыйшла, у яго ў кошыку было ўжо некалькі бурых, затуманеных шчырых шапкаў. Яна зірнула ў кошык і мовіла:

— Іверс!

— А як гэта ты абзываешся? — засмяяўся…

— Хіба я абзываюся? Іверс — Іван і Вера…

— А чаму на канцы сыкае?

— А гэта — наш сакрэт… Такі кароткі верш…

— Не сакрэт, — зразумеў Іверс, — гэта сям’я…

Іван Міско пачаў падпісваць вершы гэтым прозвішчам, а імя Анатоль прыдумаў, каб добра гучала…

Я цяпер упэўнена, што Беларусь саветы не знішчылі толькі таму, што не знішчылі ў ёй каханне, сямейнасць, сястрынскую і братэрскую любоў, духоўную сям’ю на прымітыўным узроўні сваяцкасці, свойскасці «сваіх хлопцаў» і «сваіх дзяўчат»… Гэта дало нам магчымасць трымацца амаль у падпольным стане, захаваць нацыянальную культуру на зародкавым узроўні, а нават яе развіваць і множыць… І зберагаць яе ад чужынскіх уплываў як неацэнны духоўны скарб для нашчадкаў у фальклорным, наіўным простым выглядзе…

Так мы стварылі сяброўскую эліту стану, эліту па прафесіях, па відах творчасці. Мы маем духоўную містычную Беларусь у тых межах, якія нам як запавет намаляваў Мацей Бурачок у «Дудцы беларускай». Гэта не надта добры шлях пабудовы нацыянальных адносін, але як няма ніякай іншай магчымасці, то лепей так, чым ніяк…

А хто з гэтага пасміхаецца, адвяргаючы такі стан рэчаў, той якраз і паддаўся саветам, застаўся адзін каля разбітага карыта іх усяленскай класавай нянавісці.

Я пісала вершы і думала, што я тут нехта важны, і гэта нармальна ў маладыя гады. З Анатолем Іверсам мы сустракаліся на розных літаратурных спаткан-

нях, цяпер ёсць такое добрае маладзёвае слова — тусоўках. Ён прыязджаў у Гародню са сланімчанамі, прывозіў тых маладых сланімчанаў, якія яго слухалі, — Алену Руцкую і Валодзю Бутрамеева... Вадзіў іх па блытаных вуліцах Гародні, добра арыентуючыся ў напрамках. Я аднойчы была здзіўлена, калі ішлі мы ад гатэля «Беларусь» да пляца Тызенгаўза па вуліцы 17 Верасня, а не па Горкага, то Іверс папракнуў, што ў сваім горадзе я не ведаю простых дарог.

Наша сапраўднае сяброўства пачалося, калі я пачала збіраць экспанаты ў містычны Музей Максіма Багдановіча. Атрымала ад Анатоля Іверса другое выданне кнігі Максіма Багдановіча «Вянок», Вільня, 1927 года, «Віленскае выдавецтва» Б. Клецкіна. У асобніка «Вянка» была прыгожая легенда: быў знойдзены Іванам Дарафеевічам у час акупацыі на вуліцы, затаптаны нагамі, пабруджана вокладка, але ўсе старонкі захаваліся. Змясцілі гэтую кнігу ў экспазіцыю музея Максіма Багдановіча. Нягледзячы на вайну, падполле і партызанку, Іван Дарафеевіч збярог шмат віленскіх выданняў. Меў усю падпіску часопіса «Калоссе», але ў музей Максіма, які я збірала, ён аддаў толькі паасобныя нумары... Астатнія хаваў для нашчадкаў...

У той час, калі я ездзіла ў Слонім па экспанаты, Іверс быў на пенсіі, але працаваў у Таварыстве аховы помнікаў гісторыі і культуры, са мной ён размаўляў у пустой паўзмрочнай зале кінатэатра.

Іван Дарафеевіч пачаў мне апавядаць пра сваё жыццё, пра тыя падзеі, у якіх ён прымаў удзел. Укладзеная Уладзімірам Калеснікам анталогія паэтаў Заходняй Беларусі «Сцягі і паходні» выйшла ў 1965 годзе, паэты неафіцыйна былі абароненыя гэтай

кнігай ад той віны, што яны нарадзіліся ў Заходняй Беларусі. Але ў нас калі ў нечым цябе аднойчы абвінавацілі, то не паможа ніякая рэабілітацыя… Іван Дарафеевіч увесь гэты цяжар насіў у сабе, яму не раз хацелася вызваліцца, скінуць камень з душы. А тут Данута сама пытаецца пра нешта такое. Я не змагла ўсё ў сваёй памяці ўкласці, пасартаваць, запомніць. Ён гаварыў пра сваю бяду, як яму даручылі кіраваць падполлем у Слоніме пры гітлераўцах, а пасля зрабілі «здраднікам», «ворагам народа». Ён апавядаў мне пра людзей, з якімі меў справу. Нехта дапамагаў яму як беларус беларусу. Папярэджваў, калі гестапаўцы ўночы збіраліся арыштоўваць.

Толькі цяпер чытаю пра гэта такі выразны тэкст, апублікаваны ў кнізе «Аўсяныя росы» (Мінск, «Кнігазбор», 2012). Чаму толькі цяпер?

Ён напісаў гэтыя кароткія ўспаміны як узор ашчаднасці працы літаратара, каб не забіваць галаву чытача лішнімі словамі, дробнымі неістотнымі фактамі. Пра гэтыя страшныя блытаныя сцяжыны падполля і партызанкі ён у кнізе напісаў тое, што трэба, каб засталося для нашчадкаў, магчыма, думаў толькі пра сваіх унукаў і праўнукаў. Хацелася б, каб такіх маленькіх апавяданняў было там больш. Бо тады ў адной ціхай размове са мной ён мне расказаў значна болей… Я хацела б цяпер прачытаць пра яго сустрэчу з Наталляй Арсенневай, калі яна прыязджала з беларускім тэатрам са сталіцы ў Слонім. Пра Ільяшэвічаў Хведара і яго брата… І пра ксяндза Адама Станкевіча, які прывёз з Вільні, дапамог яму прачытаць карэктуру і выправіць памылкі друку ў першым яго зборніку вершаў «Песні на загонах»…

Пра Ларысу Геніюш не расказваў. А на спатканнях у яго доме і на яе днях народзінаў бывалі тыя самыя людзі… Усё, што я даведалася тады, засталося ў маёй памяці на эмацыйным узроўні, крыху мяне бянтэжыла, чаму ён выбраў мяне, каб расказаць горкую праўду свайго жыцця. Цяпер разумею, што ён не адной мне гэта расказваў…

Ягоная споведзь мяне з ім падружыла… Пасля доўгага цярпення, таемных выклікаў на допыты, працы ў смалакурні хацелася літаратурнага прызнання, сяброўства, духоўнага яднання. Ён святкаваў свае дні нараджэння дома, пераважна ў Чамярах, адкуль быў родам, дзе працавала добрая беларуская бібліятэка, а пры ёй была даволі прасторная зала для сяброўскіх ціхіх сустрэч. Прыходзілі людзі з вёскі і са Слоніма, аўтобус хадзіў, ды і пехатой можна было дайсці. Я ездзіла на гэтыя вечарыны, прыязджалі пісьменнікі з Мінска, пераважна землякі Павел Міско і Іван Чыгрын. Самымі цікавымі выступоўцамі на гэтых вечарынах былі вясковыя людзі. Не памятаю, каб яшчэ каму з паэтаў сяляне гаварылі шчырае слова ўдзячнасці за яго літаратурную працу, за вершы, а Іверсу гаварылі… І прыносілі простыя падарункі: вытканыя і вышытыя сваімі рукамі ручнікі, выпечаныя ў сваіх печах караваі, кветкі вяргіні і цыбулькі са сваіх гародчыкаў. Успаміны перабіваліся добрым чытаннем вершаў і народнымі песнямі, якія спявалі дзяўчаты са Слоніма і з вёсак, апранутыя ў народныя строі.

Ён не прэтэндаваў на ўсебеларускую славу, яму дастаткова было Слоніма і Чамяроў, таго наваколля, дзе ён вырас, дзе змагаўся.

Пасля прыгожых вечарынаў у зале Іверсы не ленаваліся, самі частавалі сваіх гасцей. Я практычна не бачыла ўсяго дома, таму што яны запрашалі ў адзін пакой справа ад сенцаў, які быў створаны для гасцей. У пакоі змяшчалася некалькі сталоў, якія ставіліся адзін да другога, і навокал іх крэслы.

У нашай вясковай варажбе людзей лічыць нельга, каб не прыносіць ім няшчасця, таму я і не ведаю, колькі гасцей змяшчалася ў той гасціне. Але звычайна ўсім хапала месца, і сталоў не ламалі, усе прыгожа размаўлялі паміж сабой… Гэта была слонімская эліта — паэты, краязнаўцы і сябры па жыццёвых прыгодах з мінулага. Уся плеяда заходнебеларускага постмадэрнізму містычна прысутнічала на святочных імпрэзах у Анатоля Іверса, усе рана перабраліся на другі бок люстэрка. Жывы прадстаўнік гэтай сябрыны Максім Танк на круглыя даты нараджэння да свайго паплечніка па змаганні не прыязджаў, быў літаратурным начальнікам, заставаўся асцярожным з часоў падполля. Аляксей Карпюк пасылаў мяне, прыязджаў Аляксей Пяткевіч, у апошнія гады — Ігар Жук і Ала Петрушкевіч ездзілі да Анатоля Іверса не на святы, а каб сабе зрабіць свята ў буднія дні, дакрануўшыся да жывой легенды заходнебеларускай культуры…

Не заўсёды былі на святах слонімскія сябры Рудольф Пастухоў і Іван Сяргейчык… Амаль заўсёды быў Васіль Супрун.

Слонімскія літаратары — унікальныя людзі. Яны лічылі Анатоля Іверса духоўным лідарам таму, што ён быў старэйшым за ўсіх і шмат пражыў выпрабаванняў. Але гэтае лідарства было чыста фармальным. Калі адбываліся нашы сустрэчы ў

рэдакцыі Слонімскай «раёнкі», яны сядзелі шчыльна з аднаго боку за сталом, але калі прыгледзецца добра да іх, то кожны быў сам па сабе, кожны ведаў сабе цану і лічыў, што ён то сапраўды нечага варты, а ўсе разам толькі таму, што жывуць у тым самым горадзе... Якія літаратары, такія былі і іхнія жонкі. Іван Сяргейчык называў мяне матуляй, сустракаў мяне на чыгуначным вакзале на машыне афганскага палкоўніка, які сам сядзеў за рулём. Прапаршчык Сяргейчык мог сабе дазволіць такі жэст. Але дома ён рабіўся ціхім і пакорным перад жонкай. Яны нешта ўсё адно адносна другога камбінавалі, не давяралі ўзаемна, гулялі ў нейкую дзіўную гульню, аж пакуль ён смяротна не захварэў. Вось тады яны ўжо сталі адным целам і адной душой. І вылезла на паверхню іх горкае каханне, змарнаванае Афганістанам. І Ваня, каб не зрабіць пасля смерці болей прыкрасці жонцы і дзецям, узяў ды спаліў на лецішчы кнігу свайго жыцця — раман пра афганскую вайну. А да друку падрыхтаваў нявінныя апавяданні. Нават дзённік «Горкі пыл Гіндукуша», з якім ён смела дэбютаваў у літаратуры, не змясціў у той пасмяротнай кнізе... Усіх абмануў і самога сябе.

Рудольф Пастухоў адчуваў сябе найлепей. Ён хітраваў з наменклатурным начальствам. А з сябрамі быў адчынены насцеж. І такая ж яго жонка Зіна. Такой і засталася. Рудольф адзін меў час паказаць мне гістарычныя помнікі Слоніма і цікавых людзей, старажылаў. Мы з Рудольфам маліліся на святой імшы ў касцёле святога Андрэя. Пасля імшы ён падвёў мяне да ксяндза Вітольда Жэльветра, сам з ім абняўся, як з братам. І мы хораша паразмаўлялі. Рудольф паказаў, дзе ў Слоніме было старажытнае

замчышча, дзе быў палац Сапегаў, ён вадзіў мяне па агародах, пералазілі праз платы, ад замчышча там не было ніякіх арыенціраў, але Рудольф ведаў дакладна, дзе што знаходзілася ў старажытным паселішчы Слоніма… Увогуле з сяброў, якіх прысылаў Бог, найболей здзіўляў Рудольф Пастухоў. Думаю, не адну мяне. Ён з кожным чалавекам будаваў свае адносіны па асаблівым, створаным ім у думках, сцэнарыі. Калі ён святкаваў шасцідзесяцігоддзе незадоўга перад сваёй смерцю, ён раздзяліў чамусьці сваіх гасцей на дзве групы. Спачатку запрасіў на горку ў Чамярах слонімцаў, пасля прыехалі мы з Гародні. Са слонімцаў разам з Рудольфам чакаў нас толькі Іван Сяргейчык. Рудольф пераканаўча казаў, што нам з рабацягамі няма пра што гаварыць. Але думаю, справа была зусім не ў гэтым…

Васіль Супрун увогуле пазбягаў размоваў. Васіль Рыгоравіч нават у Саюз беларускіх пісьменнікаў уступаў непасрэдна праз Мінск, у абласнога аддзялення ён не прасіў рэкамендацыі.

Да Іверсаў дадому запрошана была я не адразу. Мы сустракаліся з ім у горадзе. Мусіць, гэта быў той самы недавер з часоў падполля, ён аберагаў сваю сям'ю ад розных нечаканых прыгодаў. Яго жонка Ніна Паўлаўна працавала тады, калі ён быў на пенсіі, яна ж была нашмат маладзейшай за яго… Яны аберагалі сваю сядзібу, якую захоўвалі ў такім парадку, што пазайздросціць. Стаяць у вачах груша пасярод гародчыка, бліжэй да хаты, акуратны плоцік, веснічкі, яблынькі ад вуліцы, склеп насупраць дзвярэй і градкі, на якіх заўсёды расло шчыльна і роўненька — і бульба, і цыбуля, і агурочкі, і чырвоныя памідоры, што ўвогуле рэдка можна сустрэць на грунце, не ў

цяпліцы… Так і хацелася нечага шчыпнуць, такое ўсё было заманлівае… Да сядзібы Іверса вялі дзве доўгія вуліцы. Адна непасрэдна ад цэнтра, дзе знаходзіўся гатэль «Шчара». Дамовіўшыся па тэлефону-аўтамату пра сустрэчу, я ішла пешкі па гэтай бясконцай вуліцы, аж стамлялася, і нечакана вуліца спынялася каля патрэбнай мне хаты.

Апошні раз мяне вяла другая вуліца ад Сяргейчыкавай кватэры, але таксама проста і проста — і яна скончылася перад тым самым драўляным домам…

Я пра гэтую сустрэчу 27 жніўня 1999 года пісала ў эсэ «Яблынькі» ў кнізе «Хадзі на мой голас». Тады я падпісала Іверсу «Снапок», ён за два месяцы свайго жыцця гэты томік перагледзеў і напісаў мне некалькі словаў, рука таксама ўжо дрэнна слухалася.

І была я на яго пахаванні…

Яны былі адным целам і адной душой — Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч. Такога сумоўя душаў не сустракалася, каб адзін пачынаў гаварыць, а другі ведаў наперад, пра што будзе гаварыць першы, і прадаўжаў.

І калі пачаліся падзеі, якія карэнным чынам усё перавярнулі ўверх дном, гэтыя двое не разгубіліся, у іх былі арыенціры — Беларусь, роднае слова… Яны шмат чыталі, слухалі радыё, усё ведалі, усё бачылі, усё разумелі, куды свет імкнецца. Не памыляліся ў палітыках. З імі не адчувалася розніцы ва ўзросце…

З усёй сям'і заходніх дзеячаў Іверсу пашэнціла пражыць поўнае жыццё, убачыць развіццё падзеяў у палітычнай перспектыве. Калі на тым, іншым, свеце хоць нейкая камунікацыя паміж душамі ёсць, то Іверс шмат чаго можа перадаць настаўніку Ігнату

Дзварчаніну, Гальяшу Леўчыку, сваім сябрам па вучобе і падполлі Валянціну Таўлаю, Піліпу Пестраку…

Вядома, заходнебеларускія таленавітыя творцы шмат паспелі зрабіць у беларускай культуры. Акрамя вершыка, які яны вучылі ў польскай школе: «Kto ty jesteś, polak mały…», да іх траплялі нейкім чынам добрыя польскія часопісы і кнігі Марыі Канапніцкай, Казімеры Ілаковіч, Ігнацыя Галчынскага, шмат каго… Нашы рабілі тое ж, што і ўся Еўропа, але па-свойму, таму што не мелі сілы адарвацца ад народнай песні, якая надта моцна залазіла за скуру з малаком маці. Таму беларускі постмадэрн быў квяцісты, прамяністы, цёплы, надта родны. Яны раздзялілі, як дзеці адной маці Беларусі, не згаворваючыся, сферы інтарэсаў, і былі ў гэтым беспадобныя. Максім Танк быў буйна-барвова-змагарскі, глыбокі, непрадказальны, як Нарач у непагоду. Валянцін Таўлай — больш філігранны, адшліфаваны, крыштальны, звонкі, як прыгожы фужэр з Бярозаўскага шклозавода… Наталля Арсеннева — містычная шаманка, варажбітка мастацкімі метафарамі, шаптуха чарадзейнымі замовамі, як мая цётка Броня… Ларыса Геніюш — жар-птушка будучыні, уся са святла, з глыбаў глыбіні, яна сваім моцным астральным цярпеннем была надзелена сілай святых, якім Бог дазваляў пераходзіць мяжу жыцця і смерці і вяртацца ў свет жывых, каго яна моцна любіла, а любіла яна ўсіх, каму імя Беларусь. Былі ж яшчэ Макар Краўцоў з палітычным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», яго пляменнік Міхась Васілёк, які больш вядомы як сатырык, але ж ствараў мастацкія вобразы на адным узроўні з Максімам Танкам, толькі не меў часу даводзіць верш

да дасканаласці, лірычны Хведар Ільяшэвіч, Алесь Салагуб, Міхась Машара, Піліп Пестрак, Ніна Тарас…

Анатоль Іверс з іх усіх вылучаўся сялянскай прастатой, як сам любіў казаць:

— Мае вершы чытаюцца лёгка.

Яго песні мелі кароткі радок, як градка для агурочкаў, яго вершы нагадваюць добра пракладзеную сцяжыну праз лес, якой ходзіць па баравікі ўся вёска, збірае іх проста пры сцяжыне. Хто на досвітку не палянуецца падняцца і прайсці па расе, той баравічкоў назбірае, усім сцяжына прыхавае, падзеліць свае скарбы, як добрая чарадзейка. У вершах Іверса ёсць усё — і добры настрой, і мастацкі вобраз, і філасофія, і глыбіня, і навізна… Гарадскія людзі не памятаюць, як дыхае лес, як шэпча авёс… У кнізе, якую Анатоль Іверс падараваў праз 12 гадоў пасля развітання з намі, усё гэта можна пачуць. Калі я атрымала кнігу ад укладальніка і рэдактара Сяргея Чыгрына, першае, што я разгарнула і праверыла, дзе знаходзіцца верш «Жураўлі». Ён змешчаны на старонцы 60, гэта мой любімы верш. Міхась Скобла, развітваючыся са мной пасля кароткага візіту ў Гародню, прачытаў верш «Прыляцелі снегіры»:

Я пайшоў бы ўслед за летам.
Але Край застаўся тут,
Дзе я ласкаю сагрэты,
Дзе лугі вясной цвітуць…

Я не змагла паразмаўляць з Ларысай Антонаўнай Геніюш, адчуваю, што яна не вельмі туліла да душы Анатоля Іверса таму, што ён не падтрымліваў уніяцтва як нацыянальную рэлігію беларусаў, не быў практыкуючы вернік, асмеліўся ж ён у гэтых

асцярожных успамінах пакінуць такое сведчанне сваёй маладосці:

— Мы заўсёды ўхіляліся ад наведвання царквы, а ў царкве — ад цалавання крыжа.

Вядома, да гэтай нелюбові прычынялася палітыка — з Віленскай беларускай гімназіі выганялі вучняў за тое, што яны не хацелі цалаваць крыжа. Але ўсе ведалі, што гэта толькі прычэпка.

Сёння я знайшла дараванне правінаў усім людзям, і такім, як Анатоль Іверс, вось яно: «Пан Бог мае сваіх прыяцеляў сярод тых, якія лічацца Яго непрыяцелямі, але і наадварот: мае непрыяцеляў сярод тых, пра якіх людзі думаюць, што яны Яго прыяцелі. Таму не трэба спяшацца даваць маральныя ацэнкі тым канкрэтным людзям, якія лічацца няверуючымі…»

Гэта словы святога Аўгустына… Ён не апраўдвае людзей, якія не верылі, але канстатуе той факт, што працэсы адвяргання Бога адбываліся на працягу цэлых пакаленняў, то некаторыя іх паслядоўнікі нават не маглі ўяўляць, да чаго гэта можа прывесці. Анатоль Іверс адчуў на трагедыі свайго жыцця і жыцця сваіх родных, што? адмаўляючы Бога, людзям лёгка знішчаць чалавека…

У канцы жыццёвай дарогі Анатоль Іверс сустрэўся з Богам. Праваслаўны святар падрыхтаваў яго да вечнасці і правёў на могілкі да тых бяроз, якія паэт так прыгожа апеў у вершы «Жураўлі». Якраз была позняя восень, навокал могілкаў «бярозы, як свечкі, дагаралі» агністай лістотай… Думаю, Бог даруе яму памылку маладосці, калі ён фармальна далучыўся да філасофіі камуністаў. Ваяваў з аднымі прышэльцамі, трапіў у цянёты другіх… Але ж ён сам ва ўсім разабраўся і ў сваіх успамінах растлумачыў, што

Слонімская антыфашысцкая арганізацыя была не камуністычнай, а народнай. Анатоль Іверс пражыў жыццё па людскіх спрадвечных законах беларускай вёскі…

Калі яны разам працавалі ў газеце «Вольная праца», і трэба было здаваць нумар, і заставалася пустое месца, у спешцы пачалі шукаць малюнак ці верш, тады Ніна Паўлаўна паклала на стол Івану наіўны вершык пра Слонім:

У вернай слонкі хатка з саломкі,
Чыста саломкай усцелены ўслонік…
Не паляцела ў Афрыку слонка, —
Чым жа ад холаду слонку заслонім…

Прачытаўшы гэты верш з адной страфы, Іван зразумеў, хто аўтар і з якім натхненнем ствараўся верш. Ён сказаў Ніне:

— Толькі любоўю… То давай забярэм верную слонку і будзем разам зімаваць у адным гняздзечку. Ты згаджаешся на такі подзвіг? — Ніна згадзілася…

*2012*

*Васіль БЫКАЎ*

## Доўгая дарога дадому

*Фрагмент*

…Драматычная гісторыя слонімскага паэта Анатоля Іверса. Застаўшыся на акупаванай тэрыторыі, ён змушаны быў па заданні з лесу пайсці працаваць у гарадскую ўправу, ягонага таварыша ўкаранілі нават у СД. Дапрацаваліся яны там да таго, што ледзь выратаваліся ад арышту. Іверс дык выскачыў у вакно, а сям'я была арыштавана, і жонка загінула. Пасля вызвалення нейкі час усё было добра, іхнюю гісторыю ў Слоніме ведалі, іх не чапалі. Але з цягам часу, калі партызанскія кіраўнікі, на якіх яны працавалі ў немцаў, памерлі або раз'ехаліся, абодвух «выкрылі». У Горадні быў суд, Іверсаў таварыш атрымаў 15 гадоў, сам Анатоль Іверс быў звольнены з працы, выключаны з Саюза пісьменнікаў і пятнаццаць гадоў прарабіў на смалакурні ў лясгасе.

*Алег ЛОЙКА*

## Чалавек у дарозе

Я ведаю гэтага чалавека даўно — з маленства. Памятаю яго малады, адкрыты твар з непаслухмянымі пасмамі русяных валасоў, якія спадалі на высакаватае чало. Памятаю паходку — з размераным, але размахлівым крокам, з крыху пададзеным наперад упартым плечуком. Паходку, відаць, больш, бо я заўсёды доўгім позіркам праводзіў добра знаёмую постаць — праводзіў позіркам хлапчука, які колькі разоў ужо ў слонімскім музеі ўчытваўся ў звонкае незвычайнае імя гэтага чалавека на невялічкай кніжачцы вершаў. Імя было — Анатоль Іверс. Кніжачка: «Песні на загонах».

Кніжачка выйшла ў 1939 годзе. Атрымліваў яе малады аўтар на пошце, калі ўжо над Варшавай гулі фашысцкія «месершміты», сплывала ў крыві ўланаў кракаўская зямля, слёзы адчаю закіпалі ў вачах абаронцаў Вестэрплятэ, — санацыйная Польшча канала. Але тым не менш і ў гэта імгненне за спіной маладога паэта аказаўся дэфензіваўскі шпік — нехта Шварц, які цікаваў, што атрымліваў па пошце малады чалавек, з той жа самай агіднай нахрапістасцю, як і ў доўгія гады дагэтуль.

Ён, шпік, ведаў сапраўднае імя чалавека — Івана, сына Дарафея Міско. Ды ён не ведаў, што Міско, ён жа — Анатоль Іверс, паэт. У мяне было наадварот: я, як і большасць слонімцаў, якія ненавідзелі шварцаў, ведаў, хто такі Анатоль Іверс, і толькі цераз гады мне

пашчасціла бліжэй пазнаць самога Івана Дарафеевіча Міско.

Пэўна, адным з маіх першых пытанняў да яго было пра псеўданім. Іван Дарафеевіч адказаў, што, калі ён выбіраў псеўданім, яму хацелася, каб у ім чуліся гукі, з якіх пачынаюцца словы «Інтэрнацыянал», «рабочы», «селянін». У апошнім лісце да мяне, дзе ён зноў жа адказвае на гэта пытанне, Іван Дарафеевіч удакладняе, што ён свой псеўданім канструяваў, начытаўшыся ўкраінскага часопіса «Вікна», што канкрэтна ўсіх асацыяцый, якія прадвызначалі выбар, гучанне псеўданіма, ён ужо не памятае, але дакладна памятае, што яго не задавальнялі распаўсюджаныя тады ў заходнебеларускім друку псеўданімы тыпу Васілёк, Чабор і іншыя.

І гэта зразумела, 1930-я гады ва ўмовах былой Заходняй Беларусі нараджалі новы тып рэвалюцыйнага інтэлігента і паэта. Ён, Анатоль Іверс, быў сынам заходнебеларускай сярмяжнай вёскі, якая ўжо прайшла школу Грамады.

Сын селяніна з вёскі Чамяры, што каля Слоніма, Іван Дарафеевіч Міско свой творчы шлях пачаў яшчэ ў канцы 1920-х гадоў у Віленскай беларускай гімназіі, дзе разам з Валянцінам Таўлаем выпускаў рукапісныя часопісы «Золак», «Пралескі». Тройчы выганялі паны юнака-камсамольца з гімназіі — з Віленскай, Клецкай, Навагрудскай. Тройчы аддавалі яго пад суд.

Ён пачаў друкавацца на старонках часопіса «Літаратурная старонка». Псеўданім, які абраў ён сабе, быў якраз у духу тых маладых рамантыкаў-інтэрнацыяналістаў, што неўзабаве сталі за інтэрнацыянальную справу рабочых і сялян у Іспаніі. Не прымаў таксама Іван Дарафеевіч псеўданімаў сельска-бела-

рускага гучання таму, што яны перапявалі псеўданімы так званага нашаніўскага часу, а Анатоль Іверс складваўся як паэт цалкам іншых ідэйна-стылёвых сімпатый. Паэтыка яго давераснёўскіх вершаў выразна паказвае, што іх аўтар знаёмы быў і з рамантычна-пафаснай беларускай савецкай паэзіяй 1920-х гадоў, і з украінскай савецкай паэзіяй таго часу, і з перадавой авангардысцкай польскай паэзіяй.

Мне падабаліся многія радкі з першай кнігі паэта. Па форме лірычныя, вершы А. Іверса давераснёўскага часу — часцей за ўсё імпрэсіі з рамантызаванымі, пераважна пейзажнымі, радзей — бытавымі дэталямі:

І хоць сёння ўсхвалёваны ранак
Паліць смагаю мяккую сінь,
Але ўсё ж сумаваць яшчэ рана,
Калі можна падняць парусы!..

Дваццаць шэсць вершаў было ў першай кніжцы Іверса. Большая палова з іх увайшла сёння ў выбранае. Усе яны — вельмі выразныя сваім палітычным крэда вершы-споведзі юнака, улюбёнага ў родны край, спакутаванага ў няволі, мэтанакіраванага.

«...У сялянскіх хатах хлеб як рэдкі госць, — пісаў паэт у сваім першым друкаваным вершы «Вясна». — У далях сіняватых лес шуміць чагосьці». І гэта была не простая канстатацыя з'яў, не сузіральніцтва: паэт раскрываў незадаволенасць шырокіх народных мас санацыйнымі парадкамі буржуазнай Польшчы, яго радкі прадвяшчалі буру, набліжалі яе.

Свае вобразы знаходзіў паэт і для выражэння нядолі: «вачыма калоссе» зрывае ў яго для галодных дзяцей у чаканні жніва мужык, і ён жа «ловіць

песенны той пераліў, што не знае былля і мяжы», ён жа верыць, што «прыйдуць трактары ў полымя ніў, туды, дзе некалі колас тужыў».

Малады паэт увесь час звяртаў увагу таго ж мужыка на ўсход, дзе:

І сярпом, і молатам
Шчасце звоніць весела,
Дзе ў краіне волатаў
Волі сцяг развесілі.

Лейтматывам давераснёўскай паэзіі А. Іверса была глыбокая вера:

Мне хочацца верыць
Ў агні, што мігцяць,
Што зменіцца шэры
Парадак жыцця…

Сам я, вядома, і ўбачыў першую кніжачку Анатоля Іверса, і прачытаў яе толькі пасля векапомнага 17 верасня 1939 года. А бліжэй пазнаў Івана Дарафеевіча яшчэ пазней. І ўсё ж доўга я ведаў гэтага чалавека. І — не ведаў!..

У час акупацыі Анатоль Іверс хадзіў па Слоніме. Бачыў я паэта разам з першай жонкай Верай. Бачыў поруч з маім настаўнікам беларускай літаратуры Леанідам Сенчыкам — бачыў і не бачыў.

З Калдычэва, замучаныя фашысцкімі катамі, не выйшлі жывымі жонка Івана Дарафеевіча і яго бацька, не выйшлі Леанід Сенчык і многія іншыя, што складалі ядро Слонімскага міжраённага антыфашысцкага падполля.

Гэта цяпер я ведаю, што 15 красавіка 1942 года па заданню антыфашысцкай арганізацыі і партызан

І.Д. Міско пайшоў на падпольную работу ў Слонім. Гэта з таго часу і да 25 ліпеня 1943 года ён узначальваў Слонімскую гарадскую падпольную арганізацыю, 25 лістапада, папярэджаныя партызанамі, ён, жонка, бацька ўцякалі ад фашыстаў. Акалічнасці паспрыялі не ўсім…

Стаўшы партызанам, Іван Дарафеевіч быў намеснікам камандзіра па разведцы атрада імя Дзяржынскага брыгады імя Ракасоўскага, уваходзіў у склад камітэта міжраённай антыфашысцкай арганізацыі, пасля быў прызначаны сакратаром гэтага камітэта. Не раз хадзіў на баявыя заданні. Дапамагаў выдаваць орган падпольнага райкама партыі «Вольная праца».

Не дзіва тады, што суровым драматызмам, нотамі высокага трагічнага гучання поўніцца шэраг ваенных і пасляваенных вершаў Анатоля Іверса. «Гляджу на лес» і «Партызанскія прасторы» — наймацнейшыя ў кнізе «З пройдзеных дарог» увогуле.

Заўжды ў маім збалелым сэрцы
Гарыць агонь падзей і дат, —

прызнаецца паэт у першым з іх, і не можаш не верыць гэтаму збалеламу сэрцу.

Вобразы соснаў раз-пораз узнікаюць у пасляваенных вершах А. Іверса не толькі сведкамі партызанскіх гадоў («Тры сасны», «Мосцік», «Перамога! Перамога!..»), не толькі таму, што паэт «родам… з гэтых лясных мясцін» («Лясная ідылія»). Доўгі час у пасляваенныя гады — з 1949 па 1965 — паэт працаваў майстрам смолзавода, тэхнаруком Слонімскага лесахімічнага завода. Праца забірала шмат сілы. Абставіны былі складаныя, і тым больш здзіўляешся

светлай упэўненасці, духоўнай нязломнасці вершаў паэта 1950-х гадоў — вядома ж, нешматлікіх («Валянціну Таўлаю», «Лісткі календара», «Спарышы»).

Памятаю вершы паэта першых пасляваенных гадоў, друкаваныя ў раённай газеце. Яны былі рытарычныя. Дзе дзеўся індывідуальны стыль, непаўторнае ў светабачанні? Але якраз у тыя першыя пасляваенныя гады я, дзесяцікласнік, упершыню і асмеліўся падысці да Івана Дарафеевіча з вершамі, вядома ж, вучнёўскімі і ў яшчэ большай ступені рытарычнымі. Ён мне на іх нічога не сказаў, ён стаў чытаць вершы з тады толькі што надрукаванай, першай і пасмяротнай кнігі Валянціна Таўлая. Маё захапленне лукішскімі вершамі Валянціна Таўлая — з таго познявосеньскага дня 1947 года. І не толькі захапленне Валянцінам Таўлаем, але і тая бясконцая павага, якая ўсё вяртае мяне думкай да Івана Дарафеевіча, да таго, як ён чытаў такое нерытарычнае, сур'ёзнае…

1960-я гады можна назваць часам новай актывізацыі паэта. У 1964 годзе напісана «Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько», і, па сутнасці, у гэты час напісана большасць лірычных вершаў, што склалі кнігу «З пройдзеных дарог». Прычым у гэтых вершах радуе ранішняя свежасць голасу паэта, арганічнае развіццё ў іх таго рамантычна-ўздымнага, стылёва своеасаблівага, што вылучала вершы А. Іверса 1930-х гадоў.

Вершы паэта 1960-х гадоў «Сасна», «Паэзія», «Блакітная хусцінка», «Ключык сіні», «Вера», «Малюся я» — хочацца перачытваць. І гэта не толькі ад маіх зямляцкіх пачуццяў: за імі мне бачыцца сам паэт, якім ён ёсць у жыцці, — скупаваты ў праяўленні сваіх пачуццяў, стойкі ў перакананнях, крышку замкнёны

ў сабе, заўсёды прамы, хоць часам і да просталінейнасці.

Яна ўсё з ім, неадступная вера паэта:

I я наперад рад ісці,
Бо ў будучыню верыцца.

З 1965 года І. Міско працуе ў рэдакцыі слонімскай раённай газеты «За перамогу камунізму». Ён кіруе літаб'яднаннем пры газеце, сам часта друкуецца ў ёй. Ужо не толькі давераснёўская кніга экспануецца сёння ў раённым музеі. І мне верыцца, што і сёння бегаюць па слонімскіх вуліцах хлапчукі, якія, як калісь я, доўга праводзяць вачыма гэтага пасівелага ўжо, ды па-маладому натхнёнага ў працы, у вершах, у сваіх задумах чалавека.

*1970*

*Аляксей ПЯТКЕВІЧ*

## Стойкасць паэтычнай натуры

Мы пазнаёміліся недзе ў сярэдзіне 1960-х гадоў. Толькі што мінула чорная паласа ў яго лёсе. Сямнаццаць гадоў таму назад паэта звольнілі з працы ў Слонімскім гарвыканкаме, іншай працы не далі, перасталі друкаваць. Яму давялося стаць смалакурам і доўга цягнуць лямку «спецыяліста» лесахімічнай вытворчасці. У 1966 годзе нарэшце рэабілітавалі, ён зноў стаў Анатолем Іверсам і нават быў прыняты на творчую пасаду — у Слонімскую раённую газету. Тады мы спаткаліся. Я якраз рыхтаваў аглядны матэрыял для краязнаўчага зборніка пра літаратурнае жыццё Гродзеншчыны (выйшаў у 1968 годзе пад назваю «Наднёманскія былі»). Прачытаў яго адзіную на той час кніжку «Песні на загонах» (1939). І быў прыемна ўражаны пэўнай нетрадыцыйнасцю яе паэтыкі. Аўтар, былы навучэнец заходнебеларускіх гімназій, з якіх паслядоўна выключаўся за рэвалюцыйную прапаганду, чамусьці ўнікаў у творах прывычнай сацыяльнай рыторыкі. Дамінавалі ў зборніку жыццелюбівыя настроі, выказаныя маляўнічай метафарычнай мовай. Перада мной жа быў нейкі зусім іншы, не адпаведны такім вершам чалавек. Па-сялянску мажны, нават цяжкаваты фігураю, павольны і ў рухах, і ў гаворцы і, здавалася, прыгнечаны жыццём. Прынамсі, выглядаў пахмурным, замкнутым. Я тады не ведаў яго нядаўняй гісторыі і крыху бянтэжыўся ад гэтай правінцыйнай, як думалася, непрыступнасці, стараўся яго разгава-

рыць. Іван Дарафеевіч не вельмі пускаў у свой свет, казаў: «Пра гэта іншым разам», скупа адказваў на мае розныя пытанні. Але яму вельмі патрэбны былі тады творчыя кантакты, новыя суразмоўцы, і калі прыязджаў у Гродна, нярэдка заходзіў да мяне на кватэру, тады па завулку Даватара, 10. Мы падоўгу, бывала, сядзелі за сталом , але рассакрэціць паэта я не мог. Ён захоўваў традыцыйную сялянска-беларускую асцярожнасць, замацаваную савецкай сістэмай. І гэта ўжо была частка жыцця.

Зрэшты, Анатоль Іверс заставаўся, па сутнасці, яшчэ па-за літаратурай. Помню, як крыху раней, у 1965 годзе ладзіўся ў Гродне вялікі, на некалькі дзён, абласны семінар літаратурнай моладзі. Для ўдзелу ў ім прыехала з Мінска вялікая група пісьменнікаў. Пасля пачатковых парадна-аглядных дакладаў і выступленняў маладыя разбіліся на секцыі. Я заходзіў то ў адну, то ў другую. У той, дзе кіравалі Рыгор Бярозкін і Нічыпар Пашкевіч, сядзеў Анатоль Іверс. Сядзеў у глыбіні аўдыторыі, як і іншыя, і мусіць таксама пачуваўся трохі пачаткоўцам. Маладыя паэты па чарзе чыталі свае вершы, выслухоўвалі заўвагі кіраўнікоў секцыі. Часам узнікалі спрэчкі, і даволі бурныя: аўтары не пагаджаліся з заўвагамі. Калі дайшла чарга да Іверса, ён падняўся за сталом і прачытаў свой верш «Тры сасны». Верш прынялі ўхвальна. І ўсё. Ніякай гаворкі пра аўтара і яго творчасць не ўзнікла. Хоць пра іншых, пра іх мастацкія пошукі і перспектывы гаварылася часам многа. Можа, Р. Бярозкін з Н. Пашкевічам і не ведалі тады пра такога паэта, як Анатоль Іверс? Хаця наўрад. Хутчэй за ўсё не хацелі яго «раскручваць»: давялося б гаварыць пра рэчы,

якія выходзяць за рамкі літаратуры. Іван Дарафеевіч, здаецца, прымаў як непазбежнае такое становішча.

У другой палове 1960-х гадоў стаў ён шмат пісаць і нарэшце ў 1970 годзе выдаў першую ў савецкі час кнігу вершаў «З пройдзеных дарог». Хацелася яго ўсяляк падтрымаць, і я запрасіў аўтара на сустрэчу са студэнтамі філалагічнага факультэта. Гэта было ў лістападзе, неўзабаве пасля выхаду зборніка. Слухачоў у аўдыторыі сабралася шмат, і немалады ўжо паэт прыкметна хваляваўся, нават выглядаў разгубленым: даўно не выступаў перад такой публікай. Але ўсё прайшло добра. І хаця на пытанні студэнтаў адказваў даволі лаканічна, не паглыбляючыся ў развагі, затое вершы чытаў наўздзіў пранікнёна, як для яго стрымана-засяроджанай натуры. Асабліва пад завяршэнне сустрэчы, калі вочы Івана Дарафеевіча нарэшце заблішчалі нейкім унутраным святлом і голас набыў эмацыянальную сілу. Ну вось, думалася, паэт ёсць паэт.

На кніжку вершаў «З пройдзеных дарог» я надрукаваў рэцэнзіі — спачатку ў «Гродненской правде», затым у «Звяздзе». Іван Дарафеевіч падзякаваў двойчы. Не прамаўчаў, як гэта не раз бывала з тымі, пра каго даводзілася адгукацца ў друку. Прычым кранала ў яго словах не красамоўная стылістыка, якой ён увогуле пазбягаў і, відаць, не любіў у гаворцы, як не любіць звычайны беларускі чалавек-працаўнік усякай патэтыкі і штучнай квяцістасці. Іван Дарафеевіч пачуцці ўкладваў у інтанацыю, танальнасць выказвання. Шчырасць і непасрэднасць выяўляліся зусім натуральна і выклікалі давер. У Слоніме, дзе Анатоль Іверс жыў у паваенны час, мы сустракаліся двойчы. Асабліва запомнілася яго 75-годдзе. З Гро-

дна я прыехаў з Данутай Бічэль. З Мінска былі Алег Лойка і Мікола Арочка. Былі мясцовыя літаратары. Гаварылі пра паэта грунтоўна, знаходзячы самыя розныя ракурсы бачання яго мастацкай постаці. Анатоль Іверс выглядаў строгім і спакойным: знаў ужо добра сабе цану. Разам з тым пачуццё сардэчнай прыязнасці, прыроднай дабраты ў адносінах да блізкіх людзей, калег па пяры не хаваў, не цураўся цёплага сяброўскага слова. Хаця стрыманасць і нешматслоўнасць заставаліся яго арганічнай якасцю. Побач з ім было прыемна знаходзіцца: ад яго зыходзіла нейкая энергетыка жыццёвай устойлівасці і трываласці. «Жыву ў бацькоўскім краі» — так назваў ён сваю кнігу паэзіі, выдадзеную ў 1982 годзе. І гэтая назва — характэрны вобраз яго свету, які не кожнаму з літаратараў мог падысці. Анатоль Іверс цвёрда стаяў нагамі на сваёй зямлі. Так напэўна, як і тутэйшы селянін, які араў поле.

*2012*

*Уладзімір КАЛЕСНІК*

## Анатоль Іверс

З выгляду Анатоль Іверс — такі сабе дабрадушны, крыху марудлівы чалавек, і па натуры ён добры, зычлівы, толькі нечакана гаваркі. На кожнага з нас находзяць хвіліны, калі так хочацца бяспечна і замілавана сузіраць свет, любавацца харастовом прыроды ды натуральна прыхарошваць бачанне словамі ці нават воклічамі. Паэтаў часта лічаць такімі смакунамі жыцця, якім карціць пераступаць маральныя забароны, каб недзе і за межамі цнатлівага зрываць яшчэ не вядомыя свету кветкі хараства. Для Іверса падобных праблем не існавала. Простая і цвёрдая сумленнасць з малых гадоў уладарыць над яго жаданнямі. Праяўляецца ж, аднак, гэта не назоліста. Патрабавальны да сябе, ён бывае паблажлівым да іншых, таму мае шмат сяброў і добрых знаёмых. Бывалі ў яго моманты, калі чалавек зацята трываў на пазіцыях маральнага імператыву. Як ні спакушалі акалічнасці стаць гібкім, ён па-сялянску ўпарціўся, асабліва пасля вайны стойка вытрымліваў службовую «гайданку» ад пасады сакратара райвыканкама да смалакура, каб урэшце вярнуцца да прафесіі журналіста, якою займаўся здаўна і найахвотней.

Калі б рос гэты чалавек у нармальных умовах або, скажам прасцей, у сённяшнім нашым свеце, дык мог бы выйсці з яго насамперш цудоўны педагог і адначасова добры паэт, які пісаў бы для юнакоў і дзяцей. Але Іверсу давялося пражыць дзяцінства, юнацтва

і ўсю маладосць у свеце, які ўціскаў і боем выбіваў сардэчную цеплыню з грудзей.

Нарадзіўся Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) 15 мая 1912 года ў небагатай сялянскай сям'і ў вёсцы Чамяры на Слонімшчыне. Першая сусветная вайна выгнала вяскоўцаў у бежанства, у глыб Расіі. Бацька покуль знайшоў ужытак сваёй дадатковай прафесіі раманцёра на чыгунцы, дык не мог нават пракарміць сям'ю. На чужыне памерлі дзед і баба, а потым брат і сястра будучага паэта. Другая сястра пакінула свет ужо на радзіме, не дачакаўшыся першага пасля вяртання хлеба з роднага загона.

Вярнуліся, хто застаўся жывы, у 1918 годзе, бацьку землякі выбралі пазней у валасны Савет, дзяліў ён панскія маёнткі, а калі ў 1920 годзе прыйшлі белапалякі, хаваўся ад жандараў па лясах, покуль не скончыўся стан вайны і не мінула смяротная пагроза. Галеча, тулянне і трывога за бацьку — усё гэта дало адчуць пагрозу са знешняга свету і стала першым грамадскім адчуваннем хлапчука. Замацоўваліся гэтыя ўражанні ў школе, дзе настаўнік прымушаў вучняў перавучвацца з рускай пісьменнасці на польскую і зубрыць радкі «Катэхізісу польскага дзіцяці», складзенага Уладыславам Бэлзам:

Kto ty jesteś? — Polak mały.
Jaki znak twój? — Orzeł biały.

Яшчэ да рэвалюцыі Янка Купала перафразіраваў на беларускі лад гэтыя запаветы, якімі польскія фанатыкі любілі частаваць беларускіх дзетак. Вось Купалава перафраза «Катэхізісу»:

Хто ты гэткі? — Свой, тутэйшы.
Чаго хочаш? — Долі лепшай.

Але вучням з Чамяроўскай «сяміклясоўкі» не было каму падказаць гэтага заменніка: беларуская літаратура не ўваходзіла ў праграму. На патрабаванні настаўніка чытаць польскі катэхізіс вучні-беларусы адказвалі ўпартым маўчаннем. Пошукі адказу на пытанне «Хто ты гэткі?» прывялі Івана Міско ў групу з васьмі вучняў, якіх летам 1926 года гімназіст-старшакласнік Казімір Чартовіч узяўся падрыхтаваць да паступлення ў Віленскую беларускую гімназію.

Там Іван Міско далучыўся да вызваленчага руху моладзі, пасябраваў з Валянцінам Таўлаем, разам выдавалі яны на шапірографе вучнёўскія часопісы «Золак» і «Пралескі», разам удзельнічалі ў вучнёўскай дэманстрацыі пратэсту супраць тактыкі ўлад выцясняць беларускую мову з вучэбнага працэсу. Інцыдэнт скончыўся выключэннем завадатараў з гімназіі. Паступаў потым Іван Міско ў Клецкую і Навагрудскую беларускія гімназіі, але зноў яго выключалі. У 1930 годзе давялося спыніць вучобу, не дабіўшыся атэстата сталасці. Асеў Іван на бацькавым прылясным хутары, доля ўпрагла яго ў мужыцкае ярмо якраз тады, калі эканамічны крызіс пазбавіў шанаваную хлебаробскую прафесію прэстыжу і сэнсу. «Я век прыкаваны да хаты нядоляю нашай, як раб» — так пачынаў Іверс адзін са сваіх вершаў 1930-х гадоў. Верш быў прадыктаваны болем, але аўтар не ўпаў у роспач. Вёска Чамяры, як і суседнія Мяльканавічы, Юхнавічы і больш далёкая Кракотка, значылася ў паліцэйскіх рэестрах як вогнішча камуністычных настрояў. Там устанавіўся суровы дух байкоту не толькі паліцэйскіх, але і ўсіх прыхільнікаў санацыі. З гэтымі асобамі ніхто не размаўляў, не адказваў на іх пытанні. Парушальнікі правіл самі

станавіліся аб’ектам байкоту, выключаліся з грамадскага і таварыскага жыцця вяскоўцаў. Напярэдадні рэвалюцыйных свят у вёсцы праходзілі арышты актыву (для прафілактыкі), а пасля свят — за ўдзел у масоўках, за вывешванне сцягоў, раскідванне лістовак, за спевы і дэкламацыю антыўрадавых твораў. Тройчы арыштоўваўся і Іван Міско, атрымліваў, як на тыя часы, невялікія тэрміны ад двух да шасці месяцаў турмы. Паліцыя і суд не ведалі пра асноўны яго занятак — мастацкую творчасць. Выратоўваў нетыповы для тагачасных масавых паэтаў псеўданім Анатоль Іверс.

Адукацыя, якую атрымаў паэт у гімназіі, ды і пазнейшая самаадукацыя, знаёмства з класікай і сучаснаю паэзіяй — польскай, савецкай, дазволіла Іверсу выпрацаваць і стыль, які адцінаўся ад фальклорнай прастаты і наіўнай ідэалізацыі. Паэт шукаў складаных вобразаў, незвычайных метафар. Нярэдка там перафразіраваліся Купалавы і Танкавы тропы, але, бывала, удаваліся і свае. Вобразны шыфр у вершах Іверса быў больш складаны, чым у масавай паэзіі. Гэта дазваляла яму друкавацца не толькі ў левых перыядычных выданнях — «Літаратурнай старонцы», «Асве», «Нашай волі», але і ў «Калоссі».

З двух апублікаваных у сатырычнай «Асве» вершаў — «За варштатам» і «Там, дзе вёскі з пахілымі хатамі» ніводзін не быў сапраўды творам сатырычна-камедыйнага плана. Першы ўяўляў сабой праграмную дэкларацыю маладога рабочага, блізкую да вядомай рэвалюцыйнай песні «Мы кавалі». Асноўны яго дэвіз: «Я працоўны, дык працоўную кую долю, кую лёс». Другі верш быў голасам пратэсту супраць інтэрвенцыі японскага імперыялізму ў Маньчжурыі.

З пункту гледжання прафесійна-эстэтычнага яны даводзяць, што гумар і сатыра — не Іверсава амплуа.

Роўна праз два гады паэт апублікаваў два вершы ў «Нашай волі», газеце, якая ў адрозненне ад «Асвы» не была сатырычнай і не прымушала аўтара выступаць у ролі сатырыка. Вершы атрымаліся публіцыстычна-заклікоўвыя, ёсць там радкі, звернутыя да ўласнай песні, якія выдаюць у Іверсу чыстага лірыка, якому даводзілася займацца вершаванай публіцыстыкай:

Ты хоць сягоння складзена —
Заўсёды ж у душы
Імкнеш праз перакладзіны
У зорыстую шыр.
У кузні звоніш молатам,
Гартуеш сталь і люд…
І сыпле сонца золатам
На шэрую зямлю.

Выразна выступаюць у вершах Іверса дзве крыніцы лірычнага пачуцця: гэта свет прыроды і жыццё радзімы. Іверс аказаўся лірыкам кароткага дыхання, тая настраёвасць, якая прасілася перайсці з грудзей у верш, патрабавала не многа слоў. Найчасцей творчая разрадка займала два чатырохрадкоўі. Астатнія строфы толькі акампаніравалі, нярэдка паслаблялі пры гэтым кампазіцыю як неабавязковыя прыбудоўкі. Усё гэта сведчыла пра пэўную спантаннасць творчага акта, зместам якога быў перадусім настрой, уражанне. Імпрэсіўнасць не дазваляла вершам Іверса ўбіраць знешнія падзеі, канфлікты, разрастацца за кошт сюжэтна-эпічных кампанентаў.

Па лірычных маналогах паэта нельга прачытаць знешняй грамадзянскай біяграфіі аўтара, а тым

больш знайсці там хроніку вызваленчай барацьбы ў родным краі. Усё гэта прысутнічае ў творах Іверса лірычна пераўтвораным, знятым:

Серабрыстая нітка —
Павуцінне плыве.
Нехта прозалаць выткаў
Па зялёнай канве.
Гэта верасень сёння
Пахадзіў па лістах.
Пераскочыў сасоннік,
Нібы кнігу лістаў.

Ёсць у гэтым вершы «Верасень» яшчэ тры страфы пра дубы, і лася, і зубра з Белавежы, якім лірычны герой абяцае падкінуць сена лютай зімой, ды ўсё гэта ўжо іншая, знешняя тэма. Падобныя кампазіцыйныя пралікі паўтараюцца і ў вершах ваенных гадоў, і ў сучасных, ужо найбольш спелых і спраўных. Каштоўнымі і закончанымі засталіся ў Іверса творы кароценькія, васьмі- і дванаццацірадковыя: «Гляджу на лес», «Я шукаў яшчэ вясною», «Лісткі календара», «Блакітная хусцінка». Іх не шмат набіраецца. Больш такіх, дзе з шырокай матэрыі вылушчваецца, як арэх, васьмі- або дванаццацірадковае ядро:

Ля дарожкі, дзе імгліцца
Маладосці далячынь,
Адчуваю, як ігліца
Села ціха на плячы.
Удыхаю водар смольны,
Пах ядлоўцавых кустоў.
Ў сэрцы просіцца няўмольна
Рэха дзён трывожных зноў...
Мокнуць ногі ў росных травах.

Мне здаецца: вунь будан!..
Я ў тваёй цішы, застава,
Зноў стаю, бы партызан.

Анатоль Іверс прайшоў усе этапы народнага антыфашысцкага руху на Слонімшчыне: ад падпольшчыка да партызана. Ён стварыў і ўзначальваў Слонімскую антыфашысцкую групу, цераз Феакціста Міско, вопытнага падпольшчыка, які прайшоў школу канспірацыі ў польскіх турмах, Іверс трымаў сувязь з партызанамі. Праз паўтара года небяспечнай разведвальнай работы ворагі ўсё ж напалі на след падполля. Былі арыштаваны і знішчаны ў Калдычэўскім лагеры смерці бацька паэта Дарафей, жонка Вера і некалькі сяброў па змаганню. У баі з фашыстамі загінуў і яго адзіны брат Міця. Збег акалічнасцей дапамог Анатолю Іверсу ўнікнуць смерці. Вызваленне сустрэў ён старшынёй Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта, выдаўцом газеты «Барацьба» — органа гэтай антыфашысцкай арганізацыі, кіраўніцтва якой базіравалася ў брыгадзе імя Ракасоўскага.

Партызанская біяграфія Іверса надта падобная на біяграфію Міколы Засіма, але таленты ў іх аказаліся рознага профілю. Іверс не стаў летапісцам усенароднай барацьбы ў родных мясцінах. Найважнейшым яго творчым здабыткам аказалася пасляваенная лірыка, дзе, як птушка фенікс з попелу, адраджаецца спапялёная трагедыйным болем душа мастака, пачуваючы абавязак сцвердзіць наперакор усяму хараству свету, права чалавека на бяспеку, справядлівасць, дабро, права любавацца зямлёй і небам. У незгасальнасці сонца і зорак чэрпаць патолю і надзею.

Гаючы бальзам для душы, агорнутай болем трагічных успамінаў, нагадваюць пейзажныя вершы паэта, створаныя пасля вайны. Шаноўны ўзрост усё часцей вяртае думкі ў рамантыку маладосці, наказвае захоўваць ад забыцця імёны і падзеі, годныя памяці. Цікавасць уяўляюць успаміны Іверса пра Гальяша Леўчыка, пра сустрэчу з Янкам Купалам, які ў 1940 годзе пабываў у заходніх абласцях рэспублікі, адкрываў аддзяленне Саюза пісьменнікаў у Беластоку, выступаў на літаратурных вечарах у Лідзе і асабіста знаёміўся з мясцовымі паэтамі. Значэнне мастацкіх дакументаў маюць паэмы Іверса пра таварышаў камсамольскага падполля — Уладзіміра Бялько, Івана Дабрыяна, вершы пра Валянціна Таўлая і пра адроджаны Слонім, пра мір і будучыню свету.

Анатоль Іверс — самы значны, пасля Таўлая, паэт з ліку тых, каго вылучыла рэвалюцыйная Слонімшчына ў даваенны час. Усё яго жыццё прайшло ў гэтым краі. Калі апынаешся ў старажытным горадзе над Шчарай або згадаеш пра яго, заўсёды прыемна адчуць, што тут жыве і працуе паэт-ветэран, які дастойна пранёс праз нягоды і ліхалецці годнасць пясняра і чалавечую.

*1982*

*Іван СЯРГЕЙЧЫК*

## Горка-салодкі палын

Не забудзецца ніколі той кастрычніцкі ранак, калі я ўпершыню ўбачыў рэчку Валобрынку і рэшткі старога здзічэлага саду, у якім гаспадарылі рэдкі маліннік, высачэзны крапіўнік і палын. На месцы былога чалавечага жытла крапіўнік і палын кусціліся асабліва багата. Маліннік счарнеў, ужо прыхоплены восеньскімі туманамі і першымі замаразкамі, а палын красаваўся насупор прадзімку, стаяў ганарліва і нават пад шэранем, што асляпляльна блішчэў на ўзыходзе сонца. За садком змяілася рачулка, паміж ёю і чыгункаю туліўся гаёвы рэдкалесак, а злева ў адзіноце стаялі дзве сялянскія хаціны, разлучаныя бугорыстым полем. З каміноў тых хат падавалі прыкмету жыцця віхурыстыя дымкі.

«Значыць, не памыліўся» — падумалася, але пачуцця задаволенасці не адчуў.

Так, гэта быў хутар Дарафея Міско — бацькаўшчына вядомага паэта-земляка Івана Дарафеевіча Міско (Анатоля Іверса).

Бацькаўшчына! Якое прыгожае і магутнае слова! Сёння, калі рушылася «сацыялістычная імперыя», калі народамі і народнасцямі авалодалі трывога і неспакой, гэтае слова набывае асаблівы сэнс у чалавечым жыцці…

«Ах, Ваня, каб ты ведаў, якая там прыгажосць!.. Хадок слабы з мяне, але трэба нам трапіць неяк на наш хутар…» — нагадаліся словы Івана Дарафеевіча. І я адчуў, што ногі мае цяжэюць, нібы прырастаюць

да зямлі, якая ляжала зялёным дыванам пасярод адзінокага, старэнькага і абяздоленага саду.

Доўгі час я не мог зварухнуцца з месца. Душу маю напаўняла жальба, смутак і трывога.

Жалобу тую не магу зразумець і сёння, успамінаючы ўсё. Можа, я сапраўды баяўся парушыць спакой травою парослых сцяжынак чалавечых лёсаў?.. Гэта яны, нябачныя і маўклівыя сведкі, захоўваюць трагедыю сялянскай сям'і з хутара Чамяры.

З таго падворка ў 1935 годзе маці паэта зрабіла свае апошнія крокі і загінула пад коламі панскага аўтамабіля на шашы Зэльва–Слонім… На гэты хутар не вярнуўся брат — партызан Дзмітрый… Гэтая травіца з 1944 года хавае пакінутыя на зямлі сляды бацькі і жонкі Веры… Іван Дарафеевіч і сёння вінаваціць сябе за тое, што не абараніў дарагіх людзей.

Як палёгку шукаў я віну —
Не знайшоў і слядоў на гасцінцы.
Вось ідзе… Не яна… Праміну.
Аглянуся — у той жа хусцінцы, —

гэтымі радкамі верша выліўся з душы паэта непагасны жаль.

Мне б Івана Дарафеевіча задор і аптымізм! Бо ніколі не бачыў у ягоных вачах нервовасці і крыўды на свой лёс. Не чуў яе і з вуснаў. А словы «…жыццё маё — звычайнае» я зразумеў, чытаючы ягоны жыццёвы багаж, набытак, скарб — меладычныя, лірычныя вершы. Нават не вершы, а песні. «Песні на загонах» ягонага жыцця.

На долю паэта Анатоля Іверса выпала і хапіла ўсяго. З 30 гадоў і да сённяшняга дня ён жыве ў змаганні. Пачынаў барацьбу з польскімі панамі за

свабоду і незалежнасць свайго краю, за тое, каб звацца беларусам і размаўляць на матчынай мове. Паны не любілі вальнадумцаў і змагароў. Не любілі такіх і фашысты, знішчалі іх яшчэ больш бязлітасна, чым польскія паны. Паэт акунуўся ў падпольную работу, партызаніў — ваяваў за незалежнасць і свабоду бацькоўскага краю. Вызваленне, перамога над фашызмам прынеслі доўгачаканую свабоду і радасць. Але яна была нядоўгай.

Сістэма, за якую ён аддаваў сябе ў барацьбе з ворагам, павярнулася да яго з недаверам. Трэба было даказваць, што ты не «лысы», хаця доказаў, што ты «лысы», у яе не было. Атрымлівалася нешта незразумелае, дзікае ў адносінах як да асобнага чалавека, так і да цэлага народа. Палякі хацелі апалячыць беларусаў, немцы — анямечыць, а «сацыялісты» імкнуліся зрабіць іх рускімі. Навязвалася іншамоўе, а тых, хто прагнуў адрадзіць роднае, пачалі называць «нацыяналістамі»… Насланнё нейкае на беларусаў! Не даюць апамятацца, якая б з улад ні існавала. Самае што ні на ёсць прыгнечанне, навязванне сваёй волі. Былі, дзякуй Богу, і ёсць на Белай Русі людзі, як Іван Дарафеевіч Міско. Людзі, якія ўсё жыццё сваё правялі ў змаганні.

Колькі дзён таму я пабываў на хутары ў Чамярах ізноў. Працаваў на сваім дачным участку. Скончылася вада, жонка паслала мяне да крынічкі. Больш за гадзіну блукаў, а вады так і не прынёс. Трапіў на хутар…

На падворку былога хутара ўжо ўзнялася травіца як мае быць. Старыя яблыні не пазнаць. Яны нібы павесялелі, памаладзелі. Цягнуцца да майскага сонца невялічкія яшчэ лісточкі, рыхтуюцца ўпрыгожыць мясціну новым квеценем. Не знікла і палын-трава.

Купіцца моцнымі пабегамі, як прыкмета горка-салодкага чалавечага жыцця. Відаць, яно і сапраўды павінна быць горка-салодкім. Бо, не спазнаўшы смаку горычы, чалавек не навучыцца цаніць і салодкае.

Дык няхай квітнее хутарскі садок! Няхай абеліць квецень былую сядзібу, радуе вока людзей і гаспадара-юбіляра. Яму, нашаму шаноўнаму спадару Івану Дарафеевічу Міско, у час майскага квеценю 1992 года спаўняецца 80 гадоў. Шчыра віншую юбіляра! Мір і шчасце дому ягонаму, а вершам-песням — вечна звінець на загонах жыцця!

*1992*

## «З гонарам кажу, што я — беларус»

*Гутарка Сяргея Чыгрына з Анатолем Іверсам, чэрвень 1992 года*

Старэйшым беларускім паэтам Анатолем Іверсам (Іванам Дарафеевічам Міско) за жыццё было пражыта ўсяго шмат, але як там ні было, паэт і чалавек Анатоль Іверс ніколі не развітваўся з роднай беларускай мовай. Ці не дзякуючы ёй давялося выжыць і дачакацца, калі Беларусь стане на шлях незалежнасці. Таму сёння ён смела можа выказацца, сказаць сваё слова. У першую чаргу пра беларускую мову ў сваім жыцці.

— *Іван Дарафеевіч, Вамі пражыта доўгае і нялёгкае жыццё. Але ніколі і ні пры якіх абставінах Вы не цураліся сваёй роднай мовы. Ці не так?*

— Аднойчы ў 1922 годзе бацька, прыехаўшы са Слоніма, паклаў на стол кніжку пад загалоўкам «Гусляр». Нягледзячы на лацінскія літары, там усё напісана было на беларускай мове. З той пары я, дзесяцігадовы хлопчык, стаў беларусам. Нарэшце я здабыў сваё нацыянальнае імя! Вучоба ў Віленскай беларускай гімназіі, сустрэча з такімі выдатнымі педагогамі, як Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Сяргей Паўловіч, яшчэ больш пашырылі мой кругагляд у справе беларушчыны. Нават у польскім падручніку па гісторыі Польшчы было напісана, што кароль Ягайла сваю каранацыйную прамову казаў па-беларуску…

Моладзь у той час гарнулася да навукі, да культурна-асветнай працы. Таму і ў нашай вёсцы на сродкі

сялян была адкрыта бібліятэка-чытальня імя Якуба Коласа, пабудаваны Народны дом. Юнакі і дзяўчаты ладзілі беларускія вечарыны-спектаклі. Мы, выгнанцы з беларускіх гімназій, не былі апошнімі ў гэтай справе. Але нашу самадзейную і самаахвярную працу на культурна-асветнай ніве спынілі панскія служкі. Яны закрылі Народны дом, бібліятэку-чытальню, забаранілі ставіць беларускія спектаклі. Словам, глушылася ўсё беларускае, нават слонімскія друкарні не хацелі, ці мо баяліся, надрукаваць афішу на беларускай мове.

Нельга забыць, як у 1937 годзе пасля спектакля на вясковай сцэне, дзе я дэкламаваў верш Янкі Купалы «Ворагам Беларушчыны», мяне паклікалі ў дэфензіву. Шпікі катавалі і прыгаворвалі: «Ото тобе, хаме, гімназ’юм бялорускe і «беларуская мова!». Як мне тады абрыдла чужая польская мова, хоць ведаў, што мова тут ні пры чым.

Прайшло з таго часу шмат гадоў. Адзін раз давялося пабыць у Польшчы, у Плоцку, дзе я служыў некалі ў кавалерыі. Як ветліва сустракалі мяне жыхары гэтага горада! Здаецца, так і слухаў бы іх, здаўна знаёмую польскую мову, на гэты раз пяшчотныя словы.

Напрошваецца вывад, што кожны народ на сваёй тэрыторыі павінен размаўляць на роднай мове. І гэта стварае своеасаблівае прыемнае ўражанне.

— *Пры панскай Польшчы тых, хто размаўляў па-беларуску, лічылі камуністамі, бальшавікамі, пры савецкай уладзе — нацыяналістамі. Калі ж было адраджаць сваю мову?*

— У захопніцкай палітыцы такія жахлівыя абсурды, якія павінны былі б самі сябе з’есці. Але ж — народ церпіць увесь час. І сапраўды, пры панскай

Польшчы, хто размаўляў па-беларуску, лічылі бальшавіком. Пры савецкай уладзе, наадварот, таго, хто размаўляў па-беларуску, лічылі нацыяналістам. Так званыя «камуністы» пакутавалі ў панскіх турмах і канцлагерах Бяроза-Картузская, а так званыя «нацыяналісты», яны ж яшчэ былі і «ворагі народа», зведалі шматлікія лагеры савецкай поўначы, ляглі касцямі ў Курапатах і іншых месцах.

Вось такімі шляхамі ішло адраджэнне беларускай мовы, і цяпер, калі рэспубліка стала незалежнай дзяржавай, развіццё роднай мовы ўперлася ў варожую сцяну рускамоўных партакратаў і ўрадавых бюракратаў. І ўсё ж з непахіснай надзеяй, як заўсёды, магу паўтарыць словы са свайго верша, прысвечанага Скарыне, які знаў: «з-за хмараў алавяных праб’ецца сонца да зямлі».

— *У адным з Вашых вершаў прачытаў і такія радкі: «Я не паляк і не расеец, даволі жыць, як набяжыць!». Што Вы мелі на ўвазе?*

— Беларусь знаходзіцца паміж магутных дзяржаў — Расіяй і Польшчай. Гэта павінна было б спрыяць развіццю нармальнага жыцця нашага народа. Не будзем прыгадваць, колькі на нашай тэрыторыі праходзіла захопніцкіх войнаў. Усход і Захад спаборнічалі паміж сабой, хто перацягне на свой бок найбольш беларусаў і зробіць іх палякамі або расейцамі. І пры пасіўных паводзінах карэннага народа гэта ім удавалася сяды-тады. І таму ў адным з маіх вершаў з’явіліся і такія радкі: «Я не паляк і не расеец, даволі жыць, як набяжыць!».

— *Іван Дарафеевіч, не ведаю, як было ў Заходняй Беларусі да верасня 1939 года, але зараз у Беларусі многія беларусы-каталікі лічаць сябе палякамі…*

— Як вядома, Заходняя Беларусь амаль дваццаць гадоў знаходзілася пад акупацыяй панскай Польшчы. Цяжка жылося тады працоўным, асабліва сялянам, спрадвечным ахоўнікам беларускай мовы і культуры. Каб лягчэй было эксплуатаваць і апалячваць насельніцтва, улады закрылі ўсе беларускія школы, праследавалі прагрэсіўных беларускіх дзеячаў. І ўсё ж гэта не давала належнага эфекту. Тады акупацыйнаму ўраду дапамагалі каталіцкі касцёл і праваслаўная царква, пэўна, яны аб гэтым дамовіліся. Вось прыклады. Жэняцца маладыя, нараджаюцца дзеці — усё трэба было афармляць праз рэлігійных чыноўнікаў, бо гэтага патрабаваў закон. І вось едзе маладая пара да праваслаўнага папа, каб абвянчаў. А ён патрабуе 25 злотых, што раўнялася больш чым 12 пудам збожжа. Грошай няма, і маладыя едуць вянчацца ў касцёл. А там вянчаюць бясплатна, толькі запісваюць католікамі. А раз ты католік, то, значыць, і паляк. У сапраўднасці рэлігія ніколі не атаясамлівалася з нацыянальнасцю. Напрыклад, французы таксама католікі, але не палякі.

Яшчэ хачу прыгадаць такі выпадак пра апалячванне. Вайсковыя зборы ў другой палове 1930-х гадоў я праходзіў у 27-м палку уланаў, што знаходзіўся ў Баранавічах. На зборы паклікалі пераважна беларусаў. Аднойчы вечарам праводзіў заняткі з кавалерыстамі ксёндз у званні маёра. Гэта была не рэлігійная, а палітычная прапаганда. Маёр тлумачыў, даказваў рэзервістам, што мы не беларусы, а праваслаўныя палякі, значыць, не ўсіх перацягнулі ў каталіцтва, каб потым апалячыць, што тут спрадвеку была Польшча і г.д. Потым дакладчык запытаў, можа, хто хоча выказацца па гэтым пытанні. Навагрудскія хло-

пцы бачылі, што я хвалююся і прасоўваюся наперад, уляпіліся ззаду за мой шынель, але я падняў ужо руку. Выйшаўшы наперад, адразу я запярэчыў пану маёру, што тут не Польшча, а Беларусь, і што мы не палякі, а беларусы. А каб не было беларускага народа, то не было б і беларускага народнага паэта Янкі Купалы. Ксёндз не мог мне запярэчыць і хуценька закончыў «пагаданку». Салдаты групамі, без строю і каманды пакрочылі ў казармы. Усе думалі, што мяне арыштуюць. Пранясло. Толькі як вярнуўся са збораў, праз некалькі дзён паліцыянт прынёс павестку з'явіцца на пастарунак у вёсцы Касцяні Слонімскага павета. Камендант паліцыі загадаў, каб я на працягу шасці месяцаў двойчы на тыдзень хадзіў да іх на «мельдунак» — спецыяльную рэгістрацыю.

— *Нешта падобнае адбывалася і з русіфікацыяй праваслаўнай царквы на Беларусі? Ды не толькі царквы?..*

— Русіфікацыя, як усім нам вядома, адбывалася больш маштабна. У гарадах закрылі ўсе беларускія школы, амаль усе пасады занялі прысланыя да нас з усходу рускамоўныя чыноўнікі. Культурныя ўстановы былі прапагандыстамі не нацыянальнай культуры, а нейкага савецкага сурагату. Сфальсіфікавалі гісторыю Беларусі. Як жа тут было прабіцца парасткам беларушчыны?

Вельмі неспрыяльную дзейнасць у адносінах да беларускай мовы і культуры праявілі руская праваслаўная царква і празмерная колькасць савецкага, гэта значыць расійскага, войска на тэрыторыі рэспублікі. Уся служба ў цэрквах вялася на чужой мове. Армія праводзіла толькі камуністычна-русіфікатарскую палітыку.

— *І ўсё ж, Іван Дарафеевіч, ці адродзім мы сваю мову, культуру і гісторыю?*

— Беларусь пакрысе ідзе да адраджэння незалежнасці, беларускай мовы, гісторыі, культуры, якія перамагаюць шматлікія перашкоды, і ў першую чаргу ў сваім жа парламенце. У праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана, што «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова». Гэта трэба вітаць і ўсямерна садзейнічаць напаўненню Закона зместам. Я ўпэўнены, што адродзім сваю мову, культуру, гісторыю. А калі станем сапраўды вольным народам ад усіх варожых заскокаў, тады і будзем інтэрнацыяналістамі.

*Арсень ЛІС*

# Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі

*Фрагмент*

Амаль адначас з Максімам Танкам, гады на два--тры пазней, на літаратурную ніву Заходняй Беларусі ўступілі паэты Анатоль Бярозка, Сяргей Хмара, Анатоль Іверс, Сяргей Крывец, Ніна Тарас. Гаварыць аб істотным укладзе апошняй генерацыі літаратурнага маладняку ў заходнебеларускую літаратуру праблематычна, тым не менш нейкі след, больш ці менш прыкметны, імі ў ёй усё ж пакінуты. С. Хмара, А. Іверс, так бы мовіць, пад заслону гістарычнага, пры ўсёй яго двухсэнсоўнасці ў святле дакументальных фактаў, акта 1939 года паспелі выпусціць у віленскіх выдавецтвах свае першыя кнігі…

Вершы Анатоля Іверса вылучаюцца акварэльнасцю. У Іверса лёгка вар'ююцца настраёвыя пейзажныя матывы, на якія кладуцца, аднак, час ад часу цені глыбейшых, сацыяльна дэтэрмінаваных перажыванняў. Паэт прызнаецца, што песні «часамі працiснуцца трудна праз лёс наш пакутны». У вершы «Загарэліся іскрамі зорнымі» Іверс асэнсоўвае некаторыя палітычныя рэаліі заходнебеларускай рэчаіснасці, праз пейзажны матыў лапідарна перадае лёс сям'і зняволенага ў астрозе земляроба. Лірычны герой Анатоля Іверса — рамантык. Ён гатовы вартаваць зару, сабраць зоркі, каб сыпнуць іх на славу роднай Беларусі (вершы «Я выйду ў прастор безбярэжжаў», «Да

жніва», «У шуме жыта»). У цэлым жа грамадзянскія матывы зборніка Анатоля Іверса «Песні на загонах» яшчэ не адліліся ў высокапаэтычныя строфы, хоць лірыцы паэта наогул не бракуе пяшчоты, шчырасці, душэўнай цеплыні…

*Аляксей КАРПЮК*

# Выступленне на V з’ездзе пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года

*Фрагмент*

У Слоніме жыве паэт Заходняй Беларусі Анатоль Іверс (Іван Міско). Гэтага чалавека спаткала страшэнная несправядлівасць. Усе 20 гадоў пасля вайны ён патраціў на тое, каб давесці, што ён у перыяд акупацыі ў якасці кіраўніка міжраённага антыфашысцкага камітэта зрабіў што мог для Радзімы, што бацьку яго і жонку забілі немцы. Яго вінавацілі ў супрацоўніцтве з немцамі, не друкавалі. Яшчэ два гады таму ў Слоніме, калі чыталі лекцыі пра «бдительность», Івана Міско абзывалі нямецкім паслужнікам. Адно ў канцы 1964 года паклёпы адпалі, Іверс атрымаў партызанскія дакументы, урадавую ўзнагароду, выйшла яго кніжка з творамі, а зараз аўтар прысутнічае нават на з’ездзе. Хоць бы папрасіў у яго хто прабачэння з тых людзей, якія яго тапталі. Дык не, яны робяць выгляд, што нічога не здарылася…

*1966*

*Алена РУЦКАЯ*

## Такое шчасце — бачыць далячынь

Аднойчы да практычных заняткаў па рыторыцы я прапанавала студэнтам выбраць афарыстычныя радкі з вершаў і скласці па іх міні-разважанне. Сярод найбольш цікавых выступленняў быў роздум пра «шчасце — бачыць далячынь». Заінтрыгаваная, я папрасіла назваць верш і аўтара. «Назвы там не было, — паведаміла студэнтка, — а аўтар — Анатоль Іверс». І, убачыўшы маю зацікаўленасць, дадала, што хацела даведацца пра аўтара болей, але ў прадмове да таго калектыўнага зборніка, дзе выбірала радкі, нічога істотнага не знайшла, толькі зразумела, што ён з кагорты паэтаў Заходняй Беларусі. Тады я і расказала пра свайго літаратурнага настаўніка Івана Дарафеевіча Міско, пра яго пакручасты лёс, нязломны жыццёвы аптымізм, уменне, як пісаў яго сучаснік Валянцін Таўлай, «і верай сонечнаю жыць». Дарэчы, гэтыя радкі я ўпершыню і пачула ад Івана Дарафеевіча, пры ім запісала сабе ў нататнік, а ўжо глянуўшы на запісанае, спытала: «А ці не з гэтых радкоў ваш псеўданім ?» Ён угледзеўся ў падкрэсленыя мною літары, уражаны дзіўным вензелем маёй логікі, усміхнуўся і сказаў: «І трэба ж так угледзець. Заманлівы варыянт. Але гэта не так». Іван Дарафеевіч не прамінуў падкрэсліць (заўвагу гэту я чула шмат разоў), што тагачасныя рэдактары былі людзьмі вельмі прыстойнымі і ніколі не раскрывалі сапраўднае прозвішча аўтара. Вось і яго паліцыя расшыфравала толькі тады, калі

выйшаў зборнік вершаў «Песні на загонах». Павінна прызнацца, што я доўгі час лічыла псеўданім сапраўдным прозвішчам: неяк вельмі ён пасаваў аўтару. Нават пры першай нашай сустрэчы я ніяк не называла Івана Дарафеевіча — саромелася спытаць, што трэба дадаваць да імя Анатоль. А сустрэчу гэту я часта згадваю, калі расказваю пра паэта або пра свае першыя паэтычныя крокі, калі сама размаўляю з пачынаючымі аўтарамі, бо была яна для мяне вельмі важнай. Так сталася, што друкавацца я пачала ў рэспубліканскіх дзіцячых выданнях. Маці сама даслала мае першыя спробы ў «Піянер Беларусі» і «Бярозку», а пазней бацька паказаў мне літаратурную старонку ў Слонімскай раёнцы. Я вагалася: раённая газета бачылася мне вельмі сур'ёзнай, дзелавой. Угаварыла мяне мая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Наталля Мікалаеўна Галубоўская, ад яе я пачула імя Анатоль Іверс і падрабязнае апісанне, як патрапіць у рэдакцыю.

Строгі стары буданак на сучаснай вуліцы Хлюпіна ў Слоніме адбіраў у мяне і так невялікі запас рашучасці, а калі я адчыніла грунтоўныя, масіўныя дзверы і ступіла на сцёртыя часам і такія ж грунтоўныя драўляныя прыступкі лесвіцы, то зусім разгубілася. «Крок наперад, два назад» — на той момант гэта было пра мяне. Яшчэ адны высокія дзверы, і ў вялізным пакоі (так мне тады падалося) насустрач мне падняўся сталы мужчына, першым прывітаўся і запрасіў сесці. На мяне глядзелі ўважлівыя, адначасова строгія і спакойна-лагодныя вочы, і мая скаванасць пачала адступаць. Гэта быў мой першы літаратурны ўрок. Іван Дарафеевіч уважліва перачытаў прынесеныя мною вершы і, як мне тады здалося, задаў нечаканае

канае і дзіўнае пытанне: «Колькі яны ў цябе, Алена, адлежваліся?» Хітравата паназіраўшы, як папаўзлі ўверх ад здзіўлення мае бровы, перапытаў: «Як даўно напісаліся, колькі разоў пасля перачытваліся?» Адразу прызнаюся, што ў мяне, можа і не ў вострай форме, але была хвароба пачынаючых: усё, што напісалася, калі не вяршыня дасканаласці, то вельмі блізка да яе. Праўда, парады з дзіцячых часопісаў тую хваробу ўжо трохі падлячылі, але то былі лісты, а тут жывая і такая змястоўная размова. Нават сёння, азіраючыся на тую сустрэчу праз пласты гадоў, я не перастаю здзіўляцца таму, як многа яна мне дала. Тая размова стала першай старонкай у маім вучнёўскім літаратурным сшытку ў прамым і пераносным сэнсе. У прамым таму, што ўвечары таго ж дня, сеўшы за свой стол, запісала ў сшытак чатыры асноўныя парады. І хоць той сшытак, як і студэнцкія канспекты, мой руплівы малодшы брат здаў у макулатуру, я цвёрда засвоіла парады майстра, бо шматкроць перачытвала іх, а пасля і пераказвала сваім вучням.

Дакладна памятаю, што на першай старонцы, стараючыся аднавіць нават словы Івана Дарафеевіча, запісала: трэба многа чытаць, імкнуцца многа ведаць, бо змястоўнасць асобы — аснова творчай сілы. На другой старонцы пад запісам «Падрыхтоўка да творчасці, высокай культуры верша» перапісала ўзор спосабаў праверкі рытмічнага малюнка, які на маім жа вершы прадэманстраваў Іверс. Пазней, калі перачытвала падараваныя мне зборнікі, нязменна адзначала, што неяк матэрыялізавана адчуваецца важкасць кожнага верша, напісанага Анатолем Іверсам, што кожны з іх грунтоўны, вывераны, стрымана

настраёвы, а прамоўленае аўтарам — гэта спасцігнутае яго жыццём, вопытам і сэрцам.

На трэцяй старонцы з недакладнасцямі, як запомніла з працытаванага Іванам Дарафеевічам, напісала своеасаблівы эпіграф «Не збывай ніколі верша з рук, пакладзі ў шуфляду, хай адлежыцца, тады здавай у друк» (В. Таўлай). Яшчэ нешта пра тоны руды з Маякоўскага, а затым ужо параду, што павінна быць пільная патрабавальнасць да сябе, узяць за правіла ніколі не аддаваць у друк творы недапрацаваныя. Я так старалася прытрымлівацца гэтага правіла, што, як гаварыла мая бабуля, выбілася з меры і атрымала вымову ад самогаж настаўніка. З-за правак і пераправак свайго матэрыялу затрымала выхад літаратурнай старонкі, апраўдвалася патрабавальнасцю, але ж Іван Дарафеевіч апраўданняў не прыняў. «Гэта ўжо не патрабавальнасць, гэта нейкі… капашызм», — рэзюмаваў ён. Неяк я расказала гэты выпадак калегам, і трапнае слоўка хутка прыжылося ў нашым абіходзе.

Чацвёртая парада — весці дзённік — яшчэ пры сустрэчы выклікала ў мяне пярэчанне. Я тады якраз паглядзела нейкі фільм, дзе дзённік гераіні вынеслі на публічнае абмеркаванне і так яе дапяклі, што яна хацела кудысьці з’ехаць ці з’ехала нават. Расказала пра гэта Івану Дарафеевічу. Помніцца, што ён неяк доўга маўчаў, а пасля сумна сказаў, што не мог дазволіць сабе пісаць дзённік, бо быў пад наглядам паліцыянтаў, яшчэ памаўчаў і дадаў, што а вось жа Максім Танк пісаў неяк іх і тады ў Вільні, і цяпер піша, што дзённік, як летапіс. На той чацвёртай старонцы я і напісала, што была ў рэдакцыі. А каб не было так пуста, запісала, што пачула пра Ігната Дварчаніна, пра

Рыгора Шырму, пра Піліпа Пестрака. На тым дзённік і скончыўся. А вось першыя тры правілы сталі для мяне асноўнымі ў творчасці. У асобе ж Анатоля Іверса мяне захапляла многае: найперш, відаць, яго пачуццё нацыянальнай і асабістай годнасці, сціпласць і ахвярнасць, па-другое, незалежнасць думкі, тое, як ён мужна трымаўся свайго, умеў размаўляць на поўную шчырасць, спрачацца напорыста, але ніколі нікога не абражаў. А яшчэ ён быў бліскучым апавядальнікам. Калі мы ехалі на нейкія нарады, з’езды, я заўсёды старалася сесці побач з ім, і тады дарога пралятала, як адно яскравае імгненне.

Уражвала яго таварыскасць, уменне трымацца ў коле падзей. Часта прыгадваю, як мы з Валодзем Бутрамеевым перад яго ад’ездам у Маскву вырашылі наведаць Івана Дарафеевіча. Ён прыняў нас у сваім пакойчыку , неяк вінавата паскардзіўся, што баляць ногі, а пасля пачаў паказваць нам лісты, якія атрымаў апошнім часам, распавядаў, што цікавае прачытаў (а чытаў ён з лупай), што піша і збіраецца напісаць. Мы не заўважылі, як праляцела некалькі гадзін, а калі крочылі ўжо на аўтобусны прыпынак, Валодзя сказаў: «Ну вось, і ў каго аказалася болей цікавых навін? Рытарычнае пытанне». Тады я проста пагадзілася, а сёння, пэўна б, сказала, што яму быў дадзены сапраўдны дар: шчасце бачыць далячынь.

*2012*

*Аляксей НЕНАДАВЕЦ*

# Верны сын Беларусі

Напісаць пра гэтага чалавека мяне прымусіла, па-першае, тое, што не толькі маладасведчаныя чытачы, але і спецыялісты-літаратуразнаўцы амаль нічога пра яго не ведаюць. Абыходзілі яны творчасць добрага паэта Анатоля Іверса, не надавалі ёй належнай увагі, і да гэтага часу яна мала вывучана. Няма спецыяльных прац, прысвечаных аднаму са старэйшых беларускіх паэтаў. А па-другое, усхваляваў цяжкі лёс чалавека-барацьбіта, які змагаўся за праўду і незалежнасць у нашым родным краі не толькі словам і пяром, але зброяй і лістоўкай таксама. Цярністы шлях выпаў яму, сыну заходнебеларускага селяніна. Ды ён ніколі і нікому не скардзіўся на свой лёс, а імкнуўся як мага болей зрабіць для росквіту любай сэрцу Беларусі. Такія людзі, як Анатоль Іверс, служаць яскравым узорам у выкананні грамадзянскіх абавязкаў перад Айчынай, за якую яны зведалі ўсё: небяспечную барацьбу падпольшчыкаў, віхрастае полымя партызанскіх кастроў, цяжкія часы недаверу і часовых паражэнняў… Таму жыццёвы шлях паэта — гэта своеасаблівая кніга жыцця нашага роднага краю.

Ён пражыў жыццё, сугучнае бурлівым падзеям неспакойнага часу. Чаго толькі не было ў ім: незабыўныя гады партызаншчыны, цяжкі і крыўдны перыяд недаверу, прызнанне шматлікіх прыхільнікаў таленту — і ўсё гэта знайшло адлюстраванне ў яго творчасці. Бо Іван Дарафеевіч Міско (сапраўднае

імя паэта) ніколі не ставіў адасоблена сваё жыццё і жыццё мілай сэрцу Слонімшчыны, Беларусі:

Жыву ў бацькоўскім краі,
А ён ва мне дрыжыць.
Таму і не ўміраю,
Хачу яшчэ пажыць.
Каб бачыць цуд — світанне
І ў золаце палі,
Пачуць зямное гранне,
Дзе сэрца зазямліў.

Наогул, паэтычных зборнікаў у Анатоля Іверса нямнога: «Песні на загонах» (Вільня, 1939), «З пройдзеных дарог» (Мінск, 1970), «Жыву ў бацькоўскім краі» (Мінск, 1982) і апошні — «Я пайшоў бы ўслед за летам...» (Мінск, 1987). Але ўсе яны значныя, этапныя. Пачынаючы з першых твораў, аўтар піша пра жыццё беднага сялянскага люду, які цягнуў на сваіх плячах асноўны цяжар, «ярэмца хлебароба» (Якуб Колас). Праўда, у гэтых ранніх вершах яшчэ няма ярка вылучанага, своеасаблівага лірычнага героя. Замест яго стаіць сам аўтар, вачамі якога і ўспрымаецца ўся рэчаіснасць. Больш таго, вершы, якія ўвайшлі ў першы зборнік, можна назваць хутчэй прыродаапісальнымі, чым грамадзянскімі. Менавіта прырода раскрывае перад намі псіхалагічны стан чалавека, якому балюча за ўсё тое несправядлівае, што робіцца на яго Радзіме. Але тут абавязкова патрэбна ўлічваць і абставіны, пры якіх пачынаў пісаць Анатоль Іверс, — гэта перыяд жорсткіх праследаванняў любой вольналюбівай думкі ў Заходняй Беларусі, калі каралася нават простае народнае слова. Магчыма, яшчэ і тое паўплывала, што маладому аўтару

цяжка было раскрыць унутраны свет свайго персанажа (не хапала творчага вопыту), і ён пісаў аб тым, што бачыў вакол сябе. Але за ўсёй гэтай непрываблівай прыгажосцю, будзённасцю паэт не забываў пра Бацькаўшчыну:

Балота, балота
І песня, як рунь, —
Цвіце пазалотай
Мая Беларусь.
А там — пералівы
І золата сінь,
Скажы, мая ніва,
Чым доўг аддасі?

Гэты верш нечым перагукаецца з вядомым творам Якуба Коласа «Палескія вобразы». А калі разглядаць усю творчасць Анатоля Іверса да верасня 1939 года, то патрэбна адзначыць, — на ёй адчуваецца своеасаблівы ўплыў Максіма Танка і Валянціна Таўлая. Як бачым, паэт вучыўся не толькі ў суровага жыцця, але і ў сваіх сяброў па пяру. Актыўны ўдзельнік моладзевага руху, Іван Міско душою адчуваў, што хутка прыйдзе новае жыццё, якое прынясе вызваленне ад панскага прыгнёту людзям працы:

Мо прыйдзецца яшчэ зімаваць недагрэтымі —
Хмары воўкам кудлатым паўзуць з-пад Карпат.
Але песню сваю дапяём недапетую
Сярод ніў залатых, пад напевам сярпа.

Ды толькі нядоўга радаваліся людзі новаму, светламу жыццю. Зноў загрымелі гарматы, засвісталі кулі — прыйшла фашысцкая навала і чорнай поганню рассыпалася па мілых абшарах. З першых жа дзён

вайны беларусы паўсталі на свяшчэнную барацьбу з гітлераўцамі. Людзі верылі ў заклікальны агонь цудадзейнай папараць-кветкі, кветкі-перамогі, яны ні на хвіліну, нават у самыя цяжкія моманты, у гэтым не сумняваліся. Паэт разам са сваімі паплечнікамі актыўна ўключыўся ў справядлівую вайну.

Чатыры доўгія гады цягнулася вайна. Пасля яе засталіся папялішчы і парослыя бур’яном сядзібы. Але не першы раз адбудоўваецца наша зямля, сцвярджае паэт, і на гэты раз яна ўзносіць усё разбуранае, спаленае, акрамя людскіх страт. Анатоль Іверс пастаянна ўспамінае сваіх баявых сяброў, вяртаецца на партызанскую паверку, бо менавіта там, у лесе, ён сустрэў сапраўдных, верных спадарожнікаў жыцця:

Былі тут лозы ніцыя,
Бруснічная ікра.
Цяпер шуміць пшаніцаю
Мой беларускі край.
Гляджу на непаўторнае:
Такія берагі!
Крывёй шляхі пратораны,
Каб волю бераглі!

Няма, мабыць, таго матыву ў жыцці, які б не закранаў у сваёй творчасці паэт. І на першым месцы, як мы ўжо адзначылі, знаходзіцца тэма любві да роднай прыроды. Чалавек і прырода выступаюць у вершах Анатоля Іверса як адзінае цэлае, непадзельны маналіт, дзе прырода жыве перажываннямі за чалавека, а чалавек непакоіцца аб прыродзе. Прырода дапамагае зараз і лірычнаму герою, выяўляе яго настрой і імкненні, дзеліць з ім радасць і гора. А радасць для чалавека заключаецца ў самым звы-

чайным: у вясновым спеве жаўрука, у раскацістым свісце салаўя, у таямнічасці навальнічных грымот і ласкавых промнях сонца. Адным словам, ва ўсім тым, што акружае нас у будзённым жыцці, а ўсё гэта, разам узятае, складае Радзіму:

Праходзяць леты, зімы,
А ў памяці — сляды.
Ці ж мог бы без Радзімы
Пражыць усе гады.
Якія лёс прызначыў
Як беззваротны дар?

Правільна, на нашу думку, адзначыў Мікола Арочка: «першае, што ўражвае пры чытанні Іверса, — гэта незвычайны лірызм». Чытаючы любы верш паэта, абавязкова звяртаеш увагу на гэты факт. Радкі, здаецца, не створаны аўтарам, а яны нібы і жылі ў паэтычнай прыродзе такімі ж паўнагучнымі і яркімі, насычанымі і непаўторнымі.

Паэзія Анатоля Іверса — гэта гісторыя нашага краю, з яго багатым гістарычным мінулым, непаўторнымі легендамі і паданнямі, з яго прыгожым і светлым сённяшнім днём і, вядома ж, з верай у будучае жыццё і ў працавітых людзей беларускага краю.

*1988*

*Уладзімір ЯГОЎДЗІК*

## «Хочацца нечага святлейшага...»

Гэты невялічкі паэтычны зборнік мне адразу прыглянуўся ў кнігарні. Танклявыя сцяблінкі на вокладцы, нахіленыя жытнія каласы, а побач — трывожная расколіна з надрукаваным прозвішчам аўтара і назвай: **Анатоль Іверс. З пройдзеных дарог.** Я разгарнуў старонкі і адчуў, як страпянулася сэрца.

Мы не плакалі ў школе, як ціснуў мароз.
Сёння мутнае неба не хоча звінець.
На дарозе ў сустрэчным паходзе бяроз
Ланцугамі звінеў я ў тваёй старане.
За імглою імгла налятала не раз
На шляхі маладыя і вольную шыр,
Дзе заўсёды займаецца жарам зара,
Дзе яе нават вецер не можа стушыць.

Міналі апошнія чэрвеньскія дні 1973 года. Скончыўшы Зэльвенскую школу-інтэрнат, я прыехаў у Кастровічы і рыхтаваўся паступаць у вышэйшую навучальную ўстанову. Да таго ж спрабаваў пісаць сам, нават зрэдку друкаваўся ў дзіцячых выданнях. Я ведаў, што Анатоль Іверс працуе ў раённай газеце, таму неадкладна выбраўся ў Слонім, захапіўшы свае літаратурныя практыкаванні.

Рэдакцыя знаходзілася ў старадаўняй камяніцы. На другі паверх вяла чыгунная лесвіца, што нібыта стагнала пад нагамі. Хтосьці паказаў мне пакой, дзе за сталом сядзеў пажылы дзядзька з маладымі прыязнымі вачамі. Мы пазнаёміліся і прагаварылі

цэлую гадзіну. Я прызнаўся, што даўно хачу пачытаць вершы Наталлі Арсенневай, але не магу іх знайсці. Іван Дарафеевіч спытаўся, калі я вяртаюся дахаты. А калі мы сустрэліся папалудні, падаў мне вялікі канверт, у якім ляжала ніштаватая кніжка, і паціху сказаў: «Толькі нікому не паказвай...».

Зазірнуўшы ў канверт, я прачытаў на абгортцы: «Наталля Арсеннева. Пад сінім небам. Вільня — 1927».

Вось так пачалося наша сяброўства, якое доўжылася больш за чвэрць стагоддзя. Вядома, тагачасныя пільныя органы не даравалі б паэту-партызану прапаганду творчасці «заакіянскай нацыяналісткі», але ён чамусьці паверыў цікаўнаму пачаткоўцу, а праз тыдзень апублікаваў у раёнцы нізку маіх вершанят.

Нарэшце прыйшоў час выпраўляцца ў Мінск здаваць экзамены. Аднаго дня я наведаўся ў рэдакцыю, каб аддаць пазычаную кнігу, якую перапісаў ад першай да апошняй старонкі. На развітанне Іван Дарафеевіч уручыў мне «падарожны» ліст з такім вось зместам:

«27 ліпеня 1973 г. Паважаны Алег Антонавіч! Даўно не бачыліся, хацелася б пагутарыць, падзяліцца навінамі, думкамі. Гэтае кароценькае пісьмо пішу па прычыне. Едзе са Слонімшчыны юнак Уладзімір Ягоўдзік паступаць у БДУ. Ён піша вершы, некаторыя мы друкавалі ў нашай раённай газеце. Добра было б, каб ён паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта, няхай развіваў бы свой талент. Калі будзеш у Слоніме, зайдзі ў рэдакцыю. Да пабачэння. Анатоль Іверс».

Так атрымалася — мне не ўдалося тады пабачыцца з Алегам Лойкам, таму гэтае пісьмо не трапіла да адрасата.

Я заўсёды з удзячнасцю ўспамінаю Анатоля Іверса — цудоўнага чалавека і самабытнага паэта, акрыленага родным словам.

## Пісьмы Анатоля Іверса да Уладзіміра Ягоўдзіка

### 1.

*10/XII-1973 г.*

Здароў, Валодзя!

Сёння атрымаў тваё пісьмо. Адразу даю адказ. Знаходжуся ў водпуску, пасля 15-га думаю пад'ехаць у Мінск. Таму пакуль што ўстрымайся купляць «Вытокі песні» (зборнік аўтабіяграфій літаратараў. — *У. Я.*), пастараюся адзін экзэмпляр купіць сам.

Высылаю адну нашу газету з тваім вершам «Перад дарогай», а таксама нумар з аўтабіяграфічнай падборкай «Літаратурная Слонімшчына», дзе ўспамінаешся і ты.

Навін не ведаю, хоць у рэдакцыю часта заходжу. Я не чуў, калі і з якой прычыны чыталі мае вершы. Будучы ў водпуску, адпачываю ад усялякай пісаніны. Здароў. Вось і ўсё. А ты пішы пакрысе вершы, заходзь да мяне, як будзеш у Слоніме. Да пабачэння.

*І. Міско.*

## 2.

*26/IX-1975.*

Добры дзень, Валодзя!

Пісьмо тваё атрымаў своечасова. Але не пісаў таму, што не была выпісана «Ніва» (беластоцкі беларускі тыднёвік. — *У. Я.*), не прыслалі ліміт. Нарэшце ліміт прыслалі (на 5 экзэмпляраў), і я газету выпісаў, будзь спакойны.

У мяне ўсё нармальна і дома, і на працы. Два разы ездзіў з калектывам на ўборку бульбы. У рэдакцыю амаль не заходжу, там можна было б даведацца, ці выйшла ў Зэльве «Літаратурная Слонімшчына». (Падрыхтаваная мной нізка вершаў Гальяша Леўчыка, Анатоля Іверса, Сяргея Новіка-Пеюна і Алеся Сучка была надрукана ў Зэльвенскай раённай газеце «Праца» ў нумары за 13 верасня. — *У. Я.*)

У нас асаблівых навін няма. Праўда, 22 верасня памёр Павел Сцяпанавіч Крынчык. Пахавалі ўрачыста, прыпомнілі яго заслугі перад Радзімай.

Пытаеш, ці што патрэбна з кніжак. І сам не ведаю, што казаць, пакуль нічога, здаецца, не трэба. Вось і ўсё. Бывай здароў.

*І. Міско.*

## 3.

*1 лістапада 1976 г.*

Добры дзень, Валодзя!

Пісьмо тваё даўно атрымаў, але адказ адкладваў на далей. І вось надарыўся выпадак — пішу. Жыву я нармальна, праўда, крыху ляжаў у бальніцы. Працую. Работы хапае. Напісаў яшчэ некалькі артыкулаў, але ў

газеце друкаваць не спяшаюцца, бо ідзе многа бягучых матэрыялаў. Надрукавалі адзін верш, але далі ў дадатак другую, зусім не патрэбную рубрыку, быццам верш не можа без яе існаваць. Да таго ж зрабілі недарэчную перастаноўку знакаў прыпынку (газету з вершам высылаю).

Над кнігай (ці брашурай) аб Слонімшчыне пад загалоўкам «У памяці народнай» буду працаваць далей, думаю, што ўдасца выдаць.

Купіў сабе Ядвігіна Ш. (добрую справу зрабіў наш зямляк Іван Чыгрын). Так, зборнік Гальяша Леўчыка таксама павінен атрымацца салідны, я гутарыў аб гэтым з Янкам Саламевічам.

Газету табе выпісаў. Вось і ўсё.

*І. Міско.*

**4.**

*22/III-1977 г.*

Паважаны Валодзя!

Сёння атрымаў твой ліст, за які дзякую, і сёння даю адказ.

Вядома, прыемна пачуць добрую вестку. Толькі адкуль Бугаёў ведае маю біяграфію, хіба толькі па кнізе «Вытокі песні».

«Ніва» змясціла тры вершы, фота і даведку аб аўтары вершаў. У раённай газеце друкаваліся мае тры вершы для дзяцей (не помню, ці ты іх бачыў). Тваіх вершаў у газеце яшчэ не было. Рукапіс верша або вершаў прышлю ў наступным пісьме.

У мяне ўсё нармальна. Працую, езджу па раёне, змяшчаю ў газеце артыкулы на гістарычна-рэва-

люцыйную тэматыку. Вось і нядаўна прайшоў праз газету артыкул «Грамадаўскі скарбнік», які быў напісаны на падставе знойдзеных у страсе дакументаў больш як пяцідзесяцігадовай даўнасці.

Думаю пад'ехаць і ніяк не збяруся ў Мінск. Бывай.

*І. Міско.*

**5.**

*21 студзеня 1979 г.*

Добры дзень, Валодзя!

Выбачай, што доўга не пісаў. Усё ніяк не мог сабрацца. Ды і што пісаць? Лепш было б пагутарыць.

Добра, што ты ўжо працуеш. Але не зайздрошчу. Мне здаецца, што газета забірае ў цябе вельмі шмат часу, які мог бы выкарыстаць для літаратурнай творчасці. І потым, «Заря» выходзіць на рускай мове, і табе даводзіцца раздвойвацца: днём думаць па-руску, а вечарам — па-беларуску (у 1978–79 гг. я працаваў у рэдакцыі Брэсцкай абласной газеты «Заря». — *У. Я.*). Мне здаецца, што Ніл Гілевіч, Алег Лойка маюць магчымасці поўнасцю ўдзяляць увагу развіццю культуры роднага слова.

У нас на Слонімшчыне, здаецца, нічога не змянілася. Я асабіста працую там, дзе і працаваў, рэдка пішу. Нядаўна напісаў ні то паэмку, ні то баладу «Лясны паклон». Калі ўзяць пад увагу, што пісаў пад гатовы клішыраваны загаловак, то, мабыць, выйшла не зусім дрэнна. Праўда, Прасняк (рэдактар Слонімскай раённай газеты. — *У. Я.*) хацеў, каб я напісаў артыкул або нарыс пра якога-небудзь добрага ляснога работніка, а мяне пацягнула на штосьці іншае, хоць

усе факты таксама ўзяты з жыцця. Як надрукуюць, прышлю газету. Валодзя Кароткі працуе выкладчыкам фізкультуры ў Глоўсевіцкай СШ. Паступіў у аспірантуру. На рабоце мучыцца, бо фізкультура — не яго прадмет.

Да пабачэння. Прыязджай у Слонім.

*І. Міско*

## 6.

*2. X-1979 г.*

Даражэнькі Валодзя!

Пісьмо тваё з газетнай выразкай атрымаў. Шчыра дзякую. Каб ты не даслаў, то я не ведаў бы, што вершы надрукавалі (гаворка ідзе пра нізку вершаў Анатоля Іверса, надрукаваную ў газеце «Звязда». — *У. Я.*). Летам на працягу месяца пакідалі ў кіёску для мяне «Звязду». Потым некалькі нумароў забылі адкласці, і я больш не браў.

А ў суботу 29 верасня я з двума пазаштатнымі карэспандэнтамі нашай раённай газеты ездзілі ў калгас «Рассвет», бралі матэрыял для вялікага артыкула. У нядзелю 30 верасня ўвесь дзень аж да 22 гадзін пісалі, будзе ў нумары за 6 кастрычніка, прысвечана Дню Канстытуцыі. (Так было трэба, і так зрабілі.)

А цяпер наконт маіх вершаў. Вершы крыху падгладзілі, але зрабілі добра. Падборка атрымалася салідная. І наогул «Звязда» прыгожа, чыста выдаецца, прыемна ўзяць у рукі.

25 верасня грамадскасць Слоніма адзначала саракагоддзе раённай газеты. Прысутнічаў і я на афіцыяльнай і неафіцыяльнай частцы ўрачыстасці.

Падарылі мне кнігу і дзве ручкі. Адной з іх (шарыкавай) пішу табе гэтае пісьмо. Юбілейныя газеты высылаю, у № за 25 верасня змешчаны мае матэрыялы («Нечаканая сустрэча» і падборка «У незабыўны час», дарэчы, вельмі скарочаная, бо не хапала месца). У кавалку, дзе гаворыцца аб наведанні рэдакцыі Міхасём Лыньковым, выкінулі адну дэталь. А іменна: тады мы старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі падарылі кайданы, як сімвал няволі, «у якіх часта хадзілі заходнебеларускія пісьменнікі».

У нас дома ўсё без змяненняў, калі не лічыць, што Косцю ўзялі на месяц у армію. А. Лойка, які забраў мае рукапісы, не дае знаць аб сабе (трэба яму пазваніць).

Наконт часопісаў. Аб іх я не трывожуся, ведаю, што прывязеш.

Дзякую за прывітанні ад тваёй сям'і. Прыміце і нашы прывітанні.

*І. Міско.*

**7.**

*Слонім, 24 жніўня 1982 г.*

Даражэнькі Валодзя!

Рады быў атрымаць ад цябе пісьмо. Сапраўды, даўно мы не бачыліся. Добра, што ты маеш маю кніжку, трэба было б паставіць аўтограф. Я нават хацеў даслаць кнігу з падзякай за віншаванне, але не ведаў дакладнага адраса.

Дарэчы, пра кнігу. Аўтарскіх я атрымаў усяго два экзэмпляры (кажуць, што ў перавыданнях так вядзецца). У гандлёвую сетку Слонімскага райспажыўсаюза прывезлі толькі 18 штук, 8 з якіх адпусцілі мне.

Праўда, я дастаў крыху ў другім месцы. Зыходзячы з невялікай колькасці, пакрысе ўручаю сяму-таму, у тым ліку даслаў Ул. Калесніку, які прыслаў цудоўнае віншаванне з грунтоўным зместам (дзякуй яму).

Юбілей прайшоў добра, як на Слонім — грандыёзна. Усё адбывалася ў новым РДК, вечар вяла сакратар гаркама Л. І. Мукасей. Выступленні, прывітанні, кветкі. Акрамя мясцовых людзей, прысутнічалі Мікола Арочка, Янка Саламевіч, Аляксей Карпюк, Марыя Шаўчонак і др. На вечары распаўсюджваўся буклет (дасылаю, а таксама выразку з нашай газеты).

Жаль, што не было цябе на вечары. Цудоўна, што ты выдаеш сваю кніжку.

У сувязі з маім 70-годдзем Данута Бічэль напісала цудоўны артыкул («Гродненская правда» за 15 мая 1982 года), хоць і не мела яшчэ зборніка «Жыву ў бацькоўскім краі»). А аб кнізе абяцала напісаць у «ЛіМ». М. Арочка — у «Полымя». За ўсё добрае, зробленае і сказанае ў мой адрас, я лічу сябе даўжніком.

У ахове помнікаў яшчэ працую, але думаю кідаць, бо вельмі абрыдла выкалачваць членскія ўзносы.

Прывітанне сям'і. Як гадуецца Юлька? (мая старэйшая дачка. — *У. Я.*)

Да пабачэння.

*А. Іверс.*

P. S. У вёсцы Яглевічы Івацэвіцкага раёна жыве мая добрая знаёмая, былая настаўніца, пенсіянерка і былая падпольшчыца Слонімскай антыфашысцкай арганізацыі. Яна страшэнна хворая і не выходзіць з маёй галавы. Можа, будзеш у Івацэвічах (вёска ў 3 км), напішы пра яе ў газету, хай парадуецца, пакуль жывая. Перадасі ад мяне прывітанне.

## 8.

*23.12.83.*

Добры дзень, Валодзя!

Даўно не бачыліся. Засумаваў. Хочацца нечага святлейшага. А тут нахлынулі службовыя і хатнія клопаты. Усё гэта перамелецца, перажывецца.

Напісаў успамін пра Таўлая. Сёння дасылаю ў «ЛіМ» на імя Хрысціны Лялько. Можа, надрукуюць.

Валодзя! Пашукай кнігу Мікалая Арэхвы «Справы і людзі КПЗБ». Калі ёсць, прышлі тры экз., у крайнім выпадку адзін. Грошы вышлю.

Пішы, як жывецца, працуецца. Як Юлька, пэўна, ужо вялікая? Да пабачэння. Віншую з Новым годам! З найлепшымі пажаданнямі

*І. Міско.*

## 9.

*18.4.84.*

Добры дзень, Валодзя!

Дома мне сказалі, што ты званіў, едучы ў Зэльву. Я чакаў, што заедзеш да нас або яшчэ раз пазвоніш. Калі-небудзь убачымся. Я яшчэ працую, хаджу, езджу — весялей. Але не заўсёды.

Напісаў пяць вершаў насустрач 40-годдзю вызвалення Беларусі і дасылаю іх у твае рукі. Добра было б, каб прайшлі праз «ЛіМ», а то я вельмі мала друкуюся.

Раскажы, як пажываеш ты, што чуваць добрага? Як маецца твая сям’я? Прывітанне жонцы і Юлі.

Да пабачэння! Жадаю ўсяго найлепшага.

*І. Міско.*

## 10.

*26.03.85.*

Дарагі Валодзя!

Як табе вядома, я пакрысе пішу ўспаміны і хутка закончу. Адзін з кавалкаў «На спатканне да партызан» дасылаю праз цябе ў «ЛіМ», каб надрукавалі.

Учора напісаў успамін пра М. З.-С. (Міхася Забэйду-Суміцкага. — У. Я.). Прыйшлося пакапацца ў сваім невялікім архіве, каб устанавіць год канцэрта ў Слоніме. Вось толькі бяда, усе, у каго я пытаў пра выступленне, ніхто не помніць факта. Паспрабую запытаць яшчэ ў каго-небудзь. Прывітанне тваім хатнім жанчынам! А таксама сябрам па працы. Шчыра віншую з прыняццем у Саюз пісьменнікаў.

Заўсёды Ваш

*І. Міско.*

## 11.

*Слонім, 12 студзеня 1989 г.*

Добры дзень, з Новым годам, Валодзя!

У канцы мінулага года ў маіх руках пабываў «Каляндар Усходніх зямель» на 1936 год. У «Календары...» змешчаны вялікі артыкул Валерыяна Харкевіча «Слонім і Жыровічы», якія па просьбе Сяргея Чыгрына я пераклаў на беларускую мову. Артыкул вымачаны ў польскім нацыяналізме, езуіцтве, пілсудчыне, — вядома, для адурманьвання падняволеных беларусаў і ўкраінцаў. Аднак думаю, што шматлікія факты, даты і прозвішчы зацікавяць цябе тым больш, што ўпамінаецца гістарычная асоба — Міхал Валовіч, а таксама прозвішча Ізыдара Лукашэвіча.

Дасылаю табе пераклад гэтага артыкула, можа, што-небудзь выкарыстаеш з яго, бо чуў, што пішаш пра Валовіча. А калі і не выкарыстаеш, то такое бяды. Мне здаецца, што нават на падставе дасланага ў сваім творы (пры аказіі) можаш зазначыць, як пілсудчыкі перакручвалі на панскі лад нашу слаўную гісторыю.

Будзь здароў! Жадаю поспехаў у працы. Прывітанне сям'і.

*Анатоль Іверс.*

*Ала ПЕТРУШКЕВІЧ*

## Згадкі пра Анатоля Іверса

Мне пашчасціла пазнаёміцца з гэтай прыгожай сям'ёю заходнебеларускіх інтэлігентаў Ніны Паўлаўны і Івана Дарафеевіча на схіле іх веку. Не праміне і двух гадоў, як іх не стане.

Паехаць у Слонім прапанавала Данута Янаўна Бічэль. Была прыгожая зіма. Снежны, не надта марозны студзень 1997 года. Па дарозе заехалі ў Зэльву, на магілу Ларысы Антонаўны і Івана Пятровіча Геніюшаў.

У хаце на вуліцы Дабрыяна, звычайнай, вясковай, дзе было вельмі ўтульна, чыста, быў пакой — кабінет Івана Дарафеевіча. Стол, некалькі стулаў вакол, кніжная шафа. Ён адразу запрасіў нас туды, і самае першае, што паказаў у часе той сустрэчы, былі кнігі. Свае вершы і розныя літаратурна-крытычныя выданні. Сам гаспадар сядзеў за сталом і гаварыў мне: «Вазьмі тую кнігу, адгарні, прачытай, на якіх старонках трэба паглядзець, падай мне». Праз лупу ўважліва глядзеў на кнігу. На тытуле кожнай з гэтых працаў ягонай рукой былі пазначаны старонкі, дзе хоць раз успаміналася імя Анатоля Іверса. Прасіў: «Прачытай тут». Чытала нейкі абзац, дзе гаварылася пра яго паэзію, чытала пералік прозвішчаў заходнебеларускіх паэтаў у кнігах Уладзіміра Калесніка. Слухаў і казаў: «А зараз з той кнігі». Я разумела яго, чый шлях падыходзіў да васьмідзесяціпяцігадовай мяжы. Разумела паэта, які доўгі час не меў магчымасці друкаваць свае вершы, не меў ніякага водгуку

на створанае ім. А ён так прагнуў быць пачутым! Бо для чаго ж тады народжанае, часам выпакутаванае, прамоўленае, напісанае Слова? Таму я гэтак спяшалася адгукнуцца на ягоныя новыя кнігі…

Ён расказваў пра Слонімскае падполле. Пра гэта расказваў скупа, пераходзіў на нежывы, публіцыстычны стыль. Гаварыў так, як пісаў свае артыкулы. Не даравaў тым, хто, як ён лічыў, былі здраднікамі. І праз столькі гадоў завочна змагаўся з імі, хоць і тыя людзі, таксама беларускія патрыёты, адпакутавалі як на адно жыццё, то аж занадта.

Мне вельмі хацелася пачуць пра Наталлю Арсенневу, пра той ейны прыезд у Слонім напрыканцы вайны. Расказваў, як намаўляла і яго пакінуць Беларусь. Чамусьці не спытала, ці не пашкадаваў калі, пазней, што не выехаў тады. Дапытвалася, якой была Наталля Арсеннева. Бо ў маіх вачах усе нашы паэткі — найпрыгажэйшыя кабеты ў свеце (нашы ў маім разуменні далёка не ўсе паэткі, нават калі і пішуць па-беларуску). Мне важна было пачуць ад яго, бо фотаздымкі зусім не тое, што жывое сведчанне. Пыталася: яна была вельмі прыгожай? Адказаў: «Яна была такой», і дзвюма далонямі, разведзенымі ўбакі, дакрануўся да свайго падбародка.

На развітанне ўзяў з нас слова, што прыедзем у Слонім у траўні.

Той травеньскі дзень быў як на заказ. Зялёны, цёплы, сонечны. Свята наладзілі ў клубе ў роднай вёсцы Івана Дарафеевіча. Зала была запоўненая. Людзі гаварылі шчырыя словы свайму паэту, мясцовыя артысты спявалі песні. Свята ўдалося. Інакш і не магло быць, бо адчувалася, як шанавалі яго чамяроўцы,

як ганарыліся сваім земляком. Зусім не было таго, што называем афіцыёзам. Не памятаю, ці то тутэйшага начальства не было зусім, ці то яны тым разам не вылучаліся з народу. Бо не было той, звычайна фальшывай, ноты, звязанай з такой прысутнасцю. А госці таксама імкнуліся сказаць светлыя словы, ведаючы, да якога светлага чалавека прыехалі. Мне падавалася, людзі разумелі, што гэтае свята апошняе. Хоць, як гэта бывае звычайна, і жадалі юбіляру шмат гадоў, але няўлоўна матыў развітання прасочваўся праз усю тую сустрэчу.

Было частаванне ў ягонай хаце, пра што парупіліся найперш Ніна Паўлаўна і родныя. У Беларусі пачаўся няпросты час (зразумела, тут ніколі не было проста). Водгукі таго, што адбывалася, урываліся і ў застольную бяседу.

Іван Дарафеевіч назаўсёды запомніўся такім, якім застаўся на апошнім фотаздымку з той святочнай сустрэчы. Ён правёў нас да весніцаў. Усе ўжо селі ў машыну, я затрымалася. Данута Янаўна параіла: «Сфатаграфуй яго зараз». Стаяў ля весніцаў і так смутна прамовіў: «Апошні раз бачымся». Безумоўна, сказала, што мо і не, але гэта гучала, напэўна, не вельмі пераканаўча.

Ліставанне наша пачалося пасля той апошняй сустрэчы. У маім жыцці таксама пачынаўся вельмі адказны час, калі пачыналася новая эра — Максімкава. Паехаць тады ў Слонім не выпадала ніяк. Была проста невыязною.

Як хараша яны жылі! Двое людзей шаноўнага веку. Нікольки не крывіў душою Анатоль Іверс, калі ў вершы-прысвячэнні жонцы «Развеяліся хмары»

пісаў: «…у згодзе крочым мы штодзень, / Бо, кажуць, ёсць каханне». Верш з’явіўся ў апошняй кнізе паэта «Травень». Памятаю, у часе першай зімовай сустрэчы Ніна Паўлаўна жартам сказала, што ніколі ёй верша не прысвяціў. Але ў тым жарце мне пачулася смутлівая нота, бо яна ж была яшчэ як вартай, каб верш з’явіўся. Былі прысвячэнні першай жонцы Веры, пра якую паэт не забыўся ніколі. Не ведаю, калі Іван Дарафеевіч задумаў напісаць верш «Развеяліся хмары». Тады ён прамаўчаў.

Не, я разумею, што ў Івана Дарафеевіча характар не мог быць мядовым. І наогул, жыццё з паэтам простым не бывае. Але ў тым часе, калі ім давялося разам сустрэць старасць, усё тое недарэчнае даўно згладзілася. Былі агульныя зацікаўленні. Яны разам чыталі, абмяркоўвалі падзеі. Імкнуліся ведаць, што адбываецца ў свеце, слухалі радыё. «Часцей цікавіць нас: што, дзе ў эфірным хваляванні». Сапраўдная ідылія. І Ніне Паўлаўне ўсё тое, чым жыў яе муж да апошняга дня, было гэтак жа неабыякава. Мала ёсць такіх сем’яў, дзе людзі так шчыра цікавяцца справамі іншага. Калі пісалі ў лістах, што прачыталі нешта, мне ўяўлялася, як яны, залатвіўшы справы, заходзяць у той кабінецік, сядаюць за стол, спачатку разглядаюць кнігу ці газету (Іван Дарафеевіч праз лупу), а пасля Ніна Паўлаўна пачынае чытаць…

Можна толькі ўявіць, якая пустэча ўтварылася і ў тым мілым дамку, і ў душы гаспадара, калі яе не стала. Гэтае фантастычнае, казкавае шчасце — памерці ў адзін дзень — даецца яшчэ радзей, чым у адзін дзень нарадзіцца. Зрэшты, Іван Дарафеевіч перажыў сваю жонку ненамнога, на нейкія пяць месяцаў.

Да апошняга жыў вершамі, надзеямі на новыя кнігі. Не хацеў камусьці пакінуць свой клопат, свае нявыдадзеныя кнігі. Хацеў сам усё завяршыць. Але як? Як паэту ў такім веку, у такім цяжкім стане, з зусім невялікім дастаткам было ажыццявіць свае задумы?

Тое, што сёння выйшла кніга Анатоля Іверса «Аўсяныя росы» і рыхтуецца кніга пра яго, — шчаслівы і, на жаль, даволі рэдкі выпадак у нас. Сышліся дзве асобы: унук паэта Аляксандр Міско, які шануе спадчыну свайго дзядулі, і пісьменнік, краязнаўца Сяргей Чыгрын, здольны зрабіць такую нялёгкую справу — падрыхтаваць кнігі да выдання.

Тая апошняя сустрэча з Іванам Дарафеевічам адбылася 18 траўня 1997 года. Пачалося эпісталярнае сумоўе.

## Перапіска Анатоля Іверса з Алай Петрушкевіч

### 1

*23. 05. 97.*

Добры дзень Вам,
шаноўныя Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч!

Няшмат часу мінула, як мы бачыліся. Але многае змяняецца нават за такі час. Навіны нядобрыя і няпэўныя. Таму асабліва патлумачыць не магу. Напішу толькі, што Данута Янаўна мела рацыю.

Дасылаю Вам сваю кніжку. У 3-м раздзеле — тая рэцэнзія, што была ў «ЛіМе» на Вашу кніжку. Праўда, у газеце апошні абзац скарацілі. У кнізе — я пакінула.

І, як бачыце, мае пажаданні спраўдзіліся. Вы прыйшлі ў свой травень.

Маю да Вас просьбу: мо памятаеце ўсю песню метадыстаў? І другую. Бо Вы сказалі, што было дзве. То будзьце ласкавы, напішыце мне тэкст.

І яшчэ прашу мілую Ніну Паўлаўну даслаць мне тэкст той паэмы ці верша, які Вы чыталі нам зімой. Памятаеце? І колькі слоў пра аўтара. Буду Вам вельмі ўдзячна.

Добрага здароўя Вам, добрыя людзі.

*Ала*

**2**

*10 чэрвеня 1997 года.*

Вельмі шаноўная Ала!

Вашу кнігу «Іду па слядах» і ў ёй пісьмо своечасова атрымалі. Моцна дзякуем. Аднак просьбу Вашу наконт метадысцкіх песняў выканаць не магу. Не магу ўспомніць. Спадзяваўся на Сяргея Чыгрына, які сказаў, што гэтыя песні ў яго ёсць. Аказалася, што вершаваныя тэксты ў часопісе «Светач Хрыстовай навукі» ён пазычыў, паслаў у Маладзечна. Прайшло некалькі гадоў, а часопіс не вярнулі. Кажа, што званіў, абяцалі адаслаць. Я званіў у наш краязнаўчы музей, можа, там захоўваецца часопіс. Адказалі, што няма. Ёсць нейкі рэлігійны часопіс Маскоўскай патрыярхіі. Вось як. Свайго няма, а маскоўскі ёсць.

Сяргей Чыгрын зацікавіўся Вашай кнігай, узяў у мяне Ваш адрас. Ён у курсе адносна патрэбы Вам гэтых вершаваных метадысцкіх твораў, да якіх меў дачыненне Гальяш Леўчык. Што ж, будзем чакаць.

Другую просьбу (да Ніны Паўлаўны) выконваем, дасылаем тэкст верша Збраевіча, як брат брата забіў за зямлю. Аўтар верша быў непісьменны. Прыстасаваўшыся да яго пісання, я накідаў другі падобны тэкст.

Збраевіч Рыгор Пятровіч нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна. Прымаў удзел у падпольным рэвалюцыйным руху Заходняй Беларусі. Падвяргаўся рэпрэсіям з боку польскага ўрада. Пры катаванні пашкодзілі плячо, бяздзейнічала рука. Сядзеў у турме.

У часы нямецкай акупацыі Р. Збраевіч кіраваў гуртком антыфашысцкай арганізацыі ў Вялікай Кракотцы.

Ніна Паўлаўна перадае Вам падзяку за пільную ўвагу да яе. Яна цяпер памаленьку працуе ў агародзе.

Пасля 18 мая я напісаў тры вершы, у тым ліку і Дануце Іванаўне ў адказ на прысвячэнне ў мой гонар. Мікуліч так і не прыслаў «Гродзенскую праўду» з публікацыяй пра мяне. Будзеце перадаваць Дануце верш, папрасіце яе, каб даслала «Гродзенскую праўду». Напісаў артыкул пра Вашу кнігу, каб адзначыць тыя месцы, дзе гаворыцца пра слонімцаў. Рэдактар казаў, што прыедуць па артыкул. Надрукуюць — прышлю.

Я займаюся ўпарадкаваннем сваіх вершаў, каб пасля маёй смерці можна было здаваць у друк. Застаюцца празаічныя замалёўкі, артыкулы, якія таксама просяцца пераглядзець, пачысціць. Як будуць сілы, то прыступлю і да гэтай работы.

Што ў Вас? Перадайце нізкі паклон Дануце Іванаўне. У першых пісьмах пасля 18 мая Маліноўскі з

Баранавіч расхваліў усіх, хто прымаў удзел у адзначэнні майго юбілею.

Вам таксама нізкі паклон і ўсяго найлепшага!

*Анатоль Іверс.*

Кніжка «Іду па слядах» добра, змястоўна, цікава напісана. Прыгожа, густоўна выдадзена. Словам, зрабіла на нас захапляючае ўражанне. Вітаем. Жадаем поспехаў у далейшай працы.

**3**

*12.06.1997 г.*

Добры дзень,
шаноўныя Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч!

Дзякую вам за ліст, за верш.

Як хораша, міла, з гумарам Вы, Іван Дарафеевіч, у вершы да Дануты Янаўны: не рабіна і не вішня.

Сяргей Чыгрын даслаў мне ліст. Я ўжо паслала яму кніжку. Мне было незразумела, чаму ён піша пра пераклады Г. Леўчыка. Пасля Вашага ліста ўсё праяснілася. Але я зразумела так, што спадар Сяргей падараваў той часопіс Казлоўскаму з Маладзечна.

Дасылаю Вам фотаздымкі. На жаль, яны атрымаліся непрафесійнымі. Асабліва шкада, што фатограф абразаў людзей. Так, на агульным здымку болей відаць дах Вашай хаты, чым людзі. На тым, дзе мы з Вамі, гэткі ж недахоп. А вось ваш фотаздымак ля весніцаў хаты — проста цуд. Ці не так?

Дасылаю таксама ксеракопію артыкула ў «Гродзенскай праўдзе». На жаль, гэтай газеты я не выпісваю. Адбітак зрабіла з падшыўкі. У кіёску прапусціла.

Пакуль агледзелася, мінуў час, у кіёску ўжо не было.势Дануце скажу. А пакуль — хоць копія.

Мілая Ніна Паўлаўна, як і большасць жанчын у гэтым часе, працуе на агародзе. Так, гэта наш лёс: карміць, мыць, прыбіраць, палоць. Такім чынам тварыць Хараство. Я на агародзе адпачываю ад лекцый, семінараў, дыпломных, экзаменаў.

Добрага здароўя Вам!

З павагай

*Ала.*

**4**

*24 ліпеня 1997 г.*

Шаноўная Ала!

Прыміце наша вітанне са Слоніма. Як я ўспамінаў ужо, пазваніў рэдактару «Слонімскага весніка», што будзе напісаны артыкул пра Вашу кнігу «Іду па слядах». Ці змесціць? Адказаў, што змесціць, калі будзе гутарка, звязаная са Слонімшчынай. Таму прыйшлося пісаць пра мясцовых літаратараў. І, як бачыце, публікацыя паявілася на свет. Трэба зазначыць, што артыкул надрукаваны без малейшых правак, скарачэнняў. Не здзіўляйцеся, што мой матэрыял з задавальненнем згадзілася падпісаць Ніна Паўлаўна. Мне няёмка было ставіць свой подпіс пасля таго, як я не ўстрымаўся і працытаваў Ваша ўзвышанае апісанне аблічча маёй маладосці. Дзякую вам за гэта.

Усяго Вам найлепшага. Шчырае прывітанне Дануце Янаўне.

*Анатоль Іверс*

**5**

*29.07.97 г.*

Добры дзень,
шаноўныя Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч!

Атрымала дасланую Вамі газету. Шчыра дзякую Вам за артыкул. Я і не ведала, што ў маёй кнізе 25 артыкулаў. Якая прыгожая лічба атрымалася! Цудоўна, што зусім выпадкова. Сама не здагадалася палічыць.

Гэта вельмі міла, што Ніна Паўлаўна згадзілася паставіць свой подпіс. Рада, што вам, Іван Дарафеевіч, спадабаліся мае словы пра Ваш воблік. Ведаеце, я гэта напісала, калі яшчэ не была з Вамі знаёма: восенню 1996 г. Сапраўды, той фотаздымак — проста цуд. Менавіта такім у ідэале я ўяўляю маладога беларускага інтэлігента 1930-х гадоў. У Вас былі надзеі, былі ідэалы [...].

Пачынаецца апошні месяц лета. Бачыце, як хутка праляцела яно. Як і жыццё чалавечае…

Добрага Вам здароўя!

*Ала*

**6**

*14.08.97*

Вельмі паважаная Ала!

З вялікай прыемнасцю прачыталі Ваш апошні ліст, у якім, як, дарэчы, у кожным, з сардэчнай цеплынёй ставіцеся да нас, простых беларускіх людзей. А таму падзяка Вам за шчырасць.

Асаблівую ўдзячнасць выказваю за артыкул у «ЛіМе» пра маю сціплую кніжачку «Травень». Вашы

прыхільныя словы да мяне і пахвальныя да вершаў выклікалі на вачах слёзы. Вядома, гэта слабасць. Аднак у час катавання ў дэфензіве паны не выціснулі і малой слязіны.

Дзякую Вам за ўсё, за ўсё!

*Анатоль Іверс*

**7**

*18.09.97 г.*

Добры дзень, Іван Дарафеевіч!

Бачыце, пакуль змагла Вам ліст напісаць, то і ў Слоніме пабыла, і па тэлефоне з Вамі пагаварыла. Нечакана гэтак паэт Рудольф Пастухоў паклікаў.

Даражэнькі Іван Дарафеевіч! Дзівіце Вы мяне сваёю сціпласцю. Якія ж гэта Вы — «простыя людзі», як пішаце? Вы — адзін з самых паважаных нашых паэтаў. Вы столькі за плячыма ўсяго пакінулі. Так годна выйшлі з-пад усіх навалаў. І гэта так важна — беларусам засталіся, калі гэту беларускасць з карэннямі ўвесь час вырывалі.

А Ніна Паўлаўна, канешне ж, вартая вас. Ніякія вы не простыя, а сапраўды шляхотныя, інтэлігентныя людзі. Гэта ўжо ў крыві ў беларусаў — такая сціпласць.

Дзякую за добрае слова пра рэцэнзію. Калі мінулы раз яны ў рэдакцыі адсеклі канец, то гэтым разам — пачатак. Але калі не ведаеш, то не здагадаешся.

Здароўя вам, няхай хутчэй папраўляецца Ніна Паўлаўна!

*Ала*

## 8

*27.03.98 г.*

Даражэнькі Іван Дарафеевіч!

Мы з такім захапленнем пішам, гаворым пра багацце нашай мовы, але яна становіцца такой беднай, бездапаможнай, кволай, калі трэба выказаць нешта надзвычай важнае, балючае. Вось і я не магу знайсці словаў, каб перадаць Вам шчырае спачуванне, данесці свой смутак з нагоды Вашай вялікай страты.

І ўсё ж пішу. Каб хоць неяк адгукнуцца на Ваш боль. Каб сказаць, што прыгожы вобраз Ніны Паўлаўны застанецца назаўсёды ў маёй памяці.

Бачыла яе ўсяго пару разоў. Як і Вас. Але Вы сталі мне вельмі дарагімі. Таму і не магла прайсці паўз Ваша гора.

Даруйце мне, як зараз разумею, за не ў час пасланую кніжку. Канешне ж, тады я не ведала, што ў Вас здарылася. Таму і напісала да Вас і Ніны Паўлаўны.

Хацелася б напрыканцы неяк падтрымаць вас, але ізноў жа — няма словаў.

Бывайце.

*Ала*

## 9

*3.04.98*

Мілая, даражэнькая Алачка!

Цудоўную сваю кніжку, якую ты выслала 11 сакавіка, атрымалі 12. Чытаў некаторыя вершы Ніне Паўлаўне — радавалася, хваліла. І наогул, вельмі паважала цябе. А назаўтра — 13 сакавіка — памерла.

Тут было не да адказу на тваю кніжачку. І цяпер не магу дайсці да нармальнага стану. Застаўся ў хаце адзін. Нікуды не хаджу. Не магу хадзіць, сын з нявесткай мяне даглядаюць, за што я ім вельмі ўдзячны.

Стараюся адкідваць невясёлыя думкі, якія апаноўваюць. Нічога не лезе ў галаву, каб напісаць на паперы. Няўжо я зусім развучыўся пісаць?

І вось тваё спачувальнае пісьмо атрымаў у панядзелак. Дзякую. Дзякую, што не забываеш. Я таксама цябе помню і не забуду да самай смерці.

Пра тваю кніжачку многа можна сказаць добрага. Але, бадай, лепш за Дануту не скажаш. Твае вершы такія цёплыя, свежыя, не горшыя за тую прыроду, што апісваеш. А душа твая, з усяго відаць, далікатнейшая за ўсё на свеце. Словам, тваё пісанне — не паказуха.

Вітаю. Жадаю поспехаў.

Чаму не абмовілася пра свой сённяшні дзень?

*А. І.*

У канцы мінулага года напісаў пару дзясяткаў новых вершаў. А ў бягучым часе падабраў ранейшыя вершы, што не ўвайшлі ў зборнікі. Некаторыя вершы прыйшлося папраўляць. Словам, набралася аж 99 штук на 580 радкоў. Уся гэтая прадукцыя напісана ў трох экзэмплярах на машынцы. Не прыдумаў толькі назвы будучай кніжцы. Не ведаю, як гэта ўсё апублікаваць. Каб вершы пабывалі ў руках рэдактара, то годных да друку засталося б менш. І гэта была б нармальная з’ява.

Ёсць у мяне і цікавыя артыкулы, што зацягнула б на добрую кніжку.

Вось такія навіны. Бывай.

*А. І.*

## 10

*11.05.98 г.*

Добры дзень, Даражэнькі Іван Дарафеевіч!

Вы напісалі мне такі прыгожы ліст. Дзякую Вам! Шчыра была ўсцешана, што мая кніжка не спазнілася.

Разумею, як Вам не проста. Але ж якое ўсё ж шчасце, што побач Вашыя родныя. Памятаю, з якім гумарам гаварыла незабыўная Ніна Паўлаўна пра выбары нявесткі і з якім гонарам і дабрынёй пра тую, што стала жонкай Вашаму сыну. Верыцца, што ў Вашай бядзе яны Вас не пакінуць.

Што пра мой сённяшні стан? Вы, пэўна, ведаеце, што стала я зусім невыходной і невыязной. Не проста, канешне, у маім веку спраўдзіць гэткую вялікую справу. Але гэтак жадалася даць жыццё яшчэ аднаму дзіцятку. Ды і муж у мяне, Вы ж ведаеце, — цудоўны чалавек. У хаце задыхаюся. Езджу на лецішча. Крыху капаюся ў зямельцы. Ніколі не думала, што мне, гэткай лёгкай і хуткай, можа быць так цяжка. Хоць, можаце ўявіць, маю каля 70 кг. Агромністая стала.

Шчыра жадаю, каб Вы дачакаліся сваёй кніжкі вершаў (як думаеце яе назваць?), каб пабачыў свет Ваш зборнік артыкулаў! І ўсяго светлага жадаю!

*Ала*

## 11

*3.2.99*

Даражэнькая Ала!

Атрымаў тваё пісьмо з віншавальнай паштоўкай і матэрыялы з «Гродзенскай праўды», якіх я не бачыў. За ўсё вялікае дзякуй.

Я доўга хварэю, не магу хадзіць, паламаў руку, бачыш, як дрэнна пішу.

Я вельмі рады, што ў цябе з'явілася Сонейка — твой сынок Максімка. Глядзі яго, даглядай, каб вырас такім жа шчырым чалавекам, як і ты.

Мала пішу, цяпер крыху актывізаваўся. Пасылаю табе выразку з раённай газеты з апошняй маёй публікацыяй. Але гэта — пра двух Максімаў — было напісана раней.

Канчаю. Бывайце здаровыя. Усяго найлепшага.

*Анатоль Іверс.*

*Міхась МАЛІНОЎСКІ*

# Сумаваць яшчэ рана

Неяк у Крошыне, што на Баранавіччыне, ля паўнаводнай і шчодрай Шчары непаўторны Уладзімір Калеснік крышачку прыпыніўся і пачаў чытаць вершы:

Хтось расчэсваў зялёныя сосны,
Што адкінулі кудры назад.
Аб начах тых смалістых і росных
Я ніяк не магу расказаць.
І хоць сёння ўсхвалёваны ранак
Паліць смагаю мяккую сінь,
Але ўсё ж сумаваць яшчэ рана,
Калі можна падняць парусы!

А потым, нібы правяраючы, спытаў:

— Чые яны?

Не задумваючыся, я адказаў: «Анатоля Іверса, з яго першай кнігі 1939 года «Песні за загонах», а верш называецца «Хтось расчэсваў зялёныя сосны».

Больш таго, вядомейшы беларускі літаратуразнавец і пісьменнік Уладзімір Калеснік здзівіўся, калі я яму сказаў, што гэтую кнігу «Песні на загонах» нават трымаў у сваіх руках...

Што цікава, нараджэнец Слонімшчыны славуты Алег Лойка таксама адзначыў: «Я люблю вершы А. Іверса пра лес: і раннія — «Хтось расчэсваў зялёныя сосны», і сённяшнія яго радкі-прызнанні:

Сярод яловых готык
Заўжды я не чужы...

…Гэты незабыўны дзень, асаблівы тым, з якой любоўю і натхненнем чытаў твор аднаго з маіх блізка знаёмых, паважанага і любімага паэта вядомейшы і дасведчаннейшы даследчык заходнебеларускай літаратуры Уладзімір Калеснік, запомніўся, запаў мне на ўсё жыццё.

Прайшоў час, і я атрымаў ліст ад Анатоля Іверса, у якім ён зноўку запрашаў да сябе ў госці, сярод іншых слоў паэт пісаў: «У Баранавічах на вуліцы Барысаўскай… жыла вельмі добрая для нас сям'я. Муж Уладзімір Арцюх даўно памёр. Сын Яўген з кватэры адышоў, пайшоў па ваеннай лініі, але жыў у Баранавічах. На Барысаўскай засталася адна маці Марыя…». А далей знайсці і перадаць прывітанне…

Праўду кажучы, я і не ведаў, хаця і вывучыў біяграфію паэта, што ён быў жыхаром майго сучаснага горада, што ён працаваў у ім — тадышнім абласным цэнтры. Канешне, я адразу выканаў яго просьбу, а потым і паспяшаўся ў госці.

Дык аказалася, што ў паэта неаднойчы гасцяваў і шчыраваў і Уладзімір Калеснік, як гэта рабілі і Піліп Пестрак, і Янка Брыль, і Алег Лойка, і іншыя вядомыя і славутыя людзі Беларусі. Іван Дарафеевіч Міско паказваў мне здымкі, зробленыя У. Калеснікам — сапраўдным фотамастаком! А побач завіхалася яго жонка — гаспадыня Ніна, якой ён прысвяціў цудоўны верш «Развеяліся хмары» і даслаў мне ў Баранавічы.

…Моцная, верная дружба паміж Анатолем Іверсам і Уладзімірам Калеснікам прайшла не толькі цераз іх жыццё, а як найчасцей здараецца ў творцаў, і цераз іх працы. Так, я чытаю верш паэта «Лясныя дарогі» са зборніка «Прыдарожныя сосны» і выпісваю такія радкі:

Я распытваў у лася,
Ці дудар стаіць, здаровы?
Фыркнуў лось — і казка ўся
Пра прыгоды дударовы.
Не, не ўся. Далей нясі
Праз туманную пялёнку.
І Каляснік між асін
Падхапіў мяне на плёнку.

А ў канцы радкоў ёсць зноска, дзе напісана: «Уладзімір Андрэевіч Калеснік — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар, аўтар некалькіх кніг па даследаванні заходнебеларускай літаратуры». Вось так увекавечыў Анатоль Іверс свайго сябра, тамака ёсць і здымак У. Калесніка, які зняў паэта-сланімчаніна на лясной дарозе…

Я гартаю кнігі Уладзіміра Калесніка і ўсюды знаходжу, што пяро даследчыка «гаворыць» і пра Анатоля Іверса. Уладзімір Андрэевіч адзначае, што «Анатоль Іверс самы значны, пасля Таўлая, паэт з ліку тых, каго вылучыла рэвалюцыйная Слонімшчына ў даваенны час», у матэрыяле «Братанне з Караткевічам» Калеснік піша, які нялёгкі час выпаў пасля вайны Івану Дарафеевічу: «За сталом у Бурсевічаў прыгадалі Іверса і пачалі скрушліва гаварыць пра няўдзячны час, які абрынуўся на яго. Упаўнаважаны ЦК КПБ на Слонімшчыне, нехта Анішчык, блаславіў яго на работу ў Слонімскі магістрат, каб увайшоў у давер ды інфармаваў партызан аб намерах акупантаў. Той сумленна выконваў небяспечныя даручэнні. Улады, пранюхаўшы пра яго сувязь з партызанамі, захапілі і расстралялі жонку сувязнога. Дадам, і не толькі жонку Веру, але і бацьку паэта, абое загінулі і, мабыць, спалены ў печах у сумнавядомым канцэнтрацыйным

лагеры Калдычэва, што ля маіх Баранавічаў. У змаганні з фашыстамі загінуў брат Іверса, бацька жонкі паэта і шмат іншых суродзічаў. Сам Іверс цудам збег з горада ў лес, яго папярэдзіў сябра. Цяпер жа, пасля вайны, яму замест падзякі адмовілі ў даверы, выжылі з газеты, пасадзілі на падсочку.

Я чытаў той загад № 18 ад 31 жніўня 1947 года, дзе паэта звальнялі з пасады ў рэдакцыі «Вольная праца» з 1 верасня. Тадышні рэдактар знайшоў: «Правда, помехой в работе была его беспартийность».

Вось што Іван Дарафеевіч пра тое ўспамінае («Слонімскі веснік», 1996, № 9): «І пасля вайны я не зазнаў спакою. Двойчы выкідвалі з работы. Сакратар Баранавіцкага абкама партыі таварыш Ажгірэй сказаў мне ў вочы: «Работали у немцев. Не внушаете политического доверия». Гэта замест таго, каб разабрацца па сутнасці.

А раённыя падгалоскі пайшлі яшчэ далей. Бачыце, ім не падабалася, што гавару па-беларуску, называлі нацыяналістам».

У Слоніме член Саюза пісьменнікаў СССР з 1940 года застаўся без працы. Яму дапамог з Баранавічаў яго колішні таварыш і друг па гімназіі Уладзімір Арцюх, ён не толькі даў яму працу на сваім прадпрыемстве, але і месца для жыцця ў сваім дамку па вуліцы Барысаўскай…

У адной з маіх папак ляжыць сто пісем Івана Дарафеевіча, гэта вельмі цікавыя і павучальныя лісты нязломнага, бескарыслівага і бескампраміснага чалавека…

…Я перакладваю на сваім стале шматлікія кнігі Уладзіміра Калесніка і падораныя асабіста зборнікі паэзіі самім Анатолем Іверсам і зноў нібы адчуваю

галасы іх абодвух, зліўшыхся ў маім любімым творы «Хтось расчэсваў зялёныя сосны».

З процьмы думак —
Не вытканых кроснаў —
Мне запомніўся ўзор-дзераза…
Былі ночы — іх аблыталі сосны,
Што адкінулі кудры назад.

Ёсць у Анатоля Іверса цудоўны зборнік «Я пайшоў бы ўслед за летам», а мне так карціць замяніць у ім слова «лета» і прачытаць так: «Я пайшоў бы ўслед за Вамі, Паэт!..»

*1998*

*Ірына ВОЙТКА*

# Ушаноўваючы памяць паэта

Івана Дарафеевіча Міско (Анатоля Іверса) успамінаю заўсёды цёпла і з пашанай. Наша першая сустрэча адбылася ў рэдакцыі Слонімскай раённай газеты. Я тады пачынала друкаваць свае першыя вершы ў «раёнцы», і паэт Сяргей Чыгрын, які працаваў у газеце, запрасіў мяне на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання. Памятаю, мы чыталі свае вершы, абмяркоўвалі, будавалі творчыя планы літаб'яднання, шмат спрачаліся і гучна выказвалі свае думкі. Сярод сяброў літаб'яднання былі Анатоль Іверс, Іван Сяргейчык, Рудольф Пастухоў, Алена Руцкая, Васіль Супрун, Алесь Сучок (Пётр Дабрыян), Ігар Падгарадзецкі, Сяргей Чыгрын, Канстанцін Лабко… Асабліва мне прыгадваецца час, калі мы ўкладалі зборнік літаб'яднання «Золак над Шчарай». Шмат розных супярэчных думак было выказана. А Іван Дарафеевіч заўсёды для нас быў кансультантам, дарадцам, вопытным рэцэнзентам. Дзякуючы яму ў газеце была змешчана і нізка маіх вершаў.

Падчас пасяджэнняў літаб'яднання Іван Дарафеевіч шмат спрачаўся, тактоўна абураўся, стараўся заставацца на сваёй пазіцыі, але і любіў паслухаць нешта вартае, змястоўнае, цікавае. Круціў галавой, задумваўся, і было відаць, што ўсе творчыя спрэчкі яму падабаліся. Пасля Іван Сяргейчык у артыкуле «Іду матчыным полем» у «Слонімскім весніку» напіша, як цёпла адклікаўся Іван Дарафеевіч на змешчаныя на літаратурнай старонцы газеты мае вершы.

А яшчэ я лічыла за шчасце выпадкова сустрэць паэта ў горадзе і гутарыць з ім проста на вуліцы, гутарыць доўга-доўга пра ўсё. Такіх сустрэч у мяне было некалькі. І хоць я, у параўнанні з мэтрам, была сціплым пачынаючым аўтарам, Іван Дарафеевіч размаўляў са мной, як з роўнай, дзяліўся ўспамінамі пра ваенныя гады і, здавалася, у думках адлятаў далёка ў сваю маладосць. Успаміны, відаць, хвалявалі яго, ён рупіўся нешта пераасэнсаваць, нешта даказаць і расказаць.

Прайшоў час. Па ініцыятыве пісьменніка Івана Сяргейчыка літаб'яднанне пры газеце «Слонімскі веснік» стала насіць імя Анатоля Іверса. У 2005 годзе слонімскія літаратары выпусцілі альманах «Пад гукі паланэза». Перад тытульным лістом зборніка быў надрукаваны партрэт Анатоля Іверса, а ў кнізе — падборка ягоных вершаў з біяграфіяй. З нагоды 100-годдзя паэта (15 мая 2012 года) сябры літаб'яднання звярнуліся ў Слонімскі райвыканкам з заявай аб наданні Слонімскай гарадской бібліятэцы № 2 імя Анатоля Іверса. Мяркуецца ў Слоніме адбыцца і шэраг літаратурных мерапрыемстваў па ўшанаванню памяці паэта і з юбілеем. А як будзе насамрэч — пакажа час. Тым не менш, памяць пра выдатнага беларускага паэта ў Слоніме жыве.

*2012, студзень*

*Мікола МІКУЛІЧ*

## «Жыву ў бацькоўскім краі…»

### *Станаўленне творчай індывідуальнасці Анатоля Іверса*

Хоць на сябе і не прынята спасылацца, думаючы пра Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско), прыгадваю сваё, сказанае пра яго неяк мімаходзь, як бы паміж іншым: «Не дай Бог каму перажыць тое, што давялося зведаць за сваё жыццё гэтаму мажнаму, сімпатычнаму сваім мудрым спакоем і разважлівай непаспешнасцю чалавеку, на жаль, ужо, як ён сам кажа, «мала хадзячаму». Ледзь не ўсё яно прайшло ў варунках напружанай барацьбы — супрацьстаяння з ідэалагічнымі службамі, існуючымі парадкамі вельмі розных, але ў нечым і блізкіх паміж сабой грамадска-палітычных сістэм, адстойвання сваёй чалавечай і нацыянальнай годнасці. Праз смуту гадоў і дзесяцігоддзяў захаваў і пранёс ён залежы душэўнай чысціні і сумленнасці, вернасць ідэалам праўды і дабра, волі і справядлівасці, красы і гармоніі — людскасці».

Сёння, няхай і не са значнай часавай адлегласці, але на падставе адкрыццяў, якія даюць у многім новую падсветку складанаму і яшчэ да канца не разгаданаму даследчыкамі заходнебеларускаму перыяду нацыянальнай гісторыі, а галоўнае, па меры далейшага асэнсавання пакручастага жыццёвага шляху Анатоля Іверса, паглыблення ў ягоную творчасць і спасціжэння яе своеадметнасці, тое паўстае яшчэ больш акрэслена і выразна. Пацвярджае яго і цікавая

фактура нашай асабістай лістоўнай лучнасці, багатай на шчырыя і дэталёвыя прызнанні і сведчанні паэта. Яны там больш каштоўныя і дарагія, што належаць актыўнаму чынніку гарачых тымчасовых працэсаў і дзей.

Так, Анатоль Іверс — заходнебеларускі паэт, і гэта багата пра што гаворыць нам. Як паказваюць шматлікія дакументы, паэзія-творчасць у той частцы Беларусі, якая паводле Рыжскага міру 1921 года мусіла адысці да Польшчы, была нярэдкай з'явай. Да яе, як формы не столькі аўтарскага самасцвярджэння, як самавыяўлення, спробы нейкім чынам паўплываць на ход грамадскіх падзей ці хоць бы выказаць да іх свае адносіны, звярталіся многія, асабліва моладзь. Уладзімірам Калеснікам і Арсенем Лісам, выдатнымі знаўцамі тагачасных грамадска-культурных варункаў, пераканаўча даказана, якой арыгінальнай і самабытнай з'явай была масавая паэзія Заходняй Беларусі, якую карысную і незаменную місію выканала яна цягам двух міжваенных дзесяцігоддзяў. Анатоля Іверса, гэтаксама, як і шэраг яго старэйшых пабрацімаў, прыкладам Міхася Машару і Міхася Васілька, да актыўных творчых пошукаў і цікавых аўтарскіх адкрыццяў узняла яе вірлівая стыхія.

Давераснёўская творчасць паэта амаль не даследавалася нашым літаратуразнаўствам, мала пісала пра яе і заходнебеларуская крытыка, таму мы ў сваіх нататках асаблівую ўвагу звернем на тымчасовыя шуканні А. Іверса. Гэта мэтазгодна зрабіць яшчэ і з той прычыны, што яго пасляваенная паэзія з'явілася працягам тых характэрных тэндэнцый і заканамернасцей, якія ўвогуле выразна абазначыліся ў творчасці 1930-х гадоў.

Самыя раннія вершы паэта — і тыя, што выкараніліся з-пад пяра ў апантаныя гімназічныя гады, і тыя, што, пачынаючы з помнага 1934 года, сталі патрапляць на палосы заходнебеларускіх газет і часопісаў «Літаратурная старонка», «Беларускі летапіс», «Наша воля» і інш., — яшчэ мала чым іншацца ад творцаў масавых аўтараў — вяскоўцаў і рабочых, сялян-аратаяў і месцічаў. У іх тая ж журботлівая засумленасць і тужлівая шкадоба з нагоды сацыяльнай няроўнасці і вострых нацыянальных праблем у грамадстве, нараканні на долю і непамысны лёс, абурэнне палітыкай польскіх уладных структур і чынавенства, накіраванай на асіміляцыю насельнікаў «крэсаў усходніх», пастуляванне вядомых ісцін і ідэй, лозунгавыя клічы. Разам з тым, нельга не прыкмеціць, што яны вызначаюцца светапогляднай пэўнасцю аўтара, дастатковай выверанасцю яго думак і перажыццяў, трапнасцю многіх назіранняў і характарыстык, каларытнай народнай мовай:

Восень, восень, восень…
Гаманілі дрэвы.
Не шуміць калоссе
шумам і напевам.
Не жартуе ў полі
вецер з васількамі…
Голыя таполі…
Ў сэрцы нібы камень.
Хутка па-над лесам
хмары косы звесяць,
зорную завесу
не расхіліць месяц.
Ды вярнуцца мусіць
вогненная сіла,

што для Беларусі
з сонцам закацілась!

Верш «Восень» (1936) шмат у чым паказальны для Анатоля Іверса. Гэта лірыка-рамантызаваная імпрэсія, пабудаваная па прынцыпе сімвалізацыі звыклых пейзажных канкрэтаў. Твор падкрэслена сацыяльны, драматычна заглыблены, напоўнены засяроджаным роздумам аўтара аб сённяшнім дні і перспектывах будучыні Беларусі. Разам з тым, усё гэта не на паверхні, заяўлена не аголена-публіцыстычна, а прытоена ва ўнутраных структурах твора кантрасным другім планам.

Адпачатку было бачна, што ў кожным канкрэтным выпадку малады паэт імкнуўся пазбегнуць уласцівай масавым аўтарам-самавукам наіўнасці мастацкага мыслення, знешняй апісальнасці ў раскрыцці тэмы, гола-трашчотачнай рыторыкі. І гэта абнадзейвала, давала падставы спадзявацца на далейшую эвалюцыю яго творчай індывідуальнасці.

У той час, калі ў БССР густа высокамовіліся, у тым ліку і літаратарамі, і было ўсё прадвызначана і наканавана у сферы як палітыкі, эканомікі, так і культуры, у польскай Беларусі ўмовы складваліся інакш: роскід думак і ідэй быў шырокі, паэзія была шматстайнай — на розныя ідэйна-светапоглядныя і эмацыянальна-пачуццёвыя густы і кшталты. Дастаткова спаслацца на творчую практыку Казіміра Сваяка і Пілілпа Пестрака, Наталлі Арсенневай і Максіма Танка…

Што тычыцца А. Іверса, то ён быў заангажаваны ў рэвалюцыйным падпольніцкім руху, патрапіў пад абладу кампартыйнага ўплыву. У лісце да аўтара ад

24.10.1995 года ён падкрэслівае, што «КПЗБ карысталася папулярнасцю ў народзе, бо выступала за адкрыццё беларускіх школ, за зямлю для сялян без выкупу, за зніжэнне падаткаў, за дэмакратызацыю мясцовых самаўрадаў і г. д.». Натуральна, што малады паэт летуцеў, гледзячы на Усход:

Песня там пасеяна —
Чую пералівы я…
Зноў пытаю: дзе яны,
Тыя дні шчаслівыя?
І сярпом, і молатам
Шчасце звоніць весела,
Дзе ў краіне волатаў
Волі сцяг павесілі.

Дарэчы, адсюль і яго псеўданім, у якім, на думку А. Лойкі, чуецца «водгулле слоў «Інтэрнацыянал», «рабочы», «селянін». «Адно магу сказаць, — адзначае паэт у пісьме да нас, адказваючы на пытанне адносна паходжання псеўданіма Анатоль Іверс, — што я не хацеў працягваць такія назвы, як Васілёк, Чабор (Патаповіч), якія для паліцыі былі «тутэйшымі», і ёй лягчэй было шукаць аўтараў вершаў. Усе паэты (маю на ўвазе Васілька, Салагуба і Таўлая) прайшлі праз дэфензіўскія і паліцэйскія катоўні. Каталі і мяне, толькі не за вершы, як, напрыклад, Міхася Васілька. Паліцыя так і не даведалася, хто такі Анатоль Іверс» (3 чэрвеня 1994 года).

У гэтай сувязі варта акцэнтаваць таксама дастаткова паказальны факт. У 1931 годзе, часова знаходзячыся ў Мінску і супрацоўнічаючы ў газеце «Звязда», В. Таўлай даслаў А. Іверсу падборку кніг. Сярод іх былі «Лукішкі» А. Салагуба, «Цэмент»

Ф. Гладкова, «Дзесяць дзён, якія ўскалыхнулі свет» Дж. Рыда і інш. «Я быў, як кажуць, на сёмым небе, — прыгадае ён пазней. — Радаваўся за А. Салагуба, які вырваўся з кіпцюроў дэфензівы, і, вядома, што атрымаў кнігі... Прысланыя кнігі прачыталі ўсе мае сябры».

Такім чынам, як можна меркаваць, у выбары стратэгічнага напрамку свайго шляху паэт анітрохі не вагаўся. Прыярытэты тут былі адпачатку акрэсленыя і відавочныя, і мяняць іх не выпадала. Сервелісцкім, духоўна парабкоўскім ягонае слова быць не магло — тое выключалася адназначна. Разам з тым, працэс станаўлення арганізацыі мыслення, яго метадалогіі і псіхалогіі, выпрацоўкі асноў мастацка-эстэтычнай веры, па ўсім відаць, ішоў не проста, супярэчліва, як заўсёды бывае ў творчасці.

Ідэйна-светапогляднаму ўсведамленню і мастацка-творчаму росту і пасталенню Анатоля Іверса спрыялі як яго шчыльная і непасрэдная лучнасць з балючымі рэаліямі рэчаіснасці, так і актыўная вучоба. Тут мы маем на ўвазе не толькі і не столькі традыцыйныя акты падвышэння агульнаадукацыйнага ўзроўню, нейкую асветна-інфармацыйную дасведчанасць, хаця гэта само па сабе таксама істотна. Займаючыся ў Віленскай, Клецкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях (дарэчы, так ніводнай з іх і не закончыўшы з-за натурлівага супраціву этакратычным захадам уладаў), ды і ў пазнейшыя гады, паэт стасункаваўся як са сваімі сябрамі-падпольнікамі, так і з літаратарамі, знанымі грамадска-культурнымі дзеячамі. Сумоўе з імі выхоўвала, спяліла пачуцці, выгрунтоўвала духоўна-эстэтычныя прынцыпы і

крытэрыі. «Лічу шчасцем, што маімі настаўнікамі былі такія выдатныя дзеячы, як Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Сяргей Паўловіч, — карэспандаваў ён аўтару гэтых радкоў снежнем 1993 года. — З цяперашняй дыстанцыі прыемна прыгадаць Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, ксяндза Адама Станкевіча, мастака Язэпа Драздовіча і іншых, каго даводзілася бачыць уласнымі вачыма».

І далей: «У беларускай гімназіі ўпершыню ўбачыў жывых паэтаў Міхася Васілька і Алеся Салагуба. Васілёк прыязджаў у Вільню і выступаў у гімназіі на сцэне:

Не буралом то гне хвайняк,
Не гром з-пад зорнай вышыні —
То моладзь, буйны маладняк
Куе жыцця святыя дні.

Салагуб некалі вучыўся ў нашай гімназіі. Запомніўся ягоны гарачы верш пра вёску:

Люблю цябе, калі ты ў гневе
Замест сярпоў — мячы куеш.
Замест зразаць калоссе нівы —
Начамі будзіш Белавеж».

Усяго гэтага магло і не быць (сёння тое даляглядна бачыцца), калі б не надзвычайная па сваёй знамянальнай значнасці і помнасці падзея — сустрэча з Купалавым словам. Вярнуўшыся з уцякацтва, дзе будучы паэт запачаткаваў спасціжэнне асноў рускай граматыкі, ён мусіў наведваць польскую школу. З ліста да аўтара: «І вось у 1992 годзе мне трапіла ў рукі кніга вершаў Янкі Купалы «Гусляр», якая перавярнула ўсё маё нутро, дала імпульс другому нараджэнню на свет,

на свет роднай беларускай літаратуры, беларускай свядомасці. З той пары я пачаў шукаць кнігі беларускіх аўтараў. Трапляліся творы таго ж Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, Канстанцыі Буйло і інш».

Багатая і шматстайная фактура, што атачала жыццё А. Іверса на самым яго золку, пазней будзе хараша прыгадвацца і асэнсоўвацца ім у шэрагу мастацкіх твораў. Прыкладам, у вершы «Я да Коласа прыйшоў» са зборніка «Прыдарожныя сосны» (Слонім, 1995) яна знойдзе сваё ўвасабленне ў наступных душэўна цёплых вобразах і фарбах:

Я падрос аж на вяршок,
Хоць і хлеба не было.
І да Коласа прыйшоў
Ад Купалы і Буйло.
«На папасе» ў рукі браў
І ганяў каровы ў Мох.
І ад кніжнага дабра
Адарвацца я не мог.
Каб агеньчык запаліць,
Браў красала з капшука.
Прабіраўся за палі
Кветку-папараць шукаць.
Хоць падбіўся і кульгаў
З пастухоўскіх дзён такіх,
А праз казачны курган
Бег дадому напрасткі…

Янка Купала актывізаваў у душы дзесяцігадовага беларуса працэс абуджэння ягонай нацыянальнай самасці, ён заваражыў яго сваёй глыбінёй і праўдамоўнасцю, сілай пачуццёвага ўзруху і выгуковай інтанацыяй, высокай эстэтыкай мастацкага слова.

Неператўзыдзеная эпохатворная місія Купалы будзе адкрывацца А. Іверсу спакваля, цягам дзесяцігоддзяў, а тады раптоўна нахлынула слепкая радасць захаплення. Купала быў блізкі, родны — вялікі і непаўторны, усюдыісны і шчыры. На яго можна абаперціся ў сваіх памкненнях і лятунках, да яго можна звярнуцца ў часіны памрочлівай тугі і бадзёрага аптымізму — у яго можна браць жыццёвыя і творчыя ўрокі… Можна і трэба… Ён быў неабходны «як агонь, як вада». «Сёння, з адлегласці тых далёкіх гадоў, — адзначае паэт у лісце ад 3 чэрвеня 1994 года, — цяжка прыпомніць з кнігі «Гусляр» верш, які найбольш спадабаўся, уразіў. Усе паэтычныя творы (у тым ліку і з папярэдняга зборніка) вельмі даступна паказвалі жыццё селяніна, ягоную долю-нядолю, якім яно было, заклікалі да змагання за лепшую будучыню. І наогул, у вершах адлюстроўвалася жыццёвая праўда, якая не магла не закрануць душу працоўнага чалавека. Гэтым, як ніхто іншы, і быў папулярны ў Заходняй Беларусі Янка Купала. Ды ці толькі ў гэтым. Любоў паэта да роднай зямлі, да народа выклікала ўзаемнасць».

З іншага пісьма, пра трэці на аўтарскім рахунку зборнік вершаў народнага паэта: «Янка Купала, як ніхто іншы, шырока лічыўся ў Заходняй Беларусі паэтычным трыбунам. Яго зборнік «Шляхам жыцця» з'яўляўся настольнай кнігай у кожнай свядомай беларускай сям'і. Магчыма, гэты зборнік вершаў больш прычыніўся да падняцця нацыянальнай свядомасці беларусаў, чым тагачасная нелегальная літаратура. Я. Купала вельмі ўмела закранаў струны душы працоўнага чалавека, а значыць, і пачынаючага паэта ў першую чаргу» (4 ліпеня 1993 года).

Такім чынам, можна смела цвердзіць, што беларускім паэтам Анатолем Іверсам чамяроўскага хлопца з-пад Слоніма Івана Міско шмат у чым зрабіў «бацька нацыі» Янка Купала. Жыццятворны ўплыў каларытнай асобы народнага паэта, яго ладу жыццядзейнасці і поглядаў, праблемна-філасофскай і эстэтычна яркай творчасці на станаўленне мастацкай індывідуальнасці заходнебеларускага аўтара цяжка пераявлічыць. Ён пацвярджаецца выразным ідэйна-стылістычным перагукваннем шэрагу твораў паэтаў, да прыкладу, купалаўскага верша «Вёска» і аднайменнага твора А. Іверса:

Разляглася вёска
Хатамі у рад.
Дзе-нідзе бярозка
Блісне паміж хат.
І вярба часамі
Плача над страхой.
Помсты галасамі
Як гудзе віхор.
Пад саломай хаты,
На саломе мох.
Тут жыве араты
З думкай перамог...
У хатах парожна:
Хлеб тут рэдкі госць.
А ў далі трывожна
Лес шуміць чагось...

Абодва паэты засяродзіліся ў сваіх творах на раскрыцці працэсу гаравітай жыццядзейнасці беларускай вёскі і яе насельнікаў. Іх мэтавая ўстаноўка палягла ў тым, каб растурбаваць душы і сэрцы людскія горычччу, будзіць драматызмам праўды.

У Янкі Купалы малюнак атрымаўся ў пераважнай ступені аб’ектывізавана-рэалістычным, непрыхавана сацыяльным. Ён падкрэслена ўнутрана сабраны, экспрэсіўна-крамяны, згушчаны ў фарбах і адценнях. Тут усё ці амаль усё базуецца на канкрэтах пералічэння. Многае ў вершы названа, але яшчэ болей засталося ў падтэкставым змесце.

У Анатоля Іверса трохі іншае. У адрозненне ад купалаўскай, яго вобразная фактура мае, здаецца, больш адцягнена-выяўленчы характар. Сацыяльная заангажаванасць верша відавочная, але яна матэрыялізуецца не ў папулярнай сярод масавых паэтаў форме гераізаванай рыторыкі, а прытоена за лірычнай апісальнасцю, рамантызаванай пластычнасцю, імпрэсіяй карціны. Здаецца, усё ў ёй рыгарыстычна проста, але якая зместавая ёмістасць і шматзначнасць, якія насычаныя фарбы і як яны кранаюць за жывое! Адчуваюцца не проста замілаванне і душэўны верад аўтара па сваім, адвечным — Іверс, як і Купала, упадае сэрцам у народныя турботы і гора.

За лучнасць з Купалавым словам заходнебеларускаму паэту неаднойчы даводзілася цярпець і маральна, і фізічна. Здзек і прыніжэнне, дэфензіўскія надзараванні і трускі, допыты і катаванні падсцерагалі яго на кожным кроку. «Нельга забыць, — прыгадвае ён у адным з апошніх гутарак з Сяргеем Чыгрыном, — як у 1937 годзе пасля спектакля на вясковай сцэне, дзе я дэкламаваў верш Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны», мяне паклікалі ў дэфензіву. Шпікі катавалі і прыгаворвалі: «Ото тобе, хаме, гімназ’юм белоруске і «беларуская мова!» Як мне тады абрыдла чужая (польская) мова, здаецца, не чуў бы яе ніколі, хоць ведаў, што мова тут ні пры чым».

Запабягаючы наперад, адзначым, што тыпалагічныя сыходжанні з Я. Купалам назіраюцца не толькі ў давераснёўскіх творах Іверса. Класік нацыянальнай літаратуры будзе спадарожнічаць заходнебеларускаму паэту і ў пазнейшыя гады і дзесяцігоддзі. «Імя Янкі Купалы... На ўсіх этапах майго жыцця яно свяціла і свеціць яснай зоркай», — падкрэслівае А. Іверс у артыкуле «Ён адкрыў мне Беларусь», напісаным з нагоды стагадовага юбілею народнага паэта.

Некаторыя вершы Анатоля Іверса, напісаныя ўжо на сучасным этапе, часта шэрагам сваіх зместавых і фармальна-стылёвых аспектаў таксама перагукваюцца з купалаўскімі, у прыватнасці, з творамі ляўкоўскай нанізкі. Падабізну можна заўважыць, напрыклад, паміж вершамі «На калгасным полі» А. Іверса і «Я — калгасніца...» Я. Купалы. Абодва творы сюжэтныя, напісаныя ў форме маналога гераіні. Яны тыпалагічна набліжаны празрыстасцю зместавага плана, эмацыянальна-пачуццёвай згарманізаванасцю, душэўным багаццем і шчодрасцю аўтараў.

«Успамінаючы ўсё, што было звязана з імем вялікага сына Беларусі Янкі Купалы, — акцэнтуе А. Іверс, прыгадваючы свае спатканні з народным паэтам, — занава перажываю тыя непаўторныя дні і мінуты. Нізка кланяюся нашаму настаўніку, які выхаваў вялікую плеяду таленавітых літаратараў. Кожны, хто дакрануўся да яго бессмяротнай паэзіі, душэўна стаў нашмат багацейшым».

Янка Купала быў галоўным настаўнікам і натхніцелем Анатоля Іверса, але дзеля справядлівасці варта адзначыць, што малады паэт на ім не замыкаўся, вучыўся ў многіх пісьменнікаў. У ягоным першым

зборніку «Песні на загонах» (1939) адчувальныя сляды творчай арыентацыі на беларускую класічную і савецкую паэзію (акрамя Купалы — Якуб Колас, Максім Багдановіч, Кандрат Крапіва, маладнякоўцы), найноўшыя адкрыцці ў польскай, украінскай і літоўскай літаратурах, мастацкую практыку некаторых заходнебеларускіх аўтараў, у прыватнасці Міхася Васілька і Максіма Танка. Відавочнае праблемна-тэматычнае і стылёвае перагукванне заўважаецца, прыкладам, між вершамі «Загарэліся іскрамі зорнымі», «На бруку» А. Іверса і адпаведна танкаўскімі «Загараліся шляхі зорныя...», «Хто пачуў тваю песню жалезную...» і іншымі. Асацыятыўна-вобразны змест гэтых і некаторых іншых твораў Анатоля Іверса нагадвае знакамітую метафорыку Максіма Танка («у мяне кожны радок — метафара...»), «хмары цяжкія, кудлатыя», «шумела палоска калоссямі» («Загарэліся іскрамі зорнымі»), «гарачых думак», «мазольных рук», «вёсламі расплёскаць ў попеле зару», «шляхох гусіных», «ярка загарыцца ў сініх кудрах дзень» («Зорныя дарогі»)...

Зборнік «Песні на загонах»... «Вершы Іверса стройныя, лёгкія, мэлёдыйныя, — пісаў у рэцэнзіі на яго часопіс “Шлях моладзі” (1939. № 15). — Тэматыка іх пераважна звязаная з жыццём вёскі, з шумам жыта, паплавамі, соснамі, роднымі малюнкамі, роднай нівай, загонамі. Гэта сапраўды песні на загонах. Паэт выходзе на поле, на безбярэжныя прасторы, на пракосы, “дзе раскідаў свае гады”, выходзе, каб разагнаць тугу, бяду і каб уславіць Беларусь».

Зборнік засведчыў «высокую гатоўнасць сэрца» (Мікола Арочка) паэта, яго грамадзянскую і патры-

ятычную ўстурбаванасць, немалыя літаратурна-творчыя мажлівасці і перспектывы. Чытаеш яго і бачыш, што верх у мастакоўскіх вышуках Анатоля Іверса бяруць не публіцыстычна-агністыя клічы і лозунгі, а лірычныя медытацыі, асэнсаванне падзей і фактаў:

У шуме жыта —
Даль адкрыта.
Над палямі вецер-хват.
Я іду ў туман ракітаў
З цесных вуліц, з душных хат.
Там на полі
На прыволлі —
Шыраня і шыраня.
Мо заглушыць ў сэрцы болі
Залацісты золак дня…

Як можна меркаваць на аснове дадзенага і шэрагу іншых твораў, канцэптуальна паэт меў цягу да гэтак званай міметычнай эстэтыкі — прадметнай канкрэтыкі малюнка, пластыкі суб'ектыўнага выяўлення матэрыялу, сюжэтнага казання. Праўда, гэта не тыя дыстыляваная пластыка і дыхтоўная сюжэтыка ў традыцыйным іх разуменні. У дадзеным выпадку мы маем справу з пластыкай і сюжэтыкай імпрэсіі.

Спалука душэўных перажыццяў, зрокавай рэчаіснасці і рытміка-інтанацыйнай музычнасці давала неблагі эфект. Нярэдка вобразны лад Іверсавых вершаў звяртаў на сябе ўвагу досыць цікавымі і арыгінальнымі знаходкамі і адкрыццямі: «пабарознім камяністую шыр» («З песняй»), восень «з ваўкамі між сосен» пляцецца «пад хату», «рассыпалась звонам — медным лістам з асінаў…» («Восень»), «вецер гай малоціць», «сокал хмары варушыў» («Ці то песні?..»),

«Залацілася раніца ападаючым шэлестам», «восень дробную ймглу на палёх растрасла» («Залацістая раніца»), «далі імгляцца з тугою», «расспяваная медзь пад дугою», «Я век прыкаваны да хаты нядоляю нашай, як раб… Ды з выраем думак крылатых мне будзе іскрыцца зара» («Хтось расчэсваў зялёныя сосны») і інш.

Ў даль па зрэбных каляінах
распаўзліся дні і ночы —
іх збярэ мая Краіна
у вясёлкавы вяночак!
Дзе ні глянь — ўсё сэрцу блізка:
вёска, лес, вузкі палетак.
Пэўна, маці над калыскай
напяяла мне пра гэта.

Гэта — з верша «Над Шчарай». Дні і ночы — расхрыстана-стыхійныя, несабраныя. Але ў іх мусіць быць сэнсатворны стрыжань! Іх трэба збіраць у адзінае цэлае, напаўняць адухоўленым зместам, светлымі ідэйнымі мэтаімкненнямі, жывой канкрэтыкай спраў.

У давераснёўскі перыяд творчасці Анатоль Іверс засведчыў здольнасці майстра пейзажнай лірыкі («Над Шчарай», «І вось ізноў зазелянелі нівы…» і інш.»).

Заігралі ветры ў полі,
Заігралі пераліўна.
І калышуцца таполі
Ў небе ласкавым і дзіўным.
І ўразаецца ў прасторы

Вузкі човен вострым клінам.
А на ўзмежку, нібы мора,
Шумам пеніцца каліна.

Чытаючы гэтыя радкі, адчуваеш, як думкі і пачуцці, закладзеныя ў іх, заходзяць у душу, забіраюць цябе. Можа, і таму, што бачыш: няма тут нічога напаказ, гэта не тая шчырасць і адкрытасць, якую мы называем лёгкаслязлівай. І ў гэтым, і ў многіх іншых выпадках паэтычныя казанні Іверса сімпатычныя сваёй натуральнай нязмушнасцю, яны па-мужчынску стрыманыя і ўраўнаважаныя — самагодныя.

Што датычыць фармальна-стылёвых аспектаў зборніка Анатоля Іверса, паэтыкі, то тут, думаецца, варта згадзіцца з Д. Бічэль, якая адзначае, што ў ім «многа яскравых маладых метафар, рыфма вельмі чыстая, дакладная, нечаканая, паэт не рыфмуе галосныя канчаткі, а знаходзіць звонкія сугуччы карэнных і суфіксальных зычных: прыслаў — растрасла, Карпат — сярпа, на крылах — накрыла, плынь — палын, дзераза — назад, стрэлы — сустрэлі. Лірычны настрой верыць у справядлівасць і гуманнасць заходнебеларускага вызваленчага руху».

Разам з тым у вершах Анатоля Іверса сустракаем сэнсава і эмацыянальна кволыя строфы, гламаздаватыя выслоўі, ускладнена-«кудлатыя» вобразы і метафары: вецер «часам ночы залатую грыву кіне на гасцінец, вытканую з зор» («Зорныя дарогі»), з песняй «пеніцца вецер між ніў у сонца брызгах — чырвонай крыві» («Да жніва»), «хмары воўкам кудлатым паўзуць з-за Карпат» («Залацілася раніца») і інш. Паэт шукаў у літаратуры сваёй дарогі, здаралася,

эксперыментаваў, таму можна зразумець і апраўдаць стылёвыя памылкі і недакладнасці ў яго творах, іншыя выдаткі, тым больш улічваючы ўмовы, у якіх яны пісаліся.

Такім чынам, паэзію Анатоля Іверса 1930-х гадоў на ўлёткі і заклёны не разбіралі, ды і не маглі разбіраць. Як мы адзначылі, яе вартасці ў іншым. У ідэйна-мастацкіх памкненнях паэт быў узважаным, умерана спасцярожлівым, ён спакваля ішоў сваім, досыць выверaным шляхам. Запабегласць і штучнае прыспешванне падзей — не яго стыхія. На глебе яго паэзіі можна было цішыць канфлікты і рознагалоссі, разыходжанні і непаразуменні.

З наступным, другім на аўтарскім рахунку, паэтычным зборнікам «З пройдзеных дарог» Анатоль Іверс істотна забавіўся, выйшаў ён ажно ў 1970 годзе. Чым можна патлумачыць тое? Адказ не сказаць, каб палягае дзесьці на паверхні, але і не тоіцца ў смузе памрочлівай далёкасяжнасці.

Мы адзначалі, што ліпкія віжаванні шпікоў, дэфензіўскі пераслед (паэта «тройчы судзілі», ад вязніц яго цудам ратавала амністыя) не дужа спрыялі творчасці А. Іверса ў 1930-я гады. Што ўжо казаць пра ваеннае ліхалеццe, якое забрала з сабою яго бацьку, жонку і брата — самых блізкіх людзей. Ці да паэзіі было?! Вершы давялося адкласці да лепшых часоў, дый не цягнула да іх.

Здавалася б, творчасць Анатоля Іверса па-сапраўднаму павінна была разгарнуць свае крылы ў першыя паваенныя дзесяцігоддзі, але таго не здарылася. Паэт ніколі не гнаўся за колькасцю літаратурнай прадукцыі, рыфмаваным шырспажывам — гэта па-першае.

Па-другое, як ні дзіўна, нялёгкія часы насталі для яго з усталяваннем савеччыны, камунізацыяй працы і грамадска-сацыяльных парадкаў. Праўда, спачатку надзеі былі вялікія, будучыня, як быццам, шмат абяцала:

Мы дратоў парвалі павуцінне,
Разламалі краты на акне.
На шырокі выйшаўшы гасцінец,
Адчуваю — ўсё цяпер пры мне.
Прада мной цудоўны край, шырокі,
З безбярэжжам неба і палёў!
Толькі скінуць трэба ўсе абломкі,
Вырваць з коранем асот-быллё...

У многім тужліва-змрочнымі ад «палітычнага недаверу» жыццёвымі пуцявінамі давялося крочыць Анатолю Іверсу ў пасляваенныя гады. Новыя ўлады адпачатку паставіліся да яго з вялікай падазронасцю. Прычынай таму, відаць, заходнебеларускае мінулае паэта, а таксама праца вайною ў Слонімскай гарадской управе. Пад сумненне была пастаўлена разведчыцкая дзейнасць усіх структур Слонімскай міжраённай антыфашысцкай арганізацыі, кіраўніком якой ён пэўны час з'яўляўся. Гэта замест таго, каб адразу ўнікліва разабрацца ў яе шматлікіх падпольніцкіх патаемах і своечасова аддаць належнае актыўным чыннікам патрыятычнага руху. А так, на жаль, не абышлося без вялікіх людскіх крыўд і незагойных душэўна-маральных траўм.

Паспытаць А. Іверсу давялося шмат чаго: яго беспадстаўна звольнілі з працы спачатку ў рэдакцыі раённай газеты, а потым з пасады сакратара гарсавета, выключылі з Саюза пісьменнікаў... Як на нейкага рэт-

ра-арыгінала, глядзела на яго дробнае чынавенства, прысланае з усходу. Яшчэ б, жывучы на бацькоўскай зямлі, чалавек не паступаўся сваімі маральнымі каштоўнасцямі і патрыятычнымі перакананнямі, усюды размаўляў па-беларуску. «Я заўсёды гаварыў на сваёй роднай мове, — прыгадвае ён. — Называлі мяне нацыяналістам або ў лепшым выпадку “той, хто гаворыць па-беларуску”. Мяне не арыштоўвалі, хоць дапытвалі больш чым паўсотню разоў».

У. Калеснік, несумненна, меў рацыю, калі пісаў пра паэта: «Простая і цвёрдая сумленнасць змалку год уладарыць над яго жаданнямі».

Анатоль Іверс добра бачыў і ўсведамляў, што ўсялякае імкненне адкрыта супрацьстаяць усёй гэтай навале ва ўмовах знямелага і аглухлага грамадства мае досыць хліпкі шанц, а таму найбольш засумлена маўчаў. Журбаваць было ад чаго…

Гэтаксама, як і папярэднія гады, у паваенным часе, калі паэт пасля трагічных страт крыху акрыяў і палюдзеў, талент яго сілкаваўся любоўю да роднай зямлі, верай у народныя сілы, глыбокімі патрыятычнымі перажываннямі. У гэтым плане красамоўныя радкі верша «Роднаму краю»:

Усё тут пеpажыта:
Вайна і звон акоў.
На полі — жыта, жыта
З вачамі васількоў.
О край бацькоў, пацеш ты,
Дай кропель дажджавых,
Дазволь па роднай сцежцы
Ісці, пакуль жывы.
Кастрычнікам ці маем,
Як сонца, грэй, свяці.

А ўсё, што ў сэрцы маю,
Табе я прысвяціў.
Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць.
Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

Складовай часткай патрыятычнай лірыкі А. Іверса з’яўляюцца пейзажныя вершы, у якіх ён найчасцей шукае збавення ад жыццёвых нягод і расчараванняў. Прылучэнне да прыродных таямніц, адчуццё на сабе іх чараўнічай аблады для паэта ёсць абрад свяшчэннадзейства. Ведаючы асаблівасці біяграфіі А. Іверса, тое, што ён сямнаццаць гадоў аддаў працы ў хімлясгасе, можна смела сказаць, што паэт лячыўся прыродай, у прыватнасці лесам, сустрэчы з якім заўсёды выклікалі ў яго душэўнае хваляванне:

Лісцё на ўтоптанай сцяжыне
Гарыць як жар: не наступі!
І з хвой плыве смала бурштынам,
Нібыта мёд хто растапіў.
Іду я ў мройлівую просінь
Цераз сасновы маладняк.
А навакол шугае восень
Лагодным подыхам паўдня...

Паэт натуе фарбамі. «Жывыя малюнкі, эксізы! Іх буду да смерці нясці: Прырода, як песня, без візы Па ўсім маім ходзіць жыцці!» — гэтыя радкі з верша «Вера» (1960) успрымаюцца як яго мастацкае крэда.

Мы адзначалі, што вершы Анатоля Іверса пасляваеннага перыяду сведчаць аб далейшым развіцці ідэйна-эстэтычных традыцый, запачаткаваных яго

паэзіяй 1930-х гадоў. З іх паўстае духоўна багатая асоба, надзвычай чулая і ранімая душа аўтара.

Зборнікі «Жыву ў бацькоўскім краі» (1982, выбранае), «Я пайшоў бы ўслед за летам» (1987), «Прыдарожныя сосны» (1995) і «Травень» (1997) разнастайныя па сваім праблемна-тэматычным змесце, цікавыя і адметныя ў фармальна-стылёвым плане. У іх можна знайсці многае з таго, чым жыве наш сучаснік, чалавек, які актыўна дзеіў яшчэ «за польскім часам» і да сённяшняй незалежнасці Беларусі ішоў праз ваенную халепу, замець сталіншчыны, хрушчоўскую адлігу, застойныя гады і перабудову…

Анатоль Іверс прыгадвае пачатак сваёй нялёгкай дарогі («Пачатак шляху»), успамінае жыццё пад Польшчай («Сонца і краты») і партызанскае мінулае ( «Лясны паклон», «Хадзілі мы паходамі…»). Вершы ў фальклорным стылі («Пакасілі мае…») суседзяць у яго зборніках з засяроджанымі развагамі адносна балючых праблем сучаснасці, ролі і прызначэння мастацкага слова ў жыцці народа («Паэзія»). Іверс з любоўю і замілаваннем гаворыць пра свой родны Слонім, з якім столькі ўсяго звязана («Мой горад», «Слонім — мой родны горад»), шчыра радуецца першаму снегу («Першы снег») і працоўным дасягненням краю («Над картай рэспублікі»). Ён паэтызуе запавешчаную папярэднікамі спадчыну, з падкрэсленай павагай ставіцца да мінулага свайго народа, нацыянальнай старадаўшчыны, памяці сяброў («Скарына», «Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько», «Валянціну Таўлаю», «Вуліца Івана Дабрыяна» і інш.). Галоўнае ў яго творах не адлюстраванне падзей і працэсаў, а іх лірычнае пераўвасабленне, рамантычныя ўражанні ад іх і пачуцці аўтара. Шы-

рыня мыслення, вобразна-метафарычная свежасць і прасторнасць дапаўняюцца ў Іверсавых вершах прадметнай рэчыўнасцю малюнка:

Расхіліла маці рукі,
І ступіў я першы крок.
Для далейшае навукі
Гэта быў і першы ўрок.
А вясна шугала ўсюды,
Разлівала белы цвет.
Дзе ні глянь — краса і цуды,
Дзе ні глянь — шырокі свет.
І ў даль клікаў свет шырокі,
Ветрык жыта хваляваў.
А я ставіў свае крокі
Ад парога да хлява.
І заўсёды не хапала
Мне разгону на двары.
Птушкі ж носяцца з запалам
Аж да сонца, што гарыць…

«Узвышанасць, адчуванне дыхання зямлі, — пісала Данута Бічэль з нагоды 70-годдзя паэта, — імкненне прыроды да сонца, да ўзнаўлення і красы, гарманічнае паяднанне істоты і прыроды, імкненне натуры да мыслення і дабраты, да шчасця, філасофская разважлівасць — «адчуваю — ўсё цяпер са мной», прасякнутая чыстасардэчным адчуваннем ненасытнасці і несупакоенасці сэрца, — такія настроі пасляваеннай лірыкі Анатоля Іверса». А ў вершы, прысвечаным яго нядаўняму васьмідзесяціпяцігадоваму юбілею, яна адзначыла наступнае:

Хвала, Юнача, о, хлопец-задзіра,
Хто на гаркоце, на чэмеры вырас,

Песняй назваўся па-простаму Іверс!
Хай жа ўзлятае Ён-Песня пад столь,
Песняй усім нам загойвае боль, —
Класік жывы і Паэт Анатоль!
Мы яго любім заўжды і цяпер.
Чыстая наша любоў, як бязмеж.
Іверс гучыць гэтаксама, як верш.

*(18.05.1997)*

Радасна ўсведамляць, што Анатоль Іверс жыве, актыўна працуе, творыць, і нас чакаюць новыя сустрэчы з ягонымі вершамі. Красамоўныя ў гэтых адносінах радкі верша-адказу паэта Д. Бічэль, у якім ён асэнсоўвае свой жыццёвы і творчы шлях:

Вёску назвалі маю Чамяры
Продкаў далёкія продкі.
Можна прамовы аб тым гаварыць,
Лёс жа іх быў несалодкі.
Чэмер — атрутная ў лузе трава.
Там і сяліліся людзі.
Трэ было з нэндзай пякучай трываць, —
Шчасце наперадзе будзе.
Колькі стагоддзяў тапталі зямлю
Процьма салдатаў і зброду!
Кожны з іх кляўся: «За праўду! За люд!»
Кроў выціскалі з народа.
Часам бывалі і пробліскі дня:
Школы свае адкрывалі.
Гэты цяжар і цяпер не падняць —
Коцяцца цёмныя хвалі.
Працы, што канула ў бездань, шкада,
Жаль патрыётаў, што палі.
Будзем і вершы, і песні складаць,
Сонца, дзе трэба, запалім.

Вось залічыла Данута мяне
Ў класікі, — гэта залішне.
Змусіла ў старасці пачырванець, —
Я ж не рабіна, не вішня.
А Чамяры скажуць слова сваё
Перад Айчынай і светам.
Вырасце болей вучоных, чым ёсць,
Болей мацнейшых паэтаў.

*Мікола АРОЧКА*

# Сосны, авеяныя трывожным лірызмам

## *Пра кнігу Анатоля Іверса «Прыдарожныя сосны»*

Анатоль Іверс, сёння адзін са старэйшын нашай паэзіі, родам з недалёкіх ад мяне ваколіц, прыслаў мне са Слоніма свой лірычны дарунак — зборнік вершаў «Прыдарожныя сосны». Увагу спыняюць выхадныя даныя — нялёгкія прыкметы нашага часу: Слонімская друкарня, спонсар — слонімскі лясгас, тыраж 1000 асобнікаў. Кошт не пазначаны. 1995. Сшытачак вершаў. Паэзія шукае рэгіянальных магчымасцяў светапабачання, нейкага выйсця да чытацкай душы беларуса. Абставіны ў чымсьці нагадваюць тыя, калі выходзіў першы зборнік маладога аўтара «Песні на загонах» (Вільня, 1939), хоць часіны таго страшэннага асіміляцыйнага ўціску здаваліся — цяжэй не прыдумаеш, горшае немагчыма…

Ад тых горкіх дат, калі ў бунтоўным сэрцы маладога паэта са Слонімшчыны нараджаліся вершы для заходнебеларускага друку, прабегла звыш шасці дзясяткаў гадоў. Аднагодак і сябра Максіма Танка, сябра Валянціна Таўлая, свайго земляка, Анатоль Іверс здабыў ужо тады адметную танальнасць вершаў — задушэўны лірызм, мяккую свежасць калёраў, прынесеных як бы непасрэдна з кута лесавіка. Замяшаныя на рамантычнай веры ў «зорны час» Бацькаўшчыны («Гэту веру ў сэрцы запаліў сам Два-

рчанін»), Іверсавы вершы перагукваліся не толькі з творамі рэвалюцыйна-вызваленчага накірунку, але і цесна судакраналіся са спавядальнасцю паэзіі Н. Арсенневай, Л. Геніюш, У. Жылкі, давалі моцы другому паэтычнаму крылу, без якога птах паэзіі не меў бы такой уздымнасці.

Прыроджаная ўласцівасць лірычнага дару Іверса сёння пазбавілася сімвалічнай павалокі і міражнай смугі, нібы прасветлены бор у поўдзень. Змяніліся парубежныя пункты агляднасці: было — адтуль, з прывіднага чакання сонца на ўсходзе, сёння ж — туды, зваротнымі шляхамі пазнання былой рамантычнай мэтаімкнёнасці. Рэльефна акрэсліліся дэталі, нібы верставыя слупы («А думка пра вясну не аднаму у скронь калола…). На шляху маладосці («Звінеў ланцугамі тут Пестрак, Таўлай у кайданах хадзіў»), ва ўспаміне далёка не настальгічны ўздых паэта — з высокай гатоўнасцю да працягу патаптанай справы:

Маладосць мая цяпер далёка,
Як яна спатрэбілася б тут!

Каб адчуць сталенне лірызму А. Іверса, варта прыпыніцца на трох жыццёва-паэтычных «лесапалосах» у зборніку. З часоў маладосці ў творах захавалася чуйная выхаванасць узаемаадносін з прыродай. Трэба ж сёння так пранікліва мовіць: «Каб з бядою на сцяблінцы тонкай не была расінка ні адна». У такіх прызнаннях — пяшчота ашчаднага дотыку да спрадвечнага хараства ніў, лясоў («Каб калоссе беражліва вецярочак варушыў»). Уражаны з маленства навакольнай красой, паэт спрабуе лячыць свежыя і старыя раны, што ятрацца, яе гаючнасцю, ён ідзе да

запусцелага хутарскога котлішча, куды з Чамяроў перасяліліся бацькі яшчэ за польскім часам — тут, у лясной заглушы, яго чакала столькі трагічных удараў лёсу («Я абабег навокал той хутар, як звярок. Няма… А вецер свішча…»). А ён жа, лірычны герой, «ані зайца, ані ліса не забіў ніколі тут… Не зламаў галінкі нават». Непарушны яго прынцып сужыцця з лесам: «З дзяцінства павялося: у лес іду з дабром. Сустрэўся мірна з лосем…». Разам з першароднай красой дзівосаў паэта вабіць да канца не разгаданая таемнасць: «Устае птушыны хор з таямнічага прадоння», ці ў другім месцы: «Мяне кліча перагуд, саснякоў жыццё і тайна».

Як жа безразважна вытоптваць, пускаць пад корань гэту красу таемнасці, над якой, як над крынічнай бруёй, сям-там перакінута яшчэ хісткая жэрдачка — па ёй можа хадзіць толькі ашчадная, часам гарэзная ўцеха («Лясы і пералескі. Рамонкі і багун. І рэчку пералесці па жэрдачцы магу»). Ды што таму прагматычнаму, гусенічна-спажывецкаму веку-асушальніку да нейкіх там крохкіх жэрдачак — ён няшчадна плазуе берагі быцця, зрэзвае-гарбаціць пласты ў квецені нават тады, калі можна прыўзняць паліцу бульдозера («праклаў па балоце дугу трактарыст, не падняўшы жалеза»). Кантрасты дзікуннай безгаспадарчасці закранаюцца сёння многімі. Але ў Анатоля Іверса, спадчыннага сына лесу, сведчанні кладуцца ў радкі асабліва кранальна і ўражліва («Валобрынка»):

Як быццам луг у каранціне —
Састрыглі дрэвы ўздоўж ракі.
І мне нібы падкарацілі
Кусок жыцця і дзве рукі.

Крывавая паласа, што моцна пацерабіла лес і асабісты лёс паэта, з'явілася ў вайну, калі хутар бацькоў стаў партызанскім, расчыненым для начовак і днёвак лясных вояў, для таемных явак і сустрэч сувязных. Родных людзей — бацьку Дарафея і жонку Веру — паліцыя асачыла на хутарскіх сцежках-сувязях па даносе бургамістра раёна. Іх кінулі на пякельную згубу ў лагер смерці Калдычэва. Цудам уратаваўся ад даносу з тых жа ўчэпістых рук сам паэт, які па заданні падполля служыў тады ў слонімскім магістраце. «Толькі свет не можа без дзівосаў — той данос разведчык мне прынёс». З тых дзён пачаўся лясны летапіс паэта-мсціўца, кіраўніка Слонімскай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі. Вершы «Прыдарожныя сосны», «Звініць каса на дзічцы», «Заверша», «Радыстка», «Разведчыца», «Калдычэва — Курапаты» — толькі частка той пажыццёвай ношы сведчанняў, якімі суровы час «наўючыў» паэта і не здымае і сёння іх з плячэй. Прыгадваецца самаадчуванне ў золкім лясным прытулку — вось некалькі скупых кідкіх штрыхоў («Заверша»):

Толькі ёсць пара святая.
Прачынаюся — жывы!
І навокала світае.

Але пякельным дымком пацягвае з таго світанку — «у туманы ўеўся дым»! А з ім — едкае, як дым папялішчаў, усведамленне: у народзінах дня барвова спеюць непрадбачаныя выпрабаванні… Псіхалагічна тонка перададзена інтымная ашчаднасць двух партызан пры суправаджэнні радысткі — тут і «падабрэласць» у прысутнасці дзяўчыны, і кварта бярозавага соку на траіх («Радыстка»):

Дзяўчыну ніяк не падзеліш —
Нясу, як дзіця, цераз брод.
І кроў прабягае па целе
Гарачым, жывым серабром.

Такое — калі здаралася — было нібы прасветліны ў «страшнай казцы». Цікава, што і тады, стаіўшыся пад якой-небудзь ялінай, паэт не цураўся лірычнага сузірання і роздуму пра існасць чалавека: «Колькі люду палегла... Мудрацоў і нягеглых...». А колькі было, урэшце, уратавана соснамі ці нават кустоўем. Даючы прытулак, лес гадаваў помсту, а некаторых — і проста перахоўваў. Усяляк было. «Ну, не так усё проста, як малююць цяпер». Адчуваецца, як паэт перадумвае, кранаецца незагойнага. Асацыяцыі то разбягаюцца па фактах цярпенняў, то канцэнтруюцца на незагойна сваім — чаго нельга адпакутаваць. І мы проста не можам не суперажываць, калі бачым сапраўднае гора чалавека, які ў Калдычэве, «між дрэў шурпатых», схіляецца над астанкамі бацькі і жонкі ў брацкай магіле: «А знямога чорнай хмарай навалілася на цемя...». І ў гэты момант трэба ж падкрасціся асацыятыўна-вусцішнай паралелі, якая знячэўку агаліла як бы другі полюс таталітарных злачынстваў: «Ад здранцвення застываю: ёсць у нас і Курапаты...». У роздумным шэпце гэтых словаў, што вымаўляюцца родным чалавекам над трагічнымі ахвярамі, становіцца да болю адчувальнай і правамернай такая паралель. Палярныя полюсы змыкаюцца.

Аднак з тых вогненных часоў хвост зламысных намоваў пацягнуўся за паэтам у новую «лясную» паласу. Канцлагерам, брацкім магілам і ў пасляваенныя гады, здавалася, было ўсё замала ахвяр.

ГУЛАГ пагрозна навіс над безабароннай постаццю паэта, нядаўняга ляснога мсціўца, антыфашыста. Рэпрэсіўнасць абмежавалася затачэннем яго не на лесапавалы Сібіры, а ў свой рэгіянальны ссыльны кут — на тыя ж лесапавалы, расцяробы, раскарчоўкі («Па вайне… ізноў у лес: нарыхтоўваць пні, жывіцу»). Спазнаў ён тут майстэрства смалакурань, чанаў з кіпенем — уздымаўся па прыступках… прафесіяналізму: ад раскарчоўшчыка-смалакура да майстра смолзавода, тэхнолага лесахімічнага комплексу… Шкада толькі, што сярод вершаў, прысвечаных таму лясному этапу, у зборніку не змешчана фота, зробленае У. Калеснікам у 1965 годзе: Іван Дарафеевіч стаіць каля смалакуранага халадзільнага чана… Што ні кажыце, а сённяшняе права на спонсара ў асобе Слонімскага лясгаса паэт здабыў уласным мазалём…

Той хвост хлусні з боку сваіх самаедных «цямцяўлямцяў» адпаў. Ды не адпалі, усё не адступаюцца пастрашлівыя прывіды з таго часу: «Засну — дзікі крык лезе ў вушы, пацею ў кашмарным ГУЛАГу…». Паралелізм зноў-такі выпакутаваны. Найгорш было бачыць, як у лясныя скарбы, у іх красу ўрывалася рабаўніцтва, накшталт таго, што калісь было засведчана Максімам Танкам («На пероне», «Плывуць стругі!»), толькі кірунак змяніўся на супрацьлеглы («На Шпаковай гары»): «А дзе ж сосны? Іх шалёна не адна піла зразала — эшалон за эшалонам расплываўся за вакзалам». У Танка: «Гляджу і гляджу з-пад рукі, як моладасць нашу вывозяць»). Аналагічны горкі ўздых і ў другім вершы А. Іверса («Мяне кліча перагуд») з належным удакладненнем: «пацякла ў Маскву рака: марка, фунт, зялёны долар. Засталіся на руках мазалі, пустая доля. Бо былі мы пад пятой,

загадалі — пустку робім» — тут акцэнтаваны двойчы менавіта той корань («пуст»), гледзячы ў які (амаль па Пруткову), паэт глыбока бачыць сваім відушчым зрокам і не хавае свае тугі.

А ўсё ж ці не занадта гэта — «пустая доля»?

Ды паэт не перастае даводзіць: вось лён у квецені — «сініх кропелек мільён», радкі верша («Даматканыя кашулі») сцелюцца натуральна, бездакорна, гожа, як радкі лёну («Потым выспелы лянок церабілі рукі ў поце, малацілі і ля ног рассцілалі на балоце») — і раптам падступае пытанне: дык чаму ў нас сёння «кужаль-бель не раскашуе»? «Дзе ж падзеўся цуда-лён?» У адказе — свядомая пераклічка з лёсам лесу: «Стаў валютаю ўжо ён на карысць не тых, хто сеяў». Лірычны талент паэта раніцца ад дотыку да цяжкіх сацыяльных праблем, якія немагчыма моўчкі абмінуць. У адну ўзаемазалежную повязь вяжуцца пачаткі чалавечыя, сацыяльныя, карэнна нацыянальныя. Безаглядная няшчаднасць, рабаўніцтва перарастаюць у канфлікт сацыяльны, у якім і кроўна-жыццёвыя пытанні нацыі. Як, напрыклад, у «Нашым слове», дзе лірызм працуе з гранічным агаленнем стану рэчаў, кідка, уражліва:

Жаўрук між воблачных праталін
На сваёй мове нас заве,
А на зямлі маю стапталі…

Пытанні накшталт такога — «Няўжо я не дома жыву, што мова чужая наўкола?» — сапраўды лёсавырашальныя. Зусім не дзіва, што яны, як кажа паэт, нібы «балючыя ўколы» «ў сівую маю галаву». Можа наваліцца «на цемя» разгубленасць і роспач («Сказаць, што мне сумна, — не тое…»). Пытанні да-

тычаць сэнсу жыцця, мэты. Неадступная туга — на доўгія дзесяцігоддзі — гэта яшчэ не безнадзейнасць справы, у якую ўкладзена жыццё. Паэт разумее гэта. Ды ўсё ж ён — жывы чалавек, каб лёгка пагаджацца з адназначным падрахункам. Аглядны позірк на шляхі-здабыткі часам не дае належнага суцяшэння: «І хачу спытацца: што я маю, хіба восем тых дзясяткаў год...».

Суцяшэнні збоку не патрэбны паэту такога веку. Вагу свайго эстэтычнага сумоўя, пэўна ж, ён і сам адчувае. Такі лірызм, вынесены з усіх пеклаванняў пражытага, не растрачаны ў самых вабных чалавечых рысах, дужа патрэбны сёння і будзе патрэбны ў будучым як самапазнанне беларускай душы, як апірышча. Вось жа і на гэтым высокарубежным этапе ўсё тыя ж «колеры чароўныя» лірызму ўспыхваюць пераменнымі барвамі першароднага агню — і з радкоў не стамляюцца прарастаць, нібы з кожным поклічам вясны, свежасць травы-зуброўкі, дзеразы, што, выпаўзаючы, «ловіць за нагу», казельчыкаў, зязюльчыных панчошак, — яны не проста адцягваюць «з грудзей тугу», бо яны ўжо не толькі дары лесу, але і дары шчодрай душы паэта, яго праніклівага і трывожнага лірызму.

У сваёй жыццёва-лясной вандроўцы сярод адвечнай таемнасці і ашчаднага дотыку да красы паэт кажа: «Мо прайду яшчэ вярсту, заблуджуся хоць на трошкі». Не адну — хай жа многія вёрсты!

*1996*

*Данута БІЧЭЛЬ*

# І чую сіл прыліў...

## *Пра кнігу вершаў Анатоля Іверса «Жыву ў бацькоўскім краі»*

Чытаю зборнік Анатоля Іверса «Жыву ў бацькоўскім краі», які выдадзены да сямідзесяцігоддзя паэта са Слоніма з прадмовай Алега Лойкі, і «Літаратурную старонку», часопіс, у першым нумары якога за студзень 1934 года на 14 старонцы надрукаваны першы верш Анатоля Іверса «Вёска». І пад «Дэкларацыяй групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі» — мужным публіцыстычным артыкулам, дзе, можа, болей паэзіі, чым ва ўсіх вершах «Літаратурнай старонкі», — ёсць таксама імя Анатоля Іверса побач з імёнамі Янкі Чабора, Міхася Васілька, А. Рэдзькі, Петруся Граніта, Звестуна. Пра сваю долю пісалі ў «дэкларацыі» заходнебеларускія паэты.

Зайздросны лёс — упершыню надрукавацца ў такім гістарычным часопісе! Анатолю Іверсу пашэнціла і на літаратурных сяброў: з Валянцінам Таўлаем вучыўся ў Віленскай гімназіі, не раз слухаў, як чытае вершы са сцэны Міхась Васілёк. Іван Дабрыян і Феакціст Міско — яго сябры па барацьбе. У Іверса ёсць «Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько», закатаванага паліцыяй зусім маладога заходнебеларускага хлопца:

— А чаму? — пытаюся.
Кажуць: — Бальшавік.

Можа, ты пакаешся?
— Не! Я не прывык.

У новым зборніку ў раздзеле «Новыя вершы» ёсць паэма «Вуліца Івана Дабрыяна», пазначаная 1978 годам, у якой Іван Дарафеевіч вельмі добра прадэманстраваў уменне ўплятаць у рыфмавы тэкст хаду падзей, лаканічна, напружана апавядаць вершам. Падзеі падаюцца іменна паэтам (празаікі гэта робяць зусім інакш):

Мінаў шпікоўскія рагаткі,
Ад завірухі, цемры слеп.
І раптам — сыты і багаты,
Бо перайшоў на панскі хлеб.

Што мне падабаецца ў паэзіі Іверса, дык гэта ўменне па-майстэрску не губляць пачуццё гумару, гаворачы пра драматычныя падзеі.

У першым зборніку «Песні на загонах» (1939), які складае першы раздзел новай кнігі, пераклыжоўваюцца дзве рамантычныя плыні: гнеўная публіцыстычная і аптымістычна-лірычная. Адвечнае змаганне селяніна з нястачай і несправядлівасцю робіць песню паэта сумнай, пакутлівай:

Не пыталі, ці зжата, ці скошана,
Ці хоць дзве засталіся гарошыны.
Не пыталі, ці ў пору пасеяна,
Ці ў гумно хоць прывезена сеніна.
Засталіся пяць пар вочкаў сіненькіх...

Каб увесь час не думаць пра гора і нястачу, паэт шукае аптымістычны зарад у праявах роднай прыроды, прырода дае лірычнаму герою сілу, спакой, адпачынак, забыццё.

Рэха няслося,
Звінела па лесе.
Спуджаным лосем
Пеніўся месяц.

Забыццё было не поўнае, у прыродзе паэт шукае адказу на злабадзённыя пытанні: «Нешта ж гавораць аб будучай долі шэлесты зораў...».

Сярод вершаў той пары шмат каструбаватых, неахайных, але вельмі прывабны гэты рух прыроды, парыў, імкненне, дзе «вецер гай малоціць», «зоры мяцеляцца», а «сонца паліць залатыя бровы». Такіх вобразаў з бунтарскай стыхіяй вельмі многа ў іншых заходнебеларускіх паэтаў, напрыклад, у Міхася Васілька ёсць такі зварот: «Вы душы юнацкія, зоры пад сонцам», або: «Чорнай курыцай на стрэхі села ноч і клюе, клюе рассыпаныя зоры... На мурзатым небе пасмамі, як след, разаслала залацісты сонца лён». Я прачытвала пачатак і канец верша Міхася Васілька «Ходзіць гора» са зборніка «З сялянскіх ніў».

У першым зборніку Іверса многа яскравых маладых метафар, рыфма вельмі чыстая, дакладная, нечаканая, паэт не рыфмуе галосныя канчаткі, а знаходзіць звонкія сугуччы карэнных і суфіксальных зычных: прыслаў — растрасла, Карпат — сярпа, на крылах — накрыла, плынь — палын, дзераза — назад, стрэлы — сустрэлі. Лірычны герой верыць у справядлівасць і гуманнасць заходнебеларускага вызваленчага руху.

Другі раздзел — з кнігі «З пройдзеных дарог» (1970). Вялікі быў разрыў паміж дэбютам і другім зборнікам паэта.

Новы гераічны сэнс быў у вершах Іверса-партызана — купалаўскі вобраз арлянят: бацька і сын

паляцелі ў лес, каб частаваць кулямі няпрошаных гасцей. У баладзе «Ліст у Нямеччыну» зноў трагізм крыху здымаецца наіўнай прастадушнасцю, з якой звяртаецца сябар да вязня:

Ці чуў ты, таварыш, пра тое,
Што нашае вёскі няма?

З цвёрдасцю паэт выказвае веру ў перамогу над ворагам:

І за лесам, і за садам
На глухой шашы
Партызанская засада —
Не мінеш, фашыст.

У пасляваенных вершах рэаліі партызанскай барацьбы не пакідаюць Анатоля Іверса. Верш «У лесе» ён канчае такімі радкамі: «На шляху ўбачыш — клёны прабіраюцца ў горад». Клёны «прабіраюцца», як партызаны. Спрадвечная тэма верша «Жураўлі», а паэт адолеў укласці ў гэты верш свой шчымлівы і радасны настрой, знайсці свае простыя і шчырыя радкі, вобразы, дэталі і рыфму. Чытала ўпершыню гэты верш з літаратурнай старонкі нашай абласной газеты, едучы па асенняй дарозе з сябрамі, запомніла яго, таму што ён вельмі клаўся на журботную красу палёў і на сэрца:

На дарогі і рэчкі
Восень кідала цень.
І бярозы, як свечкі,
Дагаралі ўвесь дзень.

На пачатку творчых пошукаў Анатоль Іверс уводзіць публіцыстычны, лозунгавы перыфраз у

вершы аб прыродзе: «чырвоны шоўк выпроствае вятрыска-брыгадзір». У раздзеле «Новыя вершы» паэтычны набытак мінулага даводзіцца да бляску: «Па-над Слонімам стыне неба — сіні плакат. Я стаю на вяршыні, над вачамі — рука». Сімволіка маладосці перанесена ў сталасць, простыя радкі страфы чытаюцца з двайным падтэкстам — канкрэтным і пераносным: на вяршыні гадоў, на вяршыні паэтычных дасягненняў. У вершы «Палеская бетонка» паэт знітоўвае рытмы працоўнага напружанага руху па дарозе са святочным пейзажам, які кідаецца ў вочы тым, хто едзе па дарозе. І зноў вострая памяць зблізкае сучаснасць з ваенным мінулым, якое ніколі не адступае на задні план у памяці аўтара:

Пацягнула знаёмым
Праз бензінны нагар —
Халадком вадаёмаў
І чым пах мой наган.

Ёсць у зборніку вершы аб дружбе народаў, аб народных героях, аб партыйных дзеячах. Але найболей прывабная «лясная» паэзія Анатоля Іверса. У вершы «У зімовым лесе» паэт крыху блазнуе: ён быццам унуку паказвае лес-загадку, упершыню знаёміць яго з жыхарамі лесу, каб нечакана весела сказаць пра сумнае ў канцы верша:

Потым скажаш: след, як лапаць,
Нам пакінула зіма.
То была мядзведзя лапа,
Але ў нас яго няма.

Зборнік дае найбольш поўнае ўяўленне пра творчыя набыткі Анатоля Іверса.

*1982*

*Ала ПЕТРУШКЕВІЧ*

## Слова пра «Травень» — апошнюю кнігу Анатоля Іверса

Рэцэнзію ранейшага зборніка вершаў Анатоля Іверса я закончыла пажаданнем Івану Дарафеевічу: «Чалавек ідзе па зямлі, па шырокай лясной дарозе. Гэта яго зямля. Ён жыве любоўю да яе. Добрага шляху Вам, шаноўны Іван Дарафеевіч! Няхай ён прывядзе Вас да светлага “Траўня”!» Справа ў тым, што з'яўленне такога заключэння-пажадання невыпадкова. Калі зімою мы развіталіся з паэтам, Данута Бічэль паабяцала яму, што сустрэнемся ў травені, маючы на ўвазе юбілей паэта. Ён жа са скрухай прамовіў: «Ці дажыву?..» І яшчэ «Травень» — гэта назва новага зборніка вершаў паэта, вокладку якога ён нам у тую сустрэчу паказваў з надзеяй, што хутка выйдзе кніга.

І вось сёння — той светлы травень. Мы ізноў у Слоніме. Віншуем Івана Дарафеевіча з 85-годдзем. А ён усім нам дорыць свой «Травень». Кніжка выйшла якраз напярэдадні юбілею.

На ўсёй вокладцы, афарбаванай у зялёна-жоўтыя вясеннія колеры, раскіданы малюнкі-сімвалы: цудоўныя белыя ландышы, што прабіліся праз адтуліну салдацкай каскі, каб расквітнець, напомніць пра вясну, гэта і скалечаны зруб, і сагнутая былінка, і далікатная кветка, і крыжы. Усё гэта прайшло праз жыццё паэта, увайшло ў яго вершы, стала яго паэтычнай біяграфіяй.

Адкрываецца зборнік вершам «Травень». «Месяц травень — і я ў доме…» Так, ён, паэт Анатоль Іверс,

у родным доме — у сваёй сціплай, але такой дагледжанай, утульнай хаце ў Слоніме, у родных Чамярах, дзе шчыра вітаюць юбіляра-земляка і галасістыя «Чамярыцы», і даўнія знаёмыя, сваякі. Ён — у сваёй Беларусі, у нашым агульным доме.

Уся ягоная біяграфія, асноўныя моманты яе тут, у гэтым вершы. Твор-сцяжынка ў мінулае, дзе было так багата ўсяго. А найболей — ліха, ад якога імкнуўся вызбавіцца, «Думаў, ліха праміне. / А яно паміж снапамі / Падбіралася бліжэй». Бо ў ягоным лёсе яскрава адлюстраваўся лёс Беларусі ўвогуле, лепшых яго сыноў, што заўсёды былі пад пільным вокам уладароў-чужынцаў: «І паклёпы, і даносы / Пры панах, бальшавіках». Крыжы — загубленыя жыцці родных. Напрыканцы верша — балючае ўсведамленне: «Толькі я адзін маячу / На сямейным дрэве — ліст».

Заўсёдны шчымлівы боль паэта — родная мова. Адно ў гэтым зборніку набярэцца цэлая нізка вершаў на гэту тэму: «Прадзедава мова», «Родная мова», «Хто ж такі я?», «А вёска кліча» і інш., у якіх скрушны ўспамін, як «ад мовы ўсё "лячылі", ад жывой, вячыстай», і прызнанне, напоўненае справядлівым гонарам: «Мову родную не кінуў», і поўнае годнасці сцвярджэнне: «Не, наша мова — не трасянка», і змаганне з ворагамі Беларушчыны сваім палымяным словам:

Таму не дзіва, што злачынец,
Каб затуманіць нашу голаў,
Ён школу родную зачыніць:
Хай люд гібее цёмны, голы.
І будзе бэсціць нашу мову, —
Чужую пусціць па калгасе…

Паэтычная гісторыя беларускага краю, пададзеная з добрай доляй гумару, праз які аднак жа прабіваецца боль, крыўда з-за спрадвечнага чакання беларусаў на добрага суседа-брата, чаканне, вядома ж, марнае, што не раз ужо было даказана ў мінулым:

Ішоў Пілсудскі — абяцаў
Свабоду беларусам.
А як рассеўся, нібы цар,
Нат не крануў і вусам.

І дарэмнае спадзяванне на «святло з усходу»: «Свабода... Плач або канай / Зімою ці ў прыпарку». Але найвялікшая прыкрасць ад таго, што гэты люд усё яшчэ чакае, спадзяецца не на сябе, не на сваю сілу, сілу сапраўдных гаспадароў гэтага краю: «Чакаюць людзі: ну калі / Мінецца лёс сабачы?»

Глыбока хвалюе паэта наша сёння. Клопат свой з-за становішча на Беларусі перадае праз пытанне, што гучыць рытарычна: «Хоць мірны час, дзе ж супакой / На нашай роднай Беларусі?»

Светлыя юбілеі. Святочныя даты, звязаныя з гісторыяй краю і чалавечым шляхам. Але і ў гэтыя светлыя святы, як і ў час ягонага юбілею, да паэта прыходзіць боль-клопат, што чорным ценем кладзецца на сэрца, азмрочвае святочны настрой: «Нашу мову заглушылі злыдні. / Гэта — цень на светлы юбілей».

Розны сэнс уключае ў сябе гэтае слова — юбілей. Пра адзін такі юбілей расказвае паэт у вершы «1946–1996». Паміж датамі — 50 гадоў. Столькі мінула з часу сустрэчы паэта з Уладзіслававай Францаўнай Луцэвіч, цёцяй Уладзяй, ад якой атрымаў «з добрых рук дар з аўтографам на кнізе».

Асабліва кранае верш «Мо апошні юбілей?..», прысвечаны Івану Чыгрыну. Гэта зварот да паэтаземляка, у якім ізноў жа аповед пра ўвесь жыццёвы шлях паэта. Пытанне «Мо апошні юбілей?..» гучыць лейтматывам, надае вершу характар споведзі, прызнання ў тых «грахах-правінах», што вярэдзяць душу, што перапляліся ў цяжкае «таўро» і не пакідаюць у спакоі. Гэта і згадка пра супрацію шматлікім акупантам: «Дэфензіву пераўжыў. Пераўжыў гестапа», пра тое, як Саветы «лезлі ў вочы, як асва, выгналі за дзверы». Напрыканцы згадвае пра яшчэ адну правіну, згадвае з горкай іроніяй, разумеючы ўсю абсурднасць такіх абвінавачванняў, якія аднак жа непасрэдна ўплывалі на лёс чалавека: «І яшчэ віна была — беспартыйны, брацця».

Што да прысвячэнняў, то іх багата ў зборніку: «І Васілёк паказваў вочы» — памяці паэта Міхася Васілька, дзе хораша абыгрываецца такі мілы псеўданім аўтара кніжкі «З сялянскіх ніў», галоўным у жыцці якога была мара пра вольную Беларусь: «Бо любіў ён Беларусь, — / Край бацькоў, свабоду». «Развеяліся хмары» — жонцы Ніне. З'яўленне гэтай мілай, прыгожай жанчыны ў жыцці паэта — як з'яўленне святла пасля «ночы чорнай» няшчасцяў і стратаў. Гэта і прысвячэнні Валянціну Таўлаю, і Ігнату Дварчаніну, і Пятру Дабрыяну, і доктару Галіне Майсеенкавай.

Як і ў ранейшых кнігах, у «Траўні» багата вершаў, героі якіх — лес, дрэвы. Сюды, у «вечную малельню», прыносіць паэт сваё сэрца, тут, «між дубоў векавых», знаходзіць адхланне, набіраецца сілаў.

Нечаканасцю для мяне было сустрэць у кнізе Анатоля Іверса верш «Зорка», эпіграфам да якога ўзята страфа з песні метадыстаў:

Радасць свеціць мне у сэрцы
Зоркай з неба, з выш,
Каб ў нядолі, ў паняверцы
Мог нясці свой крыж.

Мелодыя гэтай песні запала ў душу паэта з далёкіх трыццатых гадоў, калі секта метадыстаў раз’язджала па беларускіх вёсках, каб данесці сэнс свайго вучэння людзям, каб далучыць да метадызму з яго сапраўды прыгожымі, гуманістычнымі ідэямі новых прыхільнікаў. Паэта ўсхвалявала перш за ўсё тое, што песня гучала па-беларуску. Гэта было вельмі рэдкай з’явай, мо таму і да сягоння «Мелодыя жыве, трывожыць / Душу лірычнасцю напеўнай». Трывожыць, бо ў душах людскіх нараджалася вера ў чалавека як найвялікшую самакаштоўнасць, у веліч яго духоўных сілаў:

А ведалі, што наша зорка
Паможа крыж зваліць адвечны,
Да радасці з нядолі горкай
Мы паляцім па Шляху Млечным.
І чалавек, як цуд дзівосны,
Святло зялёнае запаліць
Пад сінім небам, там, дзе вёсны
Яшчэ ніколі не ступалі.

Прыхільнікам метадызму быў Гальяш Леўчык, слынны паэт нашаніўскай пары. Анатоль Іверс робіць здагадку: ці не Леўчыку належыць беларускі пераклад песняў метадыстаў? Адзіная прыжыццёвая кніжка паэта выйшла, як вядома, у 1912 годзе, калі нарадзіўся Анатоль Іверс. Пра гэтае супадзенне (ці супадзенне?) — у вершы «Чыжык беларускі»: «Гэтай кніжцы я — равеснік. / Леўчык быў напэўна рад…»

Часам паэтычны радок Анатоля Іверса, звычайна такі мяккі, шчыры, просты, пачынае гучаць узнёсла, велічна. Калі ў сваім роздуме паэт уздымаецца над часам, над лёсам:

Ізноў стаю на сутыкненні
Гадоў, а можа і эпох.
Лаўлю адвечныя праменні,
Якіх ніхто не перамог.

Кніга Анатоля Іверса выйшла дзякуючы мецэнату — Слонімскай узбуйненай друкарні. Удзячнасць яе дырэктару У.П. Філіпаву выказвае паэт у вершы «Падзяка», якім і заканчваецца зборнік.

Дык пра што ж ягоны клопат сёння, пра што неспакой аднаго з самых паважаных нашых паэтаў, які пераступіў ужо мяжу свайго 85-годдзя? Адказ — у вершах, пажаданнях: «Каб ведалі, што мы — народ», «Каб Беларусь наша была / Краінай вольнай, незалежнай», «Хай дзень ідзе ў праменнях ранніх!» Няхай светлыя пажаданні паэта спраўдзяцца.

*1997*

*Сяргей ЧЫГРЫН*

# Паэт служыў Радзіме

*Прадмова да кнігі «Аўсяныя росы»*

У Слоніме ў доме № 8 на вуліцы Дабрыяна цяпер жывуць іншыя людзі. Я стараюся ў тым раёне бываць рэдка. Бо калі праходжу каля хаты, дзе жыў паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) са сваёй жонкаю Нінай Паўлаўнай, сэрца пачынае шчымець ад таго, што ўжо няма гэтага сціплага чалавека і цікавага паэта. Яго не стала ў кастрычніку 1999 года, а крыху раней памерла Ніна Паўлаўна.

Калі бываў вольны час, я спяшаўся ў гэтую хату. Адчыняў знаёмыя веснічкі, праходзіў па невялікім дагледжаным надворку, заходзіў у сенцы, дзе пахла бульбаю і сушанымі яблыкамі ці грушамі. З парога мяне вітала шчырая Ніна Паўлаўна — сяброўка па жыцці і жонка паэта. А Іван Дарафеевіч, як звычайна, сядзеў за сталом у сваім чысценькім невялікім пакойчыку і нешта пісаў.

«Пажаніліся мы летам 1945 года, — расказвала Ніна Паўлаўна. — Вось з таго часу і разам. А пазнаёміліся ў рэдакцыі слонімскай газеты “Вольная праца”, дзе я працавала літработнікам. Мне ён тады вельмі спадабаўся. Раней у Слоніме я не бачыла і не сустракала прыгажэйшага за яго мужчыну. Хаця на першы погляд здавалася, што Іван звычайны, як усе. Але заўсёды, у адрозненне ад іншых, ён быў і заставаўся паэтам. Вершы яго мне таксама падабаюцца. Я, напрыклад, як выйду зімою на вуліцу, заўжды прыгадваю яго радкі:

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.

Асабіста мне муж прысвяціў толькі адзін верш — “Развеяліся хмары”. Але я ніколі на гэта не крыўдавала...».

Гэты верш быў надрукаваны ў апошнім зборніку Анатоля Іверса «Травень» (Слонім, 1997). У ім ёсць і такія радкі:

Сяброўка трапілася мне
Не горшая, чым марыў.
І перастала ўжо цямнець,
Развеяліся хмары.

Так, хмараў у жыцці паэта са Слоніма было шмат. Нарадзіўся ён 15 траўня 1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Праз два гады сям’я падалася ў бежанства. Жылі ў Казанскай губерні і ў Кіеве. Вярнуліся дамоў толькі ў 1918 годзе.

Як ні цяжка было, але за гэты час маленькі Іван навучыўся чытаць па-руску, а калі вярнуўся з бацькамі ў родныя Чамяры, пайшоў «перавучвацца» ў польскую пачатковую школу. Але гэтыя мовы былі для яго чужыя. Хлопчыку хацелася вучыцца ў беларускай школе. Аднойчы летам з Віленскай беларускай гімназіі прыехаў у Чамяры Казімір Чартовіч, які за лета падрыхтаваў чамяроўскіх дзяцей да паступлення ў гімназію. Сярод гэтых вучняў быў і Іван Міско. У 1926 годзе ён становіцца вучнем Беларускай гімназіі ў Вільні. Там чамяроўскі хлопец знаёміцца з Алесем Салагубам, Язэпам Урбановічам, Міхасём Васільком. Раскідвае лістоўкі, носіць у турму мапраўскія перадачы для вязняў, расклейвае плакаты, ходзіць на дэманстрацыі рабочых. Адной-

чы паліцыя разагнала забастоўшчыкаў, а некалькі дзясяткаў навучэнцаў былі выключаны з гімназіі, у тым ліку і Іван Міско, якога пад канвоем прывезлі ў Чамяры і пад распіску здалі бацькам.

Потым былі яшчэ дзве спробы працягваць адукацыю — у Клецкай і Навагрудскай гімназіях, але і адтуль «бунтар» Міско быў выключаны. У 1931 годзе юнак вярнуўся ў родную вёску.

У адзін з вечароў да Івана Міско зайшоў незнаёмы хлопец, перадаў прывітанне ад Валянціна Таўлая і папрасіў згоды на подпіс пад Дэкларацыяй сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Дэкларацыя і першы верш Івана Міско пад псеўданімам Анатоль Іверс былі апублікаваныя ў студзеньскім нумары часопіса «Літаратурная старонка» за 1934 год. Праўда, наклад часопіса быў канфіскаваны, з друкарні ўдалося вынесці толькі некалькі нумароў.

Праз пэўны час вершы Анатоля Іверса сталі часта друкавацца на старонках выданняў «Літаратурная старонка», «Калоссе», «Беларускі летапіс», «Шлях моладзі», «Наша воля», «Асва». А ў верасні 1939 года ў Вільні выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Песні на загонах».

Аб чым пісаў малады паэт са Слонімшчыны? Ды пра тое, як шуміць жыта, як «хтось расчэсваў зялёныя сосны», як «заігралі ветры ў полі», як «залацілася раніца ападаючым шэлестам». Ці пра тое, як «ціха гарэлі аўсяныя росы…». А яшчэ паэт пісаў пра Беларусь, пісаў шчыра і светла, натхнёна і радасна:

Адзначыць каб добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай,
На славу табе, Беларусь.

Калі прыйшлі «першыя Саветы» і ў Слоніме пачала выдавацца раённая газета «Вольная праца», яе першы рэдактар Іосіф Чарняўскі запрасіў Івана Міско на пасаду літсупрацоўніка рэдакцыі. А ў 1940 годзе на выязным пасяджэнні ў Беластоку кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі БССР прыняло Анатоля Іверса ў Саюз пісьменнікаў.

У гады Другой сусветнай вайны Іван Міско ўзначальваў Слонімскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю і быў намеснікам камандзіра партызанскага атрада імя Дзяржынскага па разведцы. У лесе выдаваў антыфашысцкую газету «Барацьба», лістоўкі, дапамагаў выпускаць падпольную «Вольную працу».

Вайна прайшла праз сэрца і душу Анатоля Іверса. Ён страціў першую жонку і бацьку, ды і сам быў на валаску ад гібелі. Але, нягледзячы на ўсе яго асабістыя пакуты і заслугі перад Айчынай, для савецкай улады паэт Анатоль Іверс у Слоніме заўсёды заставаўся чужым. І нават другі паэтычны зборнічак вершаў выйшаў з друку ажно праз 31 год пасля першага. «Не хацелі камуністы выдаваць», — казаў ён мне. Зборнік называўся «З пройдзеных дарог». Дарог, сапраўды, было пройдзена шмат. Нялёгкіх дарог, пакручастых, небяспечных і палыновых. Таму выхад другога зборнічка вершаў для Івана Дарафеевіча быў вялікай радасцю. У яго ўвайшлі вершы, напоўненыя пачуццём шчырай любові да роднага краю і яго працавітых людзей. У сваіх паэтычных радках Анатоль Іверс стараўся праўдзіва адлюстраваць перамогі над усімі акупантамі, якія не давалі спакойна жыць і працаваць на роднай зямлі:

Перамога! Перамога!
Абіваем з ботаў пыл.

І на пройдзеных дарогах
Ставім новыя слупы.
Вецер гутарыць з ліствою,
Ад кастра адносіць дым.
А слупы ўсе пахнуць хвояй,
Нашым лесам маладым.

Але як бы цяжка Анатолю Іверсу ні было і дзе б ён ні працаваў, заўсёды пісаў вершы, ніколі не цураўся матчынай мовы. «Я заўсёды размаўляў на сваёй мове. За гэта мяне называлі нацыяналістам. Мяне не арыштоўвалі, хоць дапытвалі больш чым паўсотні разоў, але двойчы звальнялі з працы за тое, што “не внушал политического доверия”», — часта шчыра ўспамінаў паэт.

Але слонімскі аўтар трываў і «шчасце спазнаваў» у сваіх вершах. Трэці зборнік паэзіі «Жыву ў бацькоўскім краі» пабачыў свет у Мінску ў 1982 годзе. Ва ўступным слове да яго прафесар Алег Лойка трапна заўважыў, што «вершы Анатоля Іверса другой паловы 60–70-х гадоў раскрылі жыццёвы лёс паэта найбольш шырока і глыбока, і іх дэкларацыі — часцей за ўсё менавіта ёмістыя паэтычныя формулы жыцця і барацьбы, вернасці Радзіме, праўды лёсу чалавечага, як, напрыклад, гэтыя:

Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць,
Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

Нялёгка было ў правінцыі жыць, але вершы пісаліся, і выдаваліся новыя кнігі: «Я пайшоў бы ўслед за летам…» (Мінск, 1987), «Прыдарожныя сосны» (Слонім, 1995), «Травень» (Слонім, 1997).

Для мяне, а таксама для ўсіх землякоў Анатоль Іверс найперш застаўся ў нашай памяці як паэт, які шчыра служыў свайму народу і Бацькаўшчыне. У вершы «На Дзяды» ён сам падвёў вынікі пражытага і сказаў пра ўсё смела і адкрыта:

Я тры рэжымы пражыў:
Быў пан, быў гітлерац, «таварыш».
І памяць кажа: беражы,
Каго яны закатавалі.
Палегла многа без віны
За мову родную ў змаганні.
А голас іх дасюль звініць
На гістарычным скрыжаванні…

На гістарычным скрыжаванні па-ранейшаму гучаць і вершы слонімскага паэта Анатоля Іверса. Лепшыя з іх склалі гэту кнігу. Сюды таксама ўвайшлі некаторыя ўспаміны паэта. Адны з іх друкаваліся некалі ў рэспубліканскім друку, іншыя — узяты з архіва складальніка гэтай кнігі. Іван Дарафеевіч пісаў і друкаваў іх на машынцы па некалькі экзэмпляраў. А калі я да яго прыязджаў, ён казаў: «Вазьмі сабе на памяць, няхай будуць. Можа, калі спатрэбяцца ці дзе-небудзь апублікуеш…».

Цяпер такі час наступіў. Аднатомнік паэта — даніна яго светлай памяці і сустрэча з новым пакаленнем чытачоў. Успаміны вельмі цікавыя і нясуць у сабе гістарычную каштоўнасць, таму што паэт быў асабістым сведкам тых падзей, пра якія напісаў. А вершы паэта — нібы пачатак і працяг гэтых успамінаў.

*2011*

*Сяргей ДУДАЛІЧ*

# Невядомыя вершы Анатоля Іверса

26 кастрычніка 1999 года не стала паэта, патрыёта і грамадзяніна Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско, 1912–1999). Ён пражыў доўгае жыццё, за якое паспеў зрабіць шмат добрых спраў для шчасця і славы сваёй Бацькаўшчыны. Пісаў прыгожыя вершы. Смела далучаўся да падпольнай дзейнасці ў даваеннай Заходняй Беларусі, за што не раз зведаў катаванні ад польскай паліцыі. А пасля была вайна, зноў падполле, гібель жонкі і бацькі…

Ужо ў пасляваенныя гады Анатолю Іверсу доўга прыходзілася дамагацца афіцыйнага прызнання Слонімскай антыфашысцкай арганізацыі, якая існавала на акупаванай фашыстамі Слонімшчыне. Яму, калі адкрыта, калі не, закідалі нават «супрацоўніцтва з акупантамі». Сапраўды, у 1942–1943 гадах Іверс працаваў у Слоніме ў раённай управе, але як падпольшчык, здабываючы важныя для партызан звесткі. Падчас арыштаў слонімскіх антыфашыстаў у лістападзе 1943 года ён здолеў вырвацца ў лес, дзе працягваў барацьбу з ворагам. Таму было вельмі крыўдна і балюча патрыёту цярпець такія здзекі ад улады, за якую рызыкаваў жыццём, змагаўся ў часы ліхалецця.

Нават у гады «незалежнай» Беларусі Анатоль Іверс не меў вялікай увагі з боку ўладаў. Старэйшы заходнебеларускі паэт, напэўна, ад іх нічога і не хацеў. А якія вершы выходзілі з-пад яго пяра ў апошні год

жыцця! І як характэрна гучаць гэтыя радкі з верша «Прыснілася»:

…Сёння мушу партызаніць, —
Будзь са мною, Беларусь!

Калісьці літаратурная спадчына паэта Анатоля Іверса будзе сабрана і выдадзена асобным, салідным выданнем. А пакуль перад даследчыкамі стаіць задача сабраць усе ягоныя творы, часткова параскіданыя па розных перыядычных выданнях.

Гады два назад мне ўдалося натрапіць на невядомыя вершы Анатоля Іверса ў часопісе «Новы шлях», які выдаваўся ў Мінску падчас нямецкай акупацыі ў 1942–1944 гадах. Зразумела, чаму яны невядомыя. У свой час было небяспечна ўспамінаць пра творы, надрукаваныя ў акупацыйным беларускім выданні. Хоць, безумоўна, у факце тых публікацый няма ніякай крамолы: і вершы чыста лірычныя, і часопіс быў беларускім, хоць нямецкія прапагандысты і ўстаўлялі ў яго свае матэрыялы. «Новы шлях» быў найлепшым у той час беларускім легальным выданнем, багата ілюстраваным. Часопіс шмат пісаў пра гісторыю, культуру, паэзію. Вельмі часта ў ім з'яўляліся артыкулы пра Слонім і беларускае жыццё ў Слоніме. Пісалі іх Сяргей Хмара, Сяргей Новік-Пяюн ды іншыя. На сённяшні дзень удалося выявіць і тры вершы Анатоля Іверса, змешчаныя ў «Новым шляху» ў 1943 годзе*. Адзін з іх падпісаны крыптанімам «А. І.», два іншых — Анатоль Івэрс. Ёсць у часопісе

* Вершы публікаваліся таксама ў кнізе «Аўсяныя росы» (Мінск, 2011).

ў № 19 за 1943 год і артыкул «Слонімскі музэй», якія падпісаны крыптанімам «І. М.» Ці не Іван Міско?

Каб разгадаць гэтую загадку, я звяртаўся да Івана Дарафеевіча. Аднак, ён сказаў, што не памятае, ці друкаваўся ў «Новым шляху», ці не. «Здаецца, не», — казаў Анатоль Іверс. Наогул, на гэту тэму гаварыць ён не любіў...

*2000*

# Вершы-прысвячэнні

*Алег Лойка*

## Міма Чамяроў

*Урывак з паэмы «На залатым перазове»*

Ах, як любім мы міма, міма,
Ні крышыначкі ў нас пілігрыма,
І ні кропелькі піетэту,
Бы не тут, а за морам — мэта.
Тут стаяла хата Паэта…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Не бяжы ж, цягніку, па-цыганску, —
Мог музеем быць партызанскім
Хутар гэты — закутак гэты…
— Што яшчэ за такі закутак?!
Я не спыньваўся тут ніколі!..
— А як Іверсава падполле
Рух спыніла на трое сутак?
— Не прасі, дзед, і не маліся:
Сеў не ў тую ты электрычку!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Над Валобрынкай засталіся
Кураслеп, быльнёг і дзічкі.



…Уцякалі. Душыў нас храп,
Не пазбегнуць чырванашапак —
Заграбушчых іх ліпкіх лап,
Што студэнта хапалі ў ахапак.
Ды няхай тое, хай, няхай!..
Кінем стыль крытыканцкі, ніцы,
Бо ў Баранавічах Таўлай
Нарадзіўся, каб жыць ў Азярніцы.
Каб пасля Іверса сустракаць
І каб Іверс у сорак сёмым
Ў гарсавеце мне стаў чытаць
Пасмяротны Таўлаевы томік…

*Сяргей Чыгрын*

## Маналог Анатоля Іверса

Шмат пройдзена дарог,
Каб жыць ў бацькоўскім краі.
Пішу радкі трывог —
Былое ўспамінаю.
І песні на загонах,
Што нараджалі мы,
Гучаць у сэрцы сёння,
Як першыя грамы.
Ад Слоніма да Вільні
Па праўду я хадзіў,
А дома спелі вішні,
Што з хлопцамі садзіў.
Гады, як тыя вішні,
Апалі на мурог.
Не ўсе жывымі выйшлі
З тых пройдзеных дарог.
Вяслуе даты Шчара,
Пяе птушыны грай…
Збылася наша мара —
Расцвіў бацькоўскі край!

*Алесь Сучок*

## Крочыць песня па загонах

*Прысвячаю Анатолю Іверсу*

Дні з нястрыманым імпэтам —
Ты ж за імі наўздагон
Да вялікай крочыў мэты,
Несучы ў душы агонь.
І не кожны гэта знае,
Колькі стрэў ты перашкод
На шляху за вольнасць краю,
Шчыра верачы ў народ.
Ты гатовы быў да бою,
Не зважаў на гаркату.
Поруч я ішоў з табою —
Пацвярджаю гэта тут.
Колькі родных, блізкіх, любых
Звяло са свету «груганнё»!
І табе фашыст загубу
Найцяжэйшую нанёс…
Але мужнасці хапіла
Боль тых стратаў пераЖыць.
Хоць заўсёды сэрца ныла
Ў глыбіні твае душы.
Бацька, брат і жонка Вера
Не сустрэлі, іх няма…
Толькі вецер тузаў дзверы,
Па-над хатай плыў туман.
Ты ступіў на панадворак
З поўнай торбаю тугі.
А на ўсходзе браўся золак —

Пачынаўся дзень другі.
І цяпер я вельмі рады,
Што ты стойка перанёс
Ўсе жыццёвыя загады,
Што наконваў табе лёс.
Крочыць песня па загонах,
Па жыццёвай шырыні.
І звініць лірычным звонам,
Як жаўрук у вышыні.
Я жадаю тваёй песні,
Каб заўжды была такой.
Прадвяшчала нам прадвесні,
Несла радасць і спакой!

*Іван Сяргейчык*

## На хутары

*Анатолю Іверсу — песняру*
*зямлі Слонімскай*

Не кладзецца радок —
Разбягаюцца словы,
Не магу іх, як жыта,
У снапочкі звязаць.
Запалоніў душу
Томны пах палыновы, —
Ні развеяць яго,
Ні глынуць, ні прагнаць…
А над лугам саткаў
Вечар коўдру з туману.
Спавівае яна,
Ў ціхім прыцемку, сад…
Тут фашысцкім абцасам
Лёс сям’і растаптаны…
Стогн і сёння чуцён
Між ссівелых прысад.
Лекар-час мохам шэрым
Меціць сведкам галіны,
Травень раны бінтуе
Белым квеценем ім.
У журбе ля чыгункі
Знямелі яліны…
Я кранаюся долу
Каленам сваім…

## *Алена Руцкая*



*Анатолю Іверсу*

Нам дадзена адвечная трывога:
Праз сэрца колькі б ні прайшло дарог,
Усё здаецца, зведана нямнога —
Нязнанага не зменшыўся аблог.
І самая галоўная сцяжына
Яшчэ імкліва кліча у прасцяг,
Імкне пачуццяў светлых ручаіна
Шчымлівасцю трывожнай адкрыцця.
Няхай цяжэй гадоў пражытых ноша
І неадольнай памяці палон,
Ды сэрца многа новых песень зложыць —
Як далягляд, нас кліча працы плён.

## *Іван Чыгрын*



*Анатолю Іверсу*

Зайздрошчу. Чуеце, зайздрошчу.
Не кожнаму адолець плошчу
З узнятай горда галавою
І стрэцца з славаю сваёю.
На плошчы ўсякае бывала.
Найменш дык песняй сустракала.
Найменш дык там былі парады.
Найбольш — пражэктары свяцілі
І кулямёты прагна білі.
Хто там па хвалях пугай хвошча?
Што ён ад хваляў гэтых хоча?
Зайздрошчу Вам, паэт, зайздрошчу.
Вы перасеклі Вашу плошчу —
Насуперак усім абстрэлам.
Рабілі тое, што хацелі.
Паэтам важна нарадзіцца,
Але важней, бадай, адбыцца.

*1982*

*Данута Бічэль*

## Развітанне з Анатолем Іверсам 27 жніўня 1999 года ў Слоніме

*На дарогі, на рэчкі*
*Восень кідала цень.*
*І бярозкі, як свечкі,*
*Дагаралі штодзень...*
Дэфензіва лупіла паэта па пятках,
Ногі адбіла, не адбіла душы.
Хто пры ўладзе тут быў, той наводзіў парадкі,
Хто начальнікам быў, той паэтаў душыў.
А калі ўжо прынеслі ў Край гэты
На штыках вызваленне саветы,
Вось тады ад «сваіх» жа і хапіла паэту!
Ды стрываў, не пабег на край свету...
І з савецкага пекла, як з польскага, вылез,
Свайго слова на вецер не вытрусіў Іверс.
Не атруціўся ад сваіх Чамяроў —
У смалакурні адганяў камароў.
Смерць прыйшла і забрала каханых жанчын,
Ён застаўся на ложку прасторным адзін
Сярод мёртвых жывых, несмяротных памерлых...
Боль застаўся пры ім даставаць яго нервы.
Так ляжаў ён адзін, як касец на пракосе,
Не спяшаючы, думаў, як усё адбылося...
Я зайшла, каб сказаць яму ціха: «Пакуль!»
Пацалаваў мне руку.
*...Мне і сонца пасвеціць*
*Праз асінавы шум.*
*І хаджу я па свеце,*
*Сум і радасць нашу...*

# Каментар

Пад адну вокладку ўпершыню сабраны артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчасці беларускага літаратара са Слоніма Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско). Артыкулы і вершы друкуюцца з беларускіх выданняў розных гадоў, а таксама з асабістага архіва складальніка кнігі. Некаторыя артыкулы напісаны аўтарамі спецыяльна для гэтага выдання.

*Анатоль Іверс.*
*Мой жыццяпіс.*

Друкуецца з асабістага архіва Сяргея Чыгрына.

*І радасць, і боль ад сустрэч.*

Гутарка друкуецца ўпершыню. Перададзена складальніку кнігі пісьменніцай Вольгай Іпатавай.

*Данута Бічэль.*
*Іверс і верш.*

Успамін напісаны спецыяльна для гэтай кнігі.

*Васіль Быкаў.*
*Доўгая дарога дадому.*

Друкуецца паводле кнігі Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому» (Мн., 2002).

*Алег Лойка.*
*Чалавек у дарозе.*

Друкуецца паводле кнігі Алега Лойкі «Паэзія і час» (Мн., 1981).

*Аляксей Пяткевіч.*
*Стойкасць паэтычнай натуры.*

Успамін напісаны спецыяльна для гэтай кнігі.

*Уладзімір Калеснік.*
*Анатоль Іверс.*

Друкуецца паводле кнігі Уладзіміра Калесніка «Лёсам пазнанае» (Мн., 1982).

*Іван Сяргейчык.*
*Горка-салодкі палын.*

Друкуецца з газеты «Слонімскі веснік» (1992, 16 мая).

*«З гонарам кажу, што я — беларус».*

Публікуецца паводле газеты «Слонімскі веснік» (1992, 4 кастрычніка).

*Арсень Ліс.*
*Мастацкая літаратура Заходняй Беларусі.*

Друкуецца паводле кнігі Арсеня Ліса «Gloria victis!» (Мн., 2010).

*Аляксей Карпюк.*
*Выступленне на V з'ездзе пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года.*

Друкуецца паводле «Выбраных твораў» Аляксея Карпюка (Мн., 2007).

*Алена Руцкая.*
*Такое шчасце — бачыць далячынь.*

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтай кнігі.

*Аляксей Ненадавец.*
*Верны сын Беларусі.*

Друкуецца паводле газеты «Гомельскі ўніверсітэт» (1988, 7 чэрвеня).

*Уладзімір Ягоўдзік.*
*«Хочацца нечага святлейшага...».*

Матэрыял напісаны спецыяльна для гэтай кнігі.

*Ала Петрушкевіч.*
*Згадкі пра Анатоля Іверса.*

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтай кнігі.

*Міхась Маліноўскі.*
*Сумаваць яшчэ рана.*

Артыкул публікуецца з асабістага архіва Сяргея Чыгрына.

*Ірына Войтка.*
*Ушаноўваючы памяць паэта.*

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтай кнігі.

*Мікола Мікуліч.*
*«Жыву ў бацькоўскім краі»: Станаўленне творчай індывідуальнасці Анатоля Іверса.*

Артыкул друкуецца паводле кнігі М.У. Мікуліча «Пошук вядзе ў глыбіню» (Гродна, 1998).

*Мікола Арочка.*
*Сосны, авеяныя трывожным лірызмам.*

Друкуецца паводле часопіса «Полымя» (1996, № 8).

*Данута Бічэль.*
*І чую сіл прыліў...*

Друкуецца паводле газеты «Літаратура і мастацтва» (1983, 14 студзеня).

*Ала Петрушкевіч.*
*Слова пра «Травень» — апошнюю кнігу Анатоля Іверса.*

Друкуецца паводле кнігі Алы Петрушкевіч «Пра творы і творцаў» (Слонім, 2002).

*Сяргей Чыгрын.*
*Паэт служыў Радзіме.*

Друкуецца паводле кнігі Анатоля Іверса «Аўсяныя росы» (Мн., 2011).

*Сяргей Дудаліч.*
*Невядомыя вершы Анатоля Іверса.*

Друкуецца паводле часопіса «Слонімскі край» (2000, № 1). Псеўданімам Сяргей Дудаліч падпісваўся выдавец і рэдактар часопіса Сяргей Ёрш.

## *ВЕРШЫ-ПРЫСВЯЧЭННІ*

*Алег Лойка.*
*Міма Чамяроў.*

Верш друкуецца паводле кнігі Алега Лойкі «Ушанаванне» (Слонім, 2001).

*Сяргей Чыгрын.*
*Маналог Анатоля Іверса.*

Верш друкуецца паводле кнігі Сяргея Чыгрына «Шчырая Шчара» (Слонім, 1993).

*Алесь Сучок.*
*Крочыць песня па загонах.*

Друкуецца паводле газеты «Слонімскі веснік» (1992, 4 жніўня), дзе ўпершыню быў апублікаваны.

*Іван Сяргейчык.*
*На хутары.*

Верш друкуецца з літаратурнага альманаха «Пад гукі паланэза» (Слонім, 2005).

*Алена Руцкая.*
*Нам дадзена адвечная трывога...*

Верш друкуецца паводле кнігі «Краю мой — Нёман» (Мн., 1986).

*Іван Чыгрын.*
*Зайздрошчу...*

Верш друкуецца са зборніка Івана Чыгрына «Люблю вясну» (Мн., 2000).

*Данута Бічэль.*
*Развітанне з Анатолем Іверсам*
*27 жніўня 1999 года ў Слоніме.*

Аўтарка даслала верш спецыяльна для гэтай кнігі. Напісаны ён быў 27 жніўня — 27 кастрычніка 1999 года.

*Фотаздымкі з асабістых архіваў Сяргея Чыгрына, Уладзіміра Ягоўдзіка, Алы Петрушкевіч, Ірыны Войтка.*

# Змест

**Вершы-прысвячэнні**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ АНАТОЛЯ ІВЕРСА**
*Успаміны, згадкі, рэцэнзіі, прысвячэнні, пісьмы, фотаздымкі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 15.02.2012. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 10,92.
Ул.-выд. арк. 6,47.
Наклад 200 ас. Зак. 108.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.